


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

22 СНЕЖНЯ 2000г. № 51-52/4083-4084 КОШТ 110 РУБ.


## МЕСТА ВЫСОКАЕ НА ПУЛЬВЕ

**Марыя МІХАЙЛАВА: "Закрадвалася горкая думка: калі не палепшыцца сітуацыя з адносінамі да беларушчыны, дык ці доўга пратрымаецца Юрый Іванавіч разам са сваімі калегамі і калежанкамі, ці не выветрыцца і ў іхнім каледжы беларускі дух, як выветрыўся, прапаў ён шмат дзе?"**


**5, 12**


## "Я ЖЫВУ НА СВАІМ ЧАРНАГОР'І..."

**Вершы Віктара ГАРДЗЕЯ**


**8**


## МЫЛІЦЫ ДЛЯ ЦАГЛЯНАЙ СЦЯНЫ

**Навела Алеся ДЗЯТЛАВА**


**9**


## "ДУШУ СВАЮ АДДАМ У ВЕРШАХ..."

**У рубрыцы "Імёны і творы" Алесь БЕЛЬСКІ прадстаўляе паэта-маладнякоўца Янку БОБРЫКА.**


**13**


## ГЭЙ, ПАНОВЕ, ПАДТРЫМАЕМ... КАГО?

**Васіль ЯКАВЕНКА: "Як ні дзіўна, вестка, якая два-тры месяцы назад трапіла мне на слых і насіла на сабе адзнаку няпэўнасці, пацвердзілася: робіцца спроба раскалоць Саюз беларускіх пісьменнікаў і стварыць новае творчае аб'яднанне, новы саюз. Навошта?"**


**14—15**


### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Аформіце падпіску на "ЛіМ" на першае паўгоддзе 2001 года можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **600** рублёў, на тры — **1 800**, на паўгода — **3 600**. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц — **1 560** рублёў, на тры — **4 680**, на паўгода — **9 360**.*

**Наш індэкс — 63856.**

*Фота Г. ЖЫНКОВА*

***А ў нашы хаты***
***Ідуць Каляды***
***З куццёй багатай,***
***З казой рагатай...***



## КОЛА ДЗЁН

***Канчаецца год, а разам з ім і стагоддзе, і тысячагоддзе. Пройдуць літаральна лічаныя дні і на цыферблаце адвечнага гадзінніка з'явяцца новыя, нязвычныя лічбы — на вахту заступіць год 2001-ы. Што прынясе ён людзям, народам, чалавецтву? У шчымлівым самападмане людзі паўсюль звязваюць з Новым годам лепшыя спадзяванні. А як жа іначай? Надзея ж паміране апошняй! Мы, беларусы, таксама спадзяёмся, што жыццё наша павернецца ў лепшы бок. Нельга быць у пярэдадзень Новага года песімістамі. Можам супакоіць сябе чыста па-беларуску: былі і горшыя часіны на нашай зямельцы, але ж неяк перажылі. Перажывём і зараз. Вялікі наш народ не толькі ў працалюбстве сваім, дабрыні і мужнасці, але і ў цярплівасці сваёй. І Магутны Божа ў рэшце рэшт атуліць яго сваёю высокаю ласкаю. І ачуняе наша Беларусь, і вольна засмяюцца нашы людзі, "і будзе ўнука панаванне там, дзе сягоння плача дзед"...***

***З Новым годам! З верай у лепшую долю!***

### ШЧАСЦЕ ТЫДНЯ

Маэстра Міхал Фінберг аб'явіў аб узнаўленні, адраджэнні славутага Маладзечанскага фестывалю беларускай песні і паэзіі. У інтэрв'ю карэспандэнту "Народнай газеты" ён выказаўся пра гэта з уласцівым для яго эмацыянальнасцю і шчырасцю: "І гэта для мяне шчасце, цуд! Думаю, і для многіх тысяч людзей — тых, хто любіць песню і паэзію. Ведаеце, нельга нам губляць святое, вечнае — нашу родную мову, матчыну песню, паэзію... А ўсё гэта разам — наш бясцэнны скарб. І яго трэба папаўняць залацінкамі сучаснага мастацтва..." Як кажуць, святая праўда! Гэта перакананне не толькі маэстра, але і дзяржаўнага мужа: Міхаіл Якаўлевіч прызначаны членам Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу...

### ПАКАЗЧЫК ТЫДНЯ

Супрацоўнікі Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД) у час правядзення сацыялагічнага апытання насельніцтва задалі людзям, сярод іншых, і такое пытанне: "Якая форма ўласнасці, на вашу думку, больш эфектыўная?" І што высветлілася? Большасць апытаных — 53 працэнты — выказаліся за прыватную форму ўласнасці. Вось вам і беларусы! Вось вам і "жыхары камуністычнага запаведніка"! Жыццё ўсё ж не стаіць на месцы. Як ні марудна, але новыя павевы часу перамагаюць і ў нас.

### СКАЧОК ТЫДНЯ

Адразу на 40 працэнтаў падскочылі тарыфы на газ для насельніцтва, у тым ліку на газ у балонах. Зараз балон з газам абыдзецца спажыўцу ў 1751 рубель. Адчувальная сума для любога сямейнага бюджэту, ці не праўда? А між тым, спецыялісты канцэрна "Белпалівагаз" сцвярджаюць, што нават і пасля гэтага павелічэння тарыфаў узровень пакрыцця выдаткаў не наблізіўся і да паловы сабекошту. Дальбог жа, "старо предание, но верится с трудом"... А на падыходзе — павелічэнне кошту праезду на гарадскім грамадскім транспарце. Нават ужо і лічба называецца: з сённяшніх 40 рублёў — да 60-ці. Такія вось навагодняя падарункі ўсім нам?

### ПРАЦЭНТЫ ТЫДНЯ

П'янства — ці не самая страшная трагедыя нашага народа. Ці не страшнейшая за чарнобыльскую. П'юць не толькі мужчыны — усё больш ахвярамі "зялёнага змея" становяцца жанчыны і, што самае жахлівае, дзеці, падлеткі. П'янства, ведома, сацыяльнае зло, вынік бездухоўнасці грамадства, аднак жа яно правацыруецца, актывізуецца і эканамічнымі прычынамі. Памяркуйце самі: пляшка гарэлкі каштуе куды танней, чым кіло самай таннай варанай каўбасы. Праявы ці не свядомай, амаль мэтанакіраванай алкагалізацыі народа — паўсюль. Вось толькі адна з іх. Як паведамляе статыстыка, амаль 40 працэнтаў загінуўшых сёлета на вытворчасці рабочых былі ў нецвярозым стане. І гэты паказчык, на жаль, вось ужо доўгі час не мае тэндэнцыі да змяншэння. Больш за тое. У Міністэрствах архітэктуры і будаўніцтва і сельгасхарчу, у канцэрнах "Беллеспаперапрам", "Белэнерга" і шэрагу іншых ён, наадварот, павялічыўся... А мы ўсё спяваем "Гуляць дык гуляць" ды "Піце піва, мужыкі"!

### НУВАРЫШ ТЫДНЯ

Усё-такі недаацэньваем мы сябе! Усё нам здаецца, што недзе, за гарамілясамі, усё лепш, чым у нас. Там, маўляў, нават і крадуць лепш, чым у нас. Прынамсі, у большых памерах, не па драбязе. Ну ведома ж: беразоўскіх ды гусінскіх у нас нямашака! Няма? Ды бадай ёсць! Прынамсі, адзін знайшоўся ў Светлагорску. Праваахоўнымі органамі там затрыманы намеснік генеральнага дырэктара аб'яднання "Хімвалакно". Пры вобыску ў яго выяўлена сто тысяч долараў, а на замежных рахунках, па папярэдніх звестках, каля мільёна "зялёных". Значыць, дарэмна прыбядняемся. Мы таксама, аказваецца, не ў лапці абутыя...

### ДАСЯГНЕННЕ ТЫДНЯ

Новы год — свята адметнае, самае непалітызаванае, самае, так сказаць, сямейнае. Яно, як ніякае іншае, традыцыйна атаясамляецца з пляшкаю шампанскага. Як амерыканскае свята падзячнасці — з індычкай. Дай Божа, каб у кожнай сям'і ў навагоднюю ноч была гэтая самая пляшка шампанскага. Але ж ці варта біць у званы і крычаць з першых палос усіх газет аб тым, што сёлета Мінскі завод шампанскіх він выпусціў больш за 10 мільёнаў пляшак гэтага напітку, а да канца года выпусціць і яшчэ добрага паўмільёна? І ці гэтак ужо трэба радавацца ад таго, што сёлета шампанскага будзе выпушчана ажно на 1 мільён 142 тысячы бутэлек больш, чым летась? Якое б яно смачнае ні было, аднак жа гэта ўсё ж напітак алкагольны, а не каўбаса ці масла. Нават і ў перадвнавагодні дні ўсё ж прыемней было б чытаць пра нейкія іншыя дасягненні...

### ФЕРМА ТЫДНЯ

Калісьці, гадоў дзесяць назад, мы са здзіўленнем і захапленнем глядзелі тэлерэпартаж з кароўніка нейкага італьянскага фермера. Зрэшты, кароўнікам тое памяшканне называць было б грэшна — хутчэй палатай. Ці камп'ютэрным цэхам. Прынамсі, камп'ютэрызацыя была суцэльная: ад чысціні, вентыляцыі, паення-кармлення да ўборкідаення. І вось нешта падобнае паявілася нарэшце і ў нас — у сельгаспрадпрыемстве "Кастрычнік" Гродзенскага раёна. 300 каровак (знаходзяцца яны ў боксах круглагадова) абслугоўваюць механізатар і тры даяркі. Рагулі даюць у такіх умовах больш чым па 6 тысяч кілаграмаў малака за год. Колішняя італьянская казка сталася быллю?

### АКСІЁМА ТЫДНЯ

На рэспубліканскім семінары супрацоўнікаў ДАІ міністр унутраных спраў У. Навумаў падкрэсліў, што галоўныя намаганні будуць скіраваны на змену псіхалогіі даішнікаў — яны павінны быць не наглядчыкамі, а памочнікамі ў арганізацыі дарожна-транспартнага руху і забеспячэнні яго бяспекі. Божа крэпкі, колькі ўжо гадоў, нават дзесяцігоддзяў паўтараецца гэтая аксіёма і калі мы, "аўтавадзілы", перастанем нарэшце баяцца, а будзем радавацца сустрэчы на дарозе з даішнікамі?

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

У бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў адбылася літаратурная сустрэча, прысвечаная 70-годдзю Міколы Арочкі. Перад старшакласнікамі 10-ай мінскай школы выступілі Паўлюк Пранузa, Іван Саламевіч, Навум Гальпяровіч. Цікавыя факты з біяграфіі пісьменніка расказала Алена Гурская, дацэнт кафедры беларускай літаратуры БДПУ імя М. Танка, крытык і літаратуразнаўца, якая доўгі час працавала побач з М. Арочкам у Інстытуце літаратуры АН Беларусі. Вёў сустрэчу паэт Анатоль Вярцінскі.

●

На сустрэчы, прысвечанай 70-годдзю вядомага паэта з Беласточчыны, аўтара зборнікай лірыкі "Жнівень слоў", "Белавежскія матывы", "Мой бераг", прафесара Алеся Барскага (Аляксандра Баршчэўскага), выступілі беларускія навукоўцы і літаратары Ніл Гілевіч, Георгій Штыхаў, Уладзімір Гніламёдаў, Навум Гальпяровіч, Анатоль Вярцінскі, старшыня Беларускага саюза фалькларыстаў Васіль Ліцвінка, а таксама сябры і калегі.

●

У Мінскім гарвыканкаме днямі адбылося абмеркаванне пытанняў, звязаных са стварэннем гімна нашай сталіцы. Па прапанове Саюза пісьменнікаў вырашана не спыняцца на ранейшых варыянтах, якія ўжо маюцца ў наяўнасці, а аб'явіць сярод творцаў конкурс на напісанне новых тэксту і музыкі, якія адпавядалі б рэаліям сучаснасці. На думку беларускіх пісьменнікаў, гэта дасць магчымасць у будучым выдаць зборнік вершаў, прысвечаных Мінску, які зробіцца выдатным падарункам для гасцей і жыхароў сталіцы.

●

Ва ўладныя структуры розных абласцей і раёнаў Беларусі адпраўлены лісты з прапановай адзначыць юбілеі класікаў і сучасных пісьменнікаў у 2001 годзе. Праведзенне разнастайных выстаў, вечарын, літаратурных сустрэч, прысвечаных сябрам СП, будзе садзейнічаць больш глыбокаму азнаямленню чытачоў з найноўшымі дасягненнямі і набыткамі айчыннага прыгожага пісьменства, з тымі глыбіннымі працэсамі, што адбываюцца сёння ў літаратуры, дасць новы імпульс развіццю і пашырэнню грамадзянскай акцыі "Пісьменнік — малой радзіме".

ВЫСТАВЫ

# "Беларусь — трэцяму тысячагоддзю"

Выставу пад такой назваю меркавалася правесці яшчэ ў мінулым годзе. Сёлета ідэя, нарэшце, спраўдзілася і акурат перад Новым годам выстава "Беларусь — трэцяму тысячагоддзю" адкрыецца ў памяшканнях Нацыянальнай мастацкай галерэі (былы Палац мастацтваў) 27 снежня і Нацыянальнага мастацкага музея 28 снежня. Гэта выстава стане толькі першай часткай вялікага праекта Міністэрства культуры Беларусі і Беларускага саюза мастакоў, яна прадставіць гледачам рэтраспекцыю беларускага мастацтва XX стагоддзя. У экспазіцыю адбіраліся творы, што захоўваюцца на сённяшні дзень у зборах мінскіх музеяў — у Нацыянальным мастацкім музеі, Музеі сучаснага мастацтва, Музеі Вялікай Айчыннай вайны, Музеі гісторыі Беларусі, у калекцыі Беларускага саюза мастакоў. Другая частка праекта запланавана на вясну наступнага года і спрэзентуе гледачам мастацтва апошніх пяці год.

Можна чакаць ад гэтай выставы калі не грунтоўнасці, то хаця б нестандартнага падыходу да адбору прозвішчаў і твораў. У экспазіцыю ўвойдуць многія хрэстаматыйныя рэчы з запаснікаў, побач з імі стануць тыя, што не былі за гэта стагоддзе паказаны ніводнага разу. У любым выпадку маштабы экспазіцыі чакаюцца грандыёзныя; нават пры жорсткім прынцыпе адбору адзін мастак — адна работа толькі жывапіс змесціць 150 палотнаў.

Вынікам гэтага праекта павінен стаць каталог-альбом, грошы на выданне якога выдзелены Міністэрствам культуры РБ і прэзідэнцкім грантам.

**Н. Ш.**

АДГАЛОСКІ

# Няма... і не будзе?

***"Смак годнага жыцця" (17.03.2000 г.) і "Упершыню на "Варшаўскай восені" (27.10. г. г.) — нашы публікацыі, у якіх закраналіся розныя праблемы сучаснага музычнага выканальніцтва і творчасці. Абодва лімаўскія матэрыялы былі накіраваныя ў Міністэрства культуры Беларусі. І вось — доўгачаканы адказ, падпісаны першым намеснікам міністра У. Рылаткам. Друкуем гэты тэкст без скарачэнняў, каб зацікаўленыя чытачы маглі супаставіць яго са зместам прыгаданых публікацый і зрабіць высновы.***

"У адказ на публікацыі "ЛіМа" "Смак годнага жыцця" і "Упершыню на "Варшаўскай восені" Міністэрства культуры паведамляе наступнае.

Сродкі, выдзеленыя на набыццё інструментаў ансамблю салістаў "Класік-Авангард" з Фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва, своечасова былі пералічаны на разліковы рахунак Белдзяржфілармоніі і асвоены ў поўным аб'ёме. Мы разумеем, што гэта не вырашае цалкам праблемы з інструментамі такога выдатнага калектыву, якім з'яўляецца "Класік-Авангард", таму плануем і ў далейшым знаходзіць магчымасці па яго падтрымцы.

Адначасова паведамляем, што ідэя правядзення фестывалю сучаснай музыкі была выказана Міністэрствам культуры яшчэ ў 80-ыя гады і ўвасоблена заснаваннем фестывалю "Музычная вясна". З цягам часу фестываль стаў больш разнастайным па свайму зместу, але як і заўсёды вялікая ўвага надаецца выкананню сучаснай музыкі. На сённяшні дзень у рэспубліцы праводзіцца шмат розных фестываляў, у межах якіх абавязкова гучаць творы сучасных кампазітараў. Такім быў у гэтым годзе Міжнародны фестываль "Беларуская музычная восень", дзе гучалі творы К. Цесакова, А. Соніна, У. Дарохіна, В. Кузняцова, японскага кампазітара Ю. Такахасі, польскіх — З. Краузэ, З. Багінь-скага і інш. Міністэрства культуры сумесна з Беларускім саюзам кампазітараў, Беларускай дзяржаўнай акадэміяй музыкі, Беларускім аўтарскім фондам выступіла заснавальнікам Міжнароднага фестывалю сучаснай музыкі "Позірк у XXI стагоддзе", які быў праведзены ў сакавіку 2000 года.

Звяртаем вашу ўвагу, што дзяржаўная палітыка накіравана на падтрымку і развіццё сучаснага мастацтва, у тым ліку і музычнага. Вядучымі калектывамі выконваюцца творы беларускіх кампазітараў, адбываюцца прэм'еры, праводзяцца творчыя вечары, прысуджаюцца дзяржаўныя стыпендыі пад выкананне пэўных творчых праектаў. Выдзяляюцца дзяржаўныя сродкі на падтрымку творчай моладзі. Так была падтрымана ініцыятыва Саюза кампазітараў і Акадэміі музыкі і ў гэтым годзе праведзены фестываль маладых кампазітараў "Маладзёжная вясна", у межах якога прайшла Міжнародная навуковая канферэнцыя "Музычная творчасць і XXI стагоддзе: традыцыі, наватыцы, перспектывы".

Дарэчы, фестывалі, якія праводзіліся раней, пры актыўнай пазіцыі Беларускай асацыяцыі сучаснай музыкі, заўсёды арганізацыйна і фінансава падтрымліваліся Міністэрствам.

Заснаванне на Беларусі чарговага фестывалю сучаснай музыкі запатрабуе дадатковых фінансавых асігнаванняў. Лічым мэтазгодным раз у 2-3 гады праводзіць фестываль сучаснай музыкі ў межах ужо існуючых традыцыйных фестываляў, а таксама выкананне вядучымі творчымі калектывамі твораў сучасных кампазітараў падчас усяго канцэртнага сезону".

●

Сутнасць гэтага ліста можна сфармуляваць тэлеграфным радком: Міністэрства культуры лічыць немэтазгодным засноўваць і фінансаваць Міжнародны фестываль сучаснай музыкі на Беларусі. Навошта ж было пісаць разгорнутую справаздачу? Для нас гэта — новая падстава паказаць свой з'едлівы журналісцкі нораў і прычапіцца да слова.

Што такое "**Музычная** вясна"? Відаць, мелася на ўвазе назва традыцыйнага фестывалю "**Мінская** вясна". Але ж ён быў заснаваны як фестываль прэм'ер беларускіх кампазітараў, а не як міжнароднае свята сучаснай музыкі. Да таго ж ён і сапраўды з часам страціў першапачатковы крытэрый складання канцэртных праграм, пачаў арыентавацца на "канкрэтны момант" (год Моцарта; год Брамса; прысвечанне імя Яе Вялікасці Скрыпкі і г. д.).

Тое, што ў межах многіх фестываляў абавязкова гучаць творы сучасных кампазітараў, — вынік аб'ектыўнага працэсу. Музыканты — і айчынныя, і замежныя — іх іграюць, таму і гучаць. Як гучаць і заходнееўрапейская класіка, і руская музыка, і творы нашых суайчыннікаў (пераважна сучасных, якім усміхнецца ўдача, бо ў беларускіх класікаў шанцаў на выкананне чым далей, тым меней, не дапамагаюць нават круглыя даты ў календарах: "90", "100", "110").

На прэс-канферэнцыях з нагоды сёлетняй "Беларускай музычнай восені" журналістам паведамлялася, што прыезд у Мінск японскага кампазітара Ю. Такахасі — асабістая ініцыятыва маэстра Г. Праватарава, а ўдзелу польскіх калег у фестывалі паспрыяла запрашэнне іх кампазітарам А. Соніным ды падтрымка Польскага інстытута. Гэтаксама фестываль "Позірк у XXI стагоддзе" (які тут сакрэт!) прайшоў дзякуючы найперш падтрымцы гэтага інстытута ды ініцыятыўнасці кампазітара Я. Паплаўскага, які запрасіў у Мінск лідэраў студыі электраакустычнай музыкі з Кракава. Яны правялі адзін канцэрт, а таксама сустрэчы ў Беларускай акадэміі музыкі ды ў Саюзе кампазітараў. Гэтую акцыю назвалі фестывалем, відаць, з надзеяй на працяг. Першая "Маладзёжная вясна" выклікала нараканні з-за таго, што большая частка замоўленых у канцэртнай праграме твораў не прагучала.

А што значыць "чарговы фестываль сучаснай музыкі"? Калі ж былі папярэднія? На пачатку 90-х? Але мы жывём ужо ў іншай дзяржаве, дзе правядзенне фестывалю сучаснай музыкі "раз у дватры гады" ў межах традыцыйных імпрэзаў ды "выкананне вядомымі творчымі калектывамі твораў сучасных кампазітараў падчас усяго канцэртнага сезону" (што яны і робяць, прынамсі, рыхтуючы замежныя гастрольныя праекты) размываe крытэрыі і не замяняе брак годнага, на высокім узроўні запачаткаванага, Міжнароднага фестывалю сучаснай музыкі. Такога, напрыклад, які ёсць у Малдове ці ў Румыніі — дзяржавах, эканамічная сітуацыя ў якіх, ведома, не лепшая за нашу. Зрэшты, мы і пра гэта распавядалі ў сваіх публікацыях (гл. "Алімпійскі гонар з дамешкам сораму", 19.11.99 г., "На музычным беразе Дуная", 18.08.2000 г.). Фестывалю няма — праблема застаецца...

**Аддзел музыкі "ЛіМа"**

ВІНШУЕМ!

# Лонданцу — беларускі медаль

Гая дэ Пікарду, няўрымслівага, цікаўнага, дзівакаватага лонданца, які захапляецца Беларуссю і асабліва беларускай харавой музыкай, нашым чытачам прадстаўляць не трэба. Мы друкавалі яго інтэрв'ю, адгукаліся на яго нотныя выданні, на гістарычны нарыс-даведнік "Minsk". Публікавалі яго ўражанні ад Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі "Магутны Божа", які ладкуецца ў Магілёве і ў складзе журы якога штогод працуе наш брытанскі госць.

Таму мы не маглі абмінуць нядаўняе паведамленне, змешчанае ў "Звяздзе": на пачатку снежня Гай дэ Пікарда ўзнагароджаны медалём Францішка Скарыны — за прапаганду беларускай культуры за мяжой. Узнагароджанне вядомага беларусіста, захавальніка фонду Лонданскай бібліятэкі імя Ф. Скарыны, адбылося ў галоўнай зале Вестмінстэра падчас канцэрта "Усход сустракаецца з Захадам". Медаль уручыў пасол Беларусі Валерый Садоха.

**С. Б.**



*На здымку: Гай дэ ПІКАРДА сярод артыстаў Акадэмічнага народнага хору Беларусі імя Г. Цітовіча падчас фестывалю "Магутны Божа".*

*Фота А. ЛІЦІНА*

СУСТРЭЧЫ

# Трэція Ракаўскія чытанні

4 снежня ў мястэчку Ракаў Валожынскага раёна ў памяшканні сярэдняй школы, дзе працуе 57 настаўнікаў і вучыцца 675 дзяцей, прайшлі Трэція Міжнародныя Ракаўскія чытанні "Поліэтнічная культура заходне-беларускага мястэчка (на прыкладзе Ракава)". Праводзіліся яны пад эгідай Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Валожынскага райвыканкама і грамадскага камітэта Ракаўскіх чытанняў. Для ўдзелу ў чытаннях былі пададзены заяўкі каля трыццаці вядомых вучоных з Беларусі, Расіі, Польшчы, Украіны, у тым ліку прафесары А. Баршчэўскі, Б. Белаказовіч, Б. Зялінскі, А. Каўка, У. Конан, А. Лойка, М. Мушынскі, В. Рагойша, С. Рассадзін, С. Чубакоў, кандыдаты навук М. Батвіннік, Т. Кабржыцкая, С. Ганчарова-Грабоўская, Л. Уладыкоўская-Канаплянік і інш.

На жаль, не ўсе, хто падаў заяўкі, здолелі прыехаць у Ракаў, але, нягледзячы на гэта, Трэція Міжнародныя Ракаўскія чытанні сталі значнай падзеяй у культурным і грамадскім жыцці Валожыншчыны. Перад прысутнымі (старшакласнікамі і настаўнікамі Ракаўскай школы, прадстаўнікамі Валожынскага райвыканкама, журналістамі газет і радыё і проста ракаўцамі) выступілі член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар філалагічных навук Міхась Мушынскі ("На памежжы культур"), доктар філасофскіх навук Уладзімір Конан ("Андрэй Зязюля: хрысціянская філасофія і асветніцкая дзейнасць"), доктар філалогіі габілітаваны, загадчык кафедры Ольштынскай вышэйшай педагагічнай школы (Польшча) Базылі Белаказовіч ("Мар'ян Здзяхоўскі і Леў Талстой"), доктар філалагічных навук Вячаслаў Рагойша ("Музей поліэтнічнай культуры Ракаўшчыны"), доктар гістарычных навук, начальнік аддзела Дзяржаўнай геральдычнай службы РБ Сяргей Рассадзін ("Аб праекце Ракаўскага герба"), кандыдат мастацтвазнаўства Фелікс Янушкевіч ("Ракаў і Здзяхоўскія на старонках "Дзённіка" Фердынанда Рушчыца"), кандыдат філалагічных навук Міхась Кенька ("Беларускае мястэчка ў адлюстраванні Міхася Лынькова"), кандыдат філалагічных навук Сяргей Чубакоў ("Водгук Льва Талстога на лісты з Ракава"), кандыдат філалагічных навук Тацяна Кабржыцкая ("Дачыненні вядомых рускіх кінамайстроў да Ракаўшчыны"), кандыдат філалагічных навук Язэп Янушкевіч ("Даваенны Ракаў: вуліцы, хаты, жыхары"), аспірант кафедры славянскіх літаратур БДУ Пятро Рагойша ("Тапонімы Ракаўшчыны ў творах Сяргея Пясецкага") і іншыя, а таксама прадстаўнік Міністэрства адукацыі, навуковец Віктар Іўчанка, прадстаўнік райвыканкама, паэтка Валянціна Гіруць-Русакевіч, дырэктар Ракаўскай СШ Пётр Дубавец, народныя мастакі Беларусі Май Данцыг і Уладзімір Стэльмашонак, артыст Анатоль Налівааеў, паэтка-перакладчыца з Лондана Вера Рыч, паэт Віктар Шніп і інш.

У межах чытанняў адбыліся: прэзентацыя выдадзеных матэрыялаў Другіх Міжнародных Ракаўскіх чытанняў, канцэрт мастацкай самадзейнасці, а таксама адкрыццё грамадскага музея "Поліэтнічная культура Ракаўшчыны".

**Н. К.**

ВЕЧАРЫНЫ

# Дзве гадзіны песень

Аўтарскі вечар двух кампазітараў, Алега Чыркуна і Валянціны Сярых, прайшоў 19 снежня ў Белдзяржфілармоніі і прысвячаўся 30-годдзю іх творчай дзейнасці.

"Яны не толькі мае сябры, але і мае вучні", — адзначыў народны артыст СССР старшыня Беларускага саюза кампазітараў Ігар Лучанок.

"Валянціна і Алег заўжды ахвотна едуць у самыя глухія вёскі краіны, каб парадаваць людзей беларускай зямлі сваімі творамі", — сказала в. а. старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава.

Песні абодвух аўтараў на вершы Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна, Міхаіла Ясеня, Валянціны Акалавай, Віктара Шніпа, Ніны Загорскай і іншых паэтаў цёпла прымалі слухачы. А выконвалі праграму заслужаны калектыў Дзяржаўны канцэртны аркестр РБ пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхала Фінберга і салісты — Якаў Навуменка, Мікалай Скорыкаў, Наталля Тамэла, Юрый Вашчук, Стэла, Ларыса Грыбалёва, Дзмітрый Качароўскі і іншыя.

Кампазітары шчыра падзякавалі публіцы за сардэчны прыём іх твораў.

**Пятро ГАРДЗІЕНКА**

ІМПРЭЗЫ

# Мацнеюць кантакты з Еўропай

Вось ужо некалькі гадоў запар Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі з'яўляецца дзейным членам Еўрапейскай асацыяцыі кансерваторый, акадэмій музыкі і вышэйшых школ музыкі (АЕС). Сваёй працай гэта міжнародная арганізацыя канцэртуе і накіроўвае дзейнасць усіх еўрапейскіх музычных навучальных устаноў, яе ўдзельнікаў. Кожны год у розных краінах Еўропы асацыяцыя праводзіць кангрэс, на пасяджэннях якога абмяркоўваюцца найважнейшыя праблемы сучаснай прафесійнай музычнай адукацыі.

Чарговы з'езд удзельнікаў АЕС адбыўся ў італьянскім горадзе Вічэнца ў другой дэкадзе лістапада. І ўпершыню прадстаўніку Беларусі, дацэнту кафедры гісторыі музыкі Алене Гарахавік, якая ўзначальвае аддзел міжнародных сувязяў БАМ, давялося ўдзельнічаць у працы з'езда.

Падзея сабрала разам музычных дзеячаў многіх краін Еўропы, а таксама прадстаўнікоў колішніх рэспублік СССР — Азербайджана, Летувы, Украіны. На адным з пасяджэнняў А. Гарахавік выступіла з т. зв. прэзентацыяй Беларускай акадэміі музыкі. Яе паведамленне было накіравана на актывізацыю кантактаў паміж музычнай Беларуссю і іншымі краінамі Еўропы. Нездарма прадстаўнікі Польшчы і Летувы пасля гэтага выступлення жыва цікавіліся тым, што сёння адбываецца ў жыцці БАМ. Еўрапейская грамадскасць мае пэўнае ўяўленне пра складанасці музычнай адукацыі ў нашай краіне — з тым большым разуменнем і павагай была ўспрынята інфармацыя прадстаўніка Беларусі.

Удзел у кангрэсе даў магчымасць пазнаёміцца з сістэмай вышэйшай прафесійнай музычнай адукацыі розных еўрапейскіх навучальных устаноў. Наша навучанне, на думку А. Гарахавік, вылучаецца сваёй акадэмічнай накіраванасцю, якая, нягледзячы на сталоўчыя бакі, тым не менш, не заўсёды адпавядае патрабаванням сённяшняга часу. Увогуле, паводле слоў Алены Маратаўны, удзел у мерапрыемствах гэткага кшталту вельмі карысны не толькі магчымасцю ўбачыць сусветна вядомыя культурныя славутасці, пазнаёміцца з замежнымі калегамі, наведаць шэраг мемарыяльных месцаў. Ён стварае грунт для інфармавання еўрапейскай грамадскасці пра дзейнасць БАМ і культурна-музычнае жыццё нашай краіны, садзейнічае ўмацаванню нашага міжнароднага статуса.

**Марына МРАЧКО,**
**студэнтка Акадэміі музыкі**

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Фестываль лаўрэатаў

У Гомельскім музычным каледжы імя Н. Сакалоўскага адбыўся сёмы рэспубліканскі фестываль лаўрэатаў міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў — выканаўцаў на струнных інструментах. У фестывалі бралі ўдзел сімфанічны аркестр Гомеля, камерны аркестр Гомельскага музычнага каледжа, прафесар Беларускай акадэміі музыкі, скрыпач Вячаслаў Зяленін, выкладчыца гэтай акадэміі, дыпламант міжнародных конкурсаў, піяністка Ірына Неўская і сімфанічны аркестр Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі.

## Трыумф у Арле

У Арле прайшоў міжнародны фестываль маладых эстрадных выканаўцаў "Славянскія зоркі". У ім удзельнічалі салісты з Арла, Белгарада, Смаленска, Калугі, Харкава, Чарнігава, а таксама прадстаўнікі Гомельшчыны. Гран-пры фестывалю атрымала дзевятнаццацігадовая спявачка Гомельскай абласной філармоніі Кацярына Гут. Першае месца ў сваёй намінацыі заваяваў семнаццацігадовы студэнт недзяржаўнага інстытута сучасных ведаў Яўген Чалышаў са Жлобіна.

## Прэм'ера мележаўцаў

Візітнай карткай Мазырскага драмтэатра імя Івана Мележа з'яўляецца спектакль "Людзі на балоце" па рамане знакамітага земляка. У рэпертуары тэатральнага калектыву — беларуская і руская класіка. Звяртаецца тэатр і да твораў заходнееўрапейскіх аўтараў. У гэтыя дні мележаўцы паказалі прэм'еру — спектакль па п'есе іспанскага драматурга Аляксандра Касона "Дрэвы паміраюць стоячы". У спектаклі — сацыяльная несправядлівасць, лірыка і камедыя, пафас гуманізму.

## Захаваць спадчыну

У абласным цэнтры прайшоў рэспубліканскі семінар па пытаннях заканадаўства РБ аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны нашай краіны. На семінары выступіў старшыня Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Л. Бубноўскі. Удзельнікі семінара наведалі Веткаўскі музей народнай творчасці і мастакі аддзел абласнога краязнаўчага музея.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## Цэнтр святкуе юбілей

Гасцей з большасці раёнаў вобласці, а таксама са сталіцы Беларусі і нават з Расіі, сабрала ўрачыстая вечарына, прысвечаная 60-годдзю абласнога метадычнага Цэнтра народнай творчасці. Падчас свята знайшлося месца і ўспамінам аб гісторыі цэнтра, выступленням ветэранаў і прадстаўленню набыткаў традыцыйнага народнага мастацтва, захаваннем якога тут займаюцца. Гучалі віншаванні, узнагароджваліся супрацоўнікі.

На ўспамін аб 60-годдзі быў сабраны, як гэта традыцыйна рабілася ў беларускіх сем'ях, багаты куфар з лепшымі вырабамі народных рамёстваў. У куфры, выканаciv знакамітым кавалём Юрыем Крушам, будуць захоўвацца габелены Алены Шунэйкі, дываны майстрых Гродзенскага раёна, вышыўка Аляўціны Кавалеўскай, эскізы нацыянальных строяў Лявона Баразны і шмат іншых, ужо на сёння рэдкасных рэчаў, каштоўнасць якіх з гадамі будзе толькі ўзрастаць...

Да юбілею была прымеркавана і выстава народнай творчасці, дзе прадстаўлены творы ўмельцаў з Гродзенскага, Лідскага, Свіслацкага, Ваўкавыскага, Шчучынскага і Іўеўскага раёнаў.

**Лілія НАВІЦКАЯ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Дыялог з часам

У Віцебскім дзяржуніверсітэце (з удзелам Польскага інстытута ў Мінску) прайшлі Трэція міжнародныя чытанні, прысвечаныя творчасці Яна Баршчэўскага. Шосты год кафедра беларускай літаратуры універсітэта даследуе тэму вяртання спадчыны аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры — Яна Баршчэўскага, які паходзіць з вёскі Мурагі, што на Расоншчыне. Адна ўпершыню ў гэтых традыцыйных ужо чытаннях так грунтоўна навукоўцы абмяркоўвалі праблемы творчасці Баршчэўскага ў сінхронным і дыяхронным кантэксце. Літаратурная спадчына рамантычных твораў пісьменніка разглядалася ў дыялогу з яго часам і часам сённяшнім. Прынамсі, цікавымі былі паралелі: Ян Баршчэўскі — Стывен Кінг, Анатоль Казлоў, Антанас Клементас, Уладзімір Караткевіч.

— Наогул, гэты пласт беларуска-польскай літаратуры XIX стагоддзя дагэтуль яшчэ мала вывучаны і неасэнсаваны, — гаворыць загадчыца кафедры беларускай літаратуры пісьменніца Вольга Русілка. — Між іншым ад літаратуразнаўства чакаюць новага погляду і на паэзію, і на эпісталярную спадчыну, і на філасофію Яна Баршчэўскага...

**Святлана ГУК**

*МІНШЧЫНА...*

## Лепшы бібліятэкар

У Валожыне спаборнічалі бібліятэкары. Першай у конкурсе "Лепшы па прафесіі", які наладзіла цэнтральная раённая бібліятэка, стала супрацоўніца Ракаўскай сельскай бібліятэкі Алена Зайцава. Яна вылучана на адпаведны абласны конкурс, які плануецца правесці ў наступным годзе.

**Галіна НОВІКАВА**

## Да юбілею паэта-філосафа

Не дачакаўшыся афіцыйнага адказу з Савета Міністраў на прапановы аб шырокім, на дзяржаўным узроўні, святкаванні 150-годдзя з дня нараджэння Янкі Лучыны, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны з дапамогаю Польскага інстытута ў Мінску выдаў навуковую манаграфію, прысвечаную творчасці Янкі Лучыны — кнігу Л. Уладыкоўскай-Канаплянік "Акварэлі любові: канцэпцыя нацыянальнага светапогляду ў творчасці Янкі Лучыны". Янка Лучына (Іван Люцыянавіч Неслухоўскі, 1851—1897, нарадзіўся і пахаваны ў Мінску) — беларускі паэт-лірык, псіхолаг, інтэлектуаліст, перакладчык. Яго творчасць на беларускай, польскай і рускай мовах выяўляла розныя ўзроўні мастацкага асэнсавання беларускай рэчаіснасці 1880—1890-х гадоў. Зборнік Янкі Лучыны "Вязанка" (1903 г.) — першы зборнік беларускай паэзіі 20 ст. Ад творчасці Янкі Лучыны бярэ пачатак беларуская філасофская лірыка.

У кнізе Л. Уладыкоўскай-Канаплянік на матэрыяле разнамоўных твораў Янкі Лучыны разглядаюцца праблемы нацыянальнага светапогляду, абумоўленага этнічным светаўспрыманнем і канкрэтным мастацкім увасабленнем. Аналізуецца антрапалагічна-філасофскі тып беларуса канца 19 ст., выяўлены ў польскамоўнай паэме "Паляўнічыя акварэлькі з Палесся". Кніга адрасавана ўсім, хто цікавіцца беларускім нацыянальна-культурным феноменам, беларускай літаратурай і філасофіяй.

Н. К.

## "Шчыглы" пераляцелі акіян

У Нью-Йоркскай публічнай бібліятэцы сабрана ладная калекцыя кніг з аўтографамі беларускіх пісьменнікаў. Пачалася яна з лёгкай рукі Пятра Глебкі, які падпісаў свой зборнік паэзіі. Дзякуючы клопату Вітаўта і Зоры Кіпеляў зараз у фондах бібліятэкі ёсць кнігі з аўтографамі Максіма Танка, Васіля Быкава, Ніла Гілевіча, Генадзя Бураўкіна, Адама Мальдзіса, іншых слынных нашых творцаў. Нядаўна калекцыю папоўнілі "Шчыглы" і "Ларыса, альбо Прыгоды аўтамабіліста" Леаніда Левановіча. Гэтыя кнігі бібліятэка набыла раней, але падпісаў іх аўтар сёлета ў снежні, калі быў у Нью-Йорку. Можна сказаць, што "Шчыглы" пераляцелі, а "Ларыса..." пераплыла Атлантычны акіян. Дарэчы, за гэтую кнігу Л. Левановіч ушанаваны Літаратурнай прэміяй імя Івана Мележа за 1998 год.

Наш кар.

## Царква ў Бярозе

Не адно стагоддзе прымала прыхаджан Свята-Петрапаўлаўская царква ў райцэнтры Бяроза, што на Брэстчыне. З часам будынак састарэў, згубіў выгляд. Але прыйшоў сюды настаяцелем айцец Георгій. Пачалася рэканструкцыя царквы. Доўжылася яна тры гады. Практычна храм перажыў другое нараджэнне.





*На здымках: менавіта так зараз выглядае Свята-Петрапаўлаўская царква ў Бярозе; асвяціў яе Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усея Беларусі Філарэт.*

Фота Івана АСКІРКІ

КАНТАКТЫ

# На шляху да паразумення і супрацоўніцтва

***Дэлегацыя рускіх пісьменнікаў на чале з Рымай Казаковай, якая наведала Мінск, правяла шэраг творчых сустрэч, падчас якіх узнімаліся пытанні супрацоўніцтва, адзінай культурнай прасторы, узаемаразумення. З Юрыем СУРАЎЦАВЫМ — літаратуразнаўцам і крытыкам, сакратаром Саюза пісьменнікаў Масквы, спецыялістам па міжнацыянальных літаратурных сувязях — гутарыць наш карэспандэнт Марыя РУДОВІЧ.***

**— Юрый Іванавіч, як вы ацэньваеце сённяшні стан літаратурных узаемасувязей паміж беларускімі і рускімі пісьменнікамі?**

— Раней сувязі існавалі ўнутры адной дзяржавы, а зараз мы можам гаварыць толькі пра літаратурныя сувязі ў сістэме суверэнных дзяржаў, кожная з якіх ажыццяўляе ўласную культурную палітыку. Новыя дзяржавы адначасова застаюцца ў адзіным культурным арэале. Мы многае страцілі, але страцілі сёе-тое, відаць, на карысць кожнай з нацыянальных літаратур. Напрыклад, адзіныя ідэалагічныя "дужкі". Шмат жа са згубленага мы згубілі, на жаль, дарма: калі нашы краіны гэта сапраўды зразумеюць, яны, думаецца, прыкладуць усе намаганні, каб тое добрае, што было, не знішчыць і не страціць, а прыстасаваць да новых умоў. Прыкладна дзесяцігоддзе, як знік з палітычнай карты Савецкі Саюз. За гэты час з'явілася вельмі многа новых пісьменнікаў, дзеячаў культуры, і мы ўжо адно аднаго кепска ведаем. Цяжка знаёміцца з новымі творамі найперш па прычынах эканамічна-матэрыяльнага кшталту. Раней мы чыталі адны і тыя ж часопісы, руская мова сапраўды была мовай літаратурных зносін, а пераклад на рускую мову — выхадам, так бы мовіць, да шматнацыянальнага, агульнасаюзнага чытача. Хто можа аднавіць гэтыя здабыткі? Ні пісьменнікі, ні часопісы, ні выдавецтвы. Павінна існаваць магутная дзяржаўная падтрымка. Апошняе дзесяцігоддзе прайшло для нацыянальных літаратур — і для беларускай, і для грузінскай, і для ўкраінскай, і для рускай, і для літаратур прыбалтыйскіх краін — у атмасферы і ў рэчышчы таго, што можна назваць нацыянальным культурным адраджэннем. Склалася сітуацыя, калі найлепшыя і найбольшыя сілы скіраваны як бы ўглыб сваёй культуры. У такіх варунках зразумець адзін аднаго — дадатковая творчая цяжкасць, пераадолець якую мы мусім без дапамогі ўсялякіх дзяржаўных інстанцый. Я, напрыклад, хачу зразумець плюсы і мінусы грузінскага ці рускага нацыянальна-культурнага адраджэння, хачу адасобіць агульнагуманістычныя, агульнадэмакратычныя тэндэнцыі ад таго негатыўнага, што таксама існуе, што часам штурхае, можа, міжвольна, да замкнёнасці, да аўтаркічнасці. Аўтаркія — гэта шлях да правінцыялізму. Правінцыялізм не павінен атаясамлівацца з нацыянальнай адметнасцю. Сёння існуюць розныя пісьменніцкія арганізацыі, яны па-рознаму працуюць, маюць розную структуру, але кожная такая арганізацыя павінна імкнуцца да згоды і паразумення, да пазнання адна адной. Прыезд нашай дэлегацыі — дэлегацыі Саюза пісьменнікаў Масквы — у Мінск, у Саюз беларускіх пісьменнікаў, тлумачыцца менавіта імкненнем да пазнання, мае на мэце аднаўленне таго, што не варта губляць.

**— Вы зараз загаварылі пра тое, што трэба было б захоўваць і падтрымліваць узаемаразуменне паміж творчымі арганізацыямі. Саюз пісьменнікаў Расіі распаўся на некалькі творчых арганізацый. Якія сувязі падтрымліваюцца паміж гэтымі структурамі?**

— Я б не сказаў, што разбурыўся Саюз пісьменнікаў Расіі. Разбурыўся найперш Саюз пісьменнікаў СССР, які, уласна кажучы, не мог не разбурыцца, паколькі знік Савецкі Саюз як адзіная агульная дзяржава. Што тычыцца тых творчых саюзаў, якія зараз існуюць, трэба шчыра сказаць, што сувязі паміж імі маглі б быць і лепшымі. Трэба ўсвядоміць, што гэтыя сувязі зараз павінны быць не проста аднаўлены, а створаны, таму што мы зараз маем зусім іншыя арганізацыі, яны іначш будуюцца, у іх другая крыніца фінансавання, няма таго дзяржаўнага "даху", пад якім знаходзіўся Саюз пісьменнікаў СССР. Ідэйныя разыходжанні, "ідэйныя апазіцыі", так бы мовіць, якія існуюць у асяродку расійскіх пісьменнікаў, не павінны рабіцца перашкодай для агульнай прафесійнай працы. Разыходжанні вынікаюць зазвычай з розных меркаванняў пра тое, што такое літаратура і літаратурная творчасць. Гэтыя праблемы мусяць штурхаць нас не да зліцця, не да ўтварэння агульных арганізацыйных структур, а да ўзаемаразумення і пошуку агульных мэтаў, агульнай зацікаўленасці і агульнай працы. Саюз пісьменнікаў Масквы, які займае адпаведную пазіцыю духоўна-гуманістычнага характару і дэмакратычнай арыентацыі, пасля ўсіх расколаў таксама шукае са сваімі апанентамі новых магчымасцей для далейшай працы. А што тычыцца саюзаў пісьменнікаў былых саюзных рэспублік, а зараз самастойных дзяржаў, то тут, я лічу, проста абавязкова трэба шукаць сувязі. Я зноў падкрэслю: наш прыезд — сведчанне такіх пошукаў. Мы намагаемся знайсці кантакты, у прыватнасці з малдаўскімі, грузінскімі, кіргізскімі, таджыкскімі пісьменнікамі, з тымі, хто нібыта з'яўляецца нашым духоўным апанентам. Гэта як бы нейкае таварыства пісьменніцкіх саюзаў. Мы знаходзім мажлівасці, каб, напрыклад, абмеркаваць сумесна кнігі таджыкаў ці азербайджанцаў. Гэта наша паўсядзённая праца.

**— Некаторыя сучасныя аўтары, у Беларусі таксама, прытрымліваюцца, апошнім часам, думкі, што літаратура страціла ролю "пророка в своем отечестве", ролю сувязнога звяна паміж людзьмі, паміж народамі ў духоўнай лучнасці. Існуе пункт гледжання, што ў хуткім часе літаратура зробіцца літаратурай выключна для эліты. Што б вы маглі сказаць на гэты конт?**

— Сапраўды, тая літаратурная зашоранасць, якая існавала ў нашым літаратурным жыцці ў савецкія часы, выклікала вельмі рэзкую рэакцыю супрацьпастаўлення палітыкі і літаратуры, бо тая палітыка не задавальняла большасць пісьменнікаў, несла ў сабе шмат чаго не гуманістычнага, не дэмакратычнага. У літаратуру прыходзяць маладыя пісьменнікі, якія сфарміраваліся ўжо не ў савецкі, а ў постсавецкі час. Для іх ніколі не існавала думка, што літаратура — гэта быццам бы нейкая ідэалагічная надбудова над базісам. А мы вымушаны былі такую думку пераадольваць. Таму само па сабе імкненне раз'яднаць палітыку і мастацкую культуру псіхалагічна зразумелае і цалкам слушнае. Але тут ёсць свая небяспека. Гэта можна так наўдала ажыццявіць, што літаратура сапраўды зробіцца справай вузкага кола. Але калі сапраўдная, сур'ёзная літаратура набывае такі статус, на яе месца адразу прыходзіць тое, што мы называем "масавай культурай". Вы паглядзіце, што чытаюць у метро зараз, і што чыталі, напрыклад, у перыяд перабудовы. Дадаткова яшчэ трэба ўлічыць, што мы жывём ва ўмовах камерцыялізацыі. Гэта адна з тых канфліктных сітуацый у развіцці літаратуры. Як з такой сітуацыі выходзіць — кожны пісьменнік вырашае для сябе сам. У той жа час саюзы нашы, з аднаго боку, не павінны знізіць узровень патрабаванняў да літаратуры сапраўднай, а з другога — не даць пісьменнікам адарвацца ад народа, апынуцца ў сферы адно элітарнай літаратуры.

**— Юрый Іванавіч, не маглі б вы назваць некалькіх яркіх імёнаў маладых аўтараў, што плённа працуюць сёння ў рускай літаратуры?**

— Зараз у літаратуру прыйшло вельмі шмат таленавітых жанчын. Напрыклад, Марына Вішнявецкая, Марыя Рыбакова, Галіна Нерпіна, Эліна Сухава. Усіх пералічыць немагчыма. Яны публікуюцца і, спадзяёмся, будуць і далей публікавацца ў сур'ёзных часопісах. За імі будучыня.

ВАРУНКІ

# Клецк імкнецца да новых перамог

### РЭХА ЖУРФАКАЎСКАЙ ПРАКТЫКІ

Традыцыйна кожны верасень для студэнтаў журфака суправаджаецца практыкай. Па той жа сталай традыцыі студэнты першага курса перад тым, як распачаць новы навучальны год, едуць у раёнкі. Менавіта ў малатыражках трэба зведаць з чаго пачынаецца хлеб журналіста. (Як казаў адзін мой добры знаёмы: "Усе мы адтуль выйшлі, нічога з гэтым не паробіш").

Выключэннем мне стаць не давялося (можа, і сапраўды гэта добра?), таму ў вызначаны тэрмін я прыехала на практыку ў Клецк.

Шчыра кажучы, горад мне спадабаўся. Першае, што кінулася ў вочы, — чысціня вулачак, нейкае незвычайнае свято і цепльня, якія зыходзяць ад утульных домікаў. Па ўласным вопыце ведаю, не кожны горад зараз можа пахваліцца такой акуратнасцю. Многае залежыць ад мясцовага кіраўніцтва і ў большай ступені ад тых грошай, што выдзяляе вобласць. Аднак шмат у чым тут і заслуга жыхароў. Мабыць, не апошнюю ролю адыграла тое, што Клецк знаходзіцца зусім недалёка ад Мінска. Часта "прылятаюць" праверкі розных маштабаў і рознай значнасці. Бываюць канфузы, непрыемнасці: аднойчы, у дзень правядзення семінара ў райвыканкаме з удзелам абласнога начальства ў кацельнай ўзарваўся кацёл. Якраз перад пачаткам ацяпляльнага сезона. Уявіце сабе, які "шухер" быў!

Так і рухаецца жыццё наперад. Звыклымі ўжо сталі фірменныя прыватныя крамы, бары, шматлікія "кафэшкі". Толькі на цэнтральнай вуліцы каля шасці месцаў (не вельмі дарагіх, аднак даволі прыстойных), дзе можна адпачыць, сустрэцца з сябрамі. Некаторыя з такіх месцаў адпачынку працуюць круглыя суткі. Вось вам і "глыбінка", вось вам і раённы цэнтр.

Аднак і тут да вас можа лёгка "прыкляпацца" не надта цвярозая кампанія. Сустрэўшы мясцовую "мафію" ў цёмным завулку, імгненна губляеш усе прыемныя ўражанні пра горад і насельніцтва...

Няблага ў Клецку і з газетамі. Кіёскі "Белсаюздруку" даволі добра забяспечваюць патрэбу жыхароў у інфармацыі рэспубліканскага ўзроўню. Побач са звыклай "саўбеліяй" ляжыць на паліцах недзяржаўная прэса. Яе рэдка хто атрымлівае па падпісцы — спісы такіх "вальнадумцаў" калі-нікалі трапляюць у патрэбныя месцы. (Інфармацыя афіцыйнымі крыніцамі не пацверджана, аднак неаднаразова "ўсплывала" ў размовах з самымі рознымі людзьмі).

Адзіная ў раёне газета — выданне з аптымістычнай, адная з падазрона камуністычнай назвай "Да новых перамог". Улады вырашылі размясціць рэдакцыю ў будынку тутэйшага "белага дома" (райвыканкам). Заўсёды пад бокам, а значыць пад кантролем.

Стандартны аб'ём — 4 паласы, аднак выходзіць газета 3 разы на тыдзень. (Звычайная перыядычнасць раённых выданняў — 2 разы ў тыдзень). Калектыў (не больш чым 10 чалавек) няблага спраўляецца з інфармаваннем насельніцтва. Рэдакцыя забяспечана ўсім неабходным: ёсць камп'ютэры, нават лічбавая фотакамера. А яе не кожнае мінскае выданне можа сабе дазволіць. Ведаю сама, многія мінскія рэдакцыі карыстаюцца толькі адным камп'ютэрам (пры штаце больш за 10 чалавек), а добрая фотаапаратура (а значыць і якасныя фотаздымкі) — мара кожнага журналісцкага калектыву.

І адразу паўстае пытанне, чаму раённая прэса бывае больш забяспечаная, чым яе калегі ў буйных гарадах. Ні ў якім разе не хачу крыўдзіць журналістаў "раёнак", яны таксама маюць права працаваць у належных умовах. Але на практыцы права гэтае — аднабокае. А неблагая матэрыяльная база — сродак належнага кантролю і ўплыву на прэсу з боку ўлад. Маўляў, не забывайце ўлічваць, хто забяспечвае вас усім неабходным.

У рэдакцыі Клецкай раёнкі працуюць даволі прафесійныя і вопытныя журналісты, аднак аб'ектыўнасці на газетных старонках няшмат, няма там і той свабоды, аб якой мы так дбаем у апошні час. Начальства з верхніх паверхаў быццам цісне сваёй прысутнасцю, несупынна нагадваючы, што свабода слова таксама мае межы. Асабліва яскрава гэта адчувалася напярэдадні парламенцкіх выбараў. Ніводнага лішняга слова, руху, кроку — абы не было непрыемнасцей. І гэта натуральна і невыпадкова: за кожным журналістам стаіць сям'я, будучыня ўласных дзяцей. Таму губляць працу (а значыць і заробак) — нельга. Таму нельга рабіць тое, што хочацца. Менавіта так і жывуць зараз многія людзі. І менавіта раённая газета — толькі адзін з прыкладаў правінцыйных жыццёвых стасункаў.

Вольга АНЦІПЕНКА



## ЧАСАПІС

### "Навстречу разлукам"

**У адным з нумароў "ЛіМа" я папрасіў аўтараў дасылаць свае кнігі, выдадзеныя не ў сталіцы на адрас штотыднёвіка, каб можна пра іх было расказаць. Просьба не засталася непачутай: першай адгукнулася Валянціна Осіпава з горада Бярозы і даслала свой першы паэтычны зборнік "Навстречу разлукам", які выйшаў у Брэсце ў Выдавецтве С. Лаўрова. Родам**



**В. Осіпава з вёскі Абакумы, што на Гомельшчыне. Скончыла Пінскі тэхнікум мясной і малочнай прамысловасці. Была размеркавана на Бярозаўскі сыраробчы камбінат. Працавала майстрам, пасля інжынерам-мікрабіёлагам. І не толькі працавала, і вучылася завочна ў Магілёўскім тэхналагічным інстытуце. А затым чатыры гады служыла ў войску. Цяпер з'яўляецца дзяжурным адміністратарам у інтэрнаце ТАА "Бярозаўскі сыраробчы камбінат". Дарэчы, кіраўніцтва яго на чале з дырэктарам В. Папенем і дырэктар ДВП "Бярозабудматэрыялы" В. Басалай парупіліся, каб першая кніга В. Осіпавай пабачыла свет. Папярэднічалі ж гэтаму зборніку вершы, якія друкаваліся з 1995 года. У 1998 годзе В. Осіпава стала лаўрэатам конкурсу "Наш дом — Беларусь", у 1999-ым — літаратурнага конкурсу, прысвечанага 60-годдзю Брэсцкай вобласці, а сёлета пераможцам конкурсу газеты "Женский калейдоскоп", у якой рэгулярна друкуецца. А яшчэ выступала ў газетах "Беларусачка", "Рэспубліка", у "Народнай газеце", у "Двое-дайджест". Аб чым кніга "Навстречу разлукам", відаць з верша, які стаіць у ёй першым:**

*Не дневник...*
*Это трепет ранимой*
*женской души!*
*Песни надежды, отчаянья, веры*
*Под ласковый взгляд уходящей тиши*
*Тебе я доверю.*

**А жаночая душа — не можа не кахаць і заўсёды хоча, каб прысутнічала шчасце, узаемаразуменне, панавала суладдзе, якое магчыма толькі тады, калі сустракаюцца двое, маючы шмат агульнага. Аднак тое, што жыве ў марах, не заўсёды спраўджваецца, а адсюль боль, душэўныя пакуты. І няўмольная спроба разабрацца і ў сабе, і ў іншых людзях:**

*Рана в груди*
*Свежа,*
*Но это не след*
*Ножа —*
*Любви невидимый*
*След,*
*Любви, которой уж*
*Нет.*
*Тупой пустоты*
*Смоль.*
*Немой маяты*
*Боль...*

**А яшчэ жаданне забыцца пра крыўды, дараваць боль ростаняў:**

*Возвращаться — не лучшая из примет...*
*Ты вернулся — рада.*
*И готова идти за дальний свет,*
*Лишь бы рядом.*

*Я готова с тобой и в холод, и в жар,*
*Делить невзгоды!*
*Я готова любовь, словно хрупкий шар,*
*Нести сквозь годы.*

**І зноў жыць спадзяваннем шчасця, упэўненасцю, што гэтым разам яно не будзе мімалётным. Толькі пасля знікнення яго зноў застаецца пакута душы: "С завистью смотрит на тяжкий сноп Пустой неналитый колос. Знал бы кто, как выбивает озноб Чужого ребенка голос".**

**Але ёсць у кнізе і вершы пра нашу складаную рэальнасць. У падобных творах В. Осіпава асуджае амаральнасць, не прымае прыстасаванства. Што да пажаданняў аўтару, дык яны такія: упэўненней шукаць свой голас, бо паэзія, як вядома, не толькі рыфмы, а аб'ёмны вобразны свет са сваімі законамі.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

ВІНШУЕМ!

***Ніна Галіноўская адданая дзіцячай літаратуры. Яе паэзія прываблівае нестандартнасцю сюжэтаў, жанравай разнастайнасцю, гумарам, гульнявымі элементамі, актывізуе самастойнасць дзяцей, дае адказы на іх многія пытанні, выхоўвае патрыятычныя пачуцці, цікавасць і любоў да роднай мовы.***

***Творы паэтэсы прадстаўлены ў школьных чытанках, у хрэстаматыях і анталогіях беларускай дзіцячай літаратуры, выкарыстоўваюцца ў вучэбна-метадычных дапаможніках, гучаць па радыё. Іх з цікавасцю вучаць на памяць і дэкламуюць дзеці ў школах і дзіцячых садках. Многія вершы пакладзены на музыку, уваходзяць у рэпертуарныя зборнікі песень для дзяцей.***

***Дашкольнікам і малодшым школьнікам прызначана больш дзесяці кніг Н. Галіноўскай, апошняя з іх "Клубок і Калабок" (1999 г.) вылучана на атрыманне Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра.***

***Мы сустрэліся з Нінай Васільеўнай напярэдадні яе хоць і не круглай, ды ўсё ж юбілейнай даты.***

# Тчэцца радок з праменняў...

## Ніне ГАЛІНОЎСКАЙ — 65

**— Паважаная Ніна Васільеўна, паэтэса Людміла Забалоцкая, на маю думку, трапна вызначыла важную асаблівасць вашай творчасці: "Піша прачула і сонечна". Адкуль у вас гэтая сонечнасць?**

— Ад маці, ад хаты, дзе я нарадзілася і расла, ад роднай прыроды, ад дзіцячых вачэй. Наша старэнькая хата ў вёсцы Вялікія Лазіцы, што на Магілёўшчыне, здавалася мне ў маленстве казачнай. У ёй заўсёды было сонечна, бо вокнамі яна стаяла да сонца. Чарадзейнае свята несла ў душы мая маці, якая добра спявала, любіла паэзію, шмат твораў ведала на памяць, з ахвотай і прыгожа чытала нам Коласа і Купалу.

Гаспадарлівым чалавекам быў мой бацька. Ён не толькі працаваў на зямлі, але і любіў цяслярыць, свае вырабы заўсёды аздабляў арыгінальнымі дэталямі; узімку, калі было менш працы, шыў кажухі. На ўсё наваколле славіўся ігрой на гармоніку. Маці казала, што ён хацеў узяць гармонік нават з сабой на вайну. З вайны не вярнуўся. Загінуў у 1943-м.

**— Ваша пакаленне — дзеці вайны. Ці памятаеце вайну?**

— Дзіцячая памяць чэпкая, эмацыянальная, яркая. Хоць мне ішоў шосты гадок, калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, але я ўсё помню. Як ратаваліся ад карнікаў, як адны — толькі я і мае браты — начавалі ў зямлянцы, як ледзь не загінула ад рук фашысцкіх нелюдзяў мама. Памятаю жудасць варожай аблавы: вярбоўшчыкі хапалі дзяўчат і хлопцаў, нават падлеткаў, для прымусовай адпраўкі ў Германію. Маладыя хаваліся як маглі. Сем дзяўчат так схаваліся, што фашысцкія паслугачы ніяк не маглі прымусіць іх выйсці. Тады яны ў тую яму пусцілі газ. Атручаныя дзяўчаты яшчэ выйшлі са сваёй хованкі, але не выжылі. У страшэнных пакутах памерлі на вачах аднавяскоўцаў. Гэты жах, як і іншыя жахі вайны, — мой боль на ўсё жыццё.

Пра тое, што перажыла ў вайну, я расказала ў паэме "Была вайна".

**— Ці была ў вас, Ніна Васільеўна, дзіцячая мара?**

— Марыла стаць доктаркай, каб заўсёды дапамагаць людзям. Вельмі шкадавала ўсіх, асабліва хворых і нямоглых, і зараз шкадую і не толькі людзей.

**— Гэта ведаю: вы заўсёды некаму дапамагаеце, некага ратуеце, корміце, лечыце. Добра памятаю тую прыгожую сароку з перабітым крылом, якую вы цярпліва даглядалі, лячылі; сабаку Жучка, якога знайшлі ледзь жывога, уратавалі, далі яму прытулак у сваёй хаце. А нядаўна пашкадавалі і ўзялі да сябе кінутага некім ката з хворым вокам і яго лечыце. А колькім людзям дапамаглі, дапамагаеце! У вас чулае сэрца, былі б цудоўнай доктаркай. Не шкадуеце, што не сталі ёю?**

— Ніколі не шкадавала, што паступіла на дашкольнае аддзяленне Магілёўскага педвучылішча. У час вучобы і асабліва тады, калі пачала працаваць выхавацелькай у дзіцячым садзе, зразумела: любоў да дзяцей для мяне даражэй за ўсё. З імі знаходзіла найвялікшую асалоду і радасць. Мае маленькія сябры, можа, дзіўна гучыць гэта, спрыялі станаўленню маёй асобы, стымулявалі творчую актыўнасць. Каб зацікавіць, забавіць іх, прыдумвала гульні, нескладаныя вершаваныя радкі, лічылкі, загадкі. Рэакцыя дзяцей, іх жаданне запомніць гэтыя прыдумкі, паўтарыць іх разам са мной яшчэ больш заахвочвалі да творчасці.

**— Ці не было так: каб не педвучылішча і не праца выхавацелькай у дзіцячым садзе, дык, можа, і не рэалізавалі б вы свае паэтычныя здольнасці?**



— Не ведаю, але яшчэ ў час вучобы ў школе спрабавала складаць песні. Лісткі з іх тэкстамі старанна хавала, спявала тыя песенькі толькі для самой сябе. Гэта было нешта накшталт гульні. А вось сапраўднае натхненне, патрэбу ў творчасці адчула толькі ў працы з дзецьмі, лепш сказаць у супрацоўніцтве з імі. Яны стваралі такую атмасферу, што неяк вельмі лёгка, як бы самі па сабе прыходзілі патрэбныя словы, рыфмы, прыдумваліся вершы. Каб зачараваць, звярнуць увагу малых на імклівы вясновы ручай, на

КНІГАРНЯ

# Вянок вянкоў цудоўных

Памыляюцца тыя, хто гатовы дзяліць паэтаў (а калі шырэй — пісьменнікаў увогуле) на "сталічных" і "перыферыйных", бо паэзія, як вядома, гэта асаблівы стан душы, а сапраўдны талент — ён і ў Афрыцы талент. Тым не менш аўтары, якія знаходзяцца далей ад сталічнага тлуму, не могуць не выклікаць да сябе павышанай увагі. Асабліва, калі пішуць хораша, таленавіта, захоплена, знаходзячы ў літаратуры прызванне. А наконт прызнання, дык гэта ад нас залежыць — і крытыкаў, і проста чытачоў. Будзем часцей гаварыць пра тых, хто гэтага заслугоўвае, глядзіш і стануць іх імёны на слыху, а то і прымусяць пацясніцца некаторых з тых, хто, стаўшы ў позу мэтра, даўно лічыць сябе жывым класікам.

Соф'я Шах якраз і здатна даць фору шмат каму са сталічных паэтаў. Іншая справа, што яна друкуецца не так часта, як таго б хацелася. Рэдка сустрэнеш яе імя ў рэспубліканскай перыёдыцы. Ды і кнігамі асабліва пахваліцца не можа. У 1989 годзе ў С. Шах выйшаў паэтычны зборнік "І не пакіне спадзяванне", які стаў чарговай кнігай "Бібліятэкі часопіса "Маладосць". Між іншым бласлаўлёны ў друк незабыўнай Яўгеніяй Янішчыц, а ёй нельга адмовіць і ў высокім мастацкім гусце, і ў строгай патрабавальнасці. У 1995-ым у С. Шах з'явілася кніга "Пад высокай лагодай нябёс", гэтым разам у "Мастацкай літаратуры". І вось, нарэшце, трэцяя — "Адухаўленне", жыццё якой даў "Беларускі кнігазбор".

І папярэднія добра засведчылі, што талент С. Шах — з тых, пра які кажуць — зямны. Паэтэса, пішучы ў традыцыйнай манеры, умее быць адкрытай, яе лірычная гераіня прытрымліваецца цвёрдых маральных прынцыпаў, па-сапраўднаму ўлюбёная ў родны край і, канечне ж, у той куток Бацькаўшчыны, дзе С. Шах нарадзілася, а гэта — Гомельшчына: пасёлак Азарычы Калінкавіцкага раёна, дзе прайшлі яе дзіцячыя і юнацкія гады і дзе некаторы час настаўнічала. Гэта і горад Светлагорск, у якім жыве і працуе лагапедам у школе-інтэрнаце.

Аднак у С. Шах ёсць асаблівая творчая схільнасць, што вылучае яе з шэрагу іншых паэтаў. Гэта — улюбёнасць у жанр санета. Як можна даведацца з уступнага артыкула да кнігі "Адухаўленне" ("Санет — яе стыхія"), напісанага Ізяславам Катляровым, ні ў кога іншага няма столькі твораў гэтага жанру: "Соф'я Шах мае ў рукапісах 136 вянкоў санетаў. Думаю, што гэта больш, чым ёсць на сённяшні дзень ва ўсёй беларускай паэзіі". Акрамя таго, С. Шах піша і вянкі вянкоў санетаў, адзін з якіх і даў назву кнізе "Адухаўленне", а яшчэ чатыры чакаюць свайго часу, каб быць надрукаванымі.

Прачытаўшы гэта, знойдуцца ахвочыя кпліва ўсміхнуцца, падумаўшы штосьці накшталт таго, што ці лепш такую энергію накіраваць на нешта больш істотнае, чым на рэанімацыю жанру, да якога і ў час яго маладосці стаўленне было неадназначнае. Між іншым, на падобным аспекце засяроджвае ўвагу і І. Катляроў, калі ставіць поруч два рэзка супрацьлеглыя выказванні вялікіх: "Поэму в сотни строк затмит сонет прекрасный", — упэўнена абвяшчаў заканадаўца класіцызму Нікала Буало. А рамантык Байран лічыў санет "педантычным і сумным". І. Катляроў называе і не адзін дзесятак прозвішчаў тых, хто ў розныя эпохі сцвярджаў сябе (прытым паспяхова) у жанры санета. Згадвае і беларускіх паэтаў.

У адным нельга сумнявацца — санет арэшак цвёрды і ён па зубах далёка не кожнаму. А яшчэ куды цяжэй напісаць вянок санетаў, бо тут існуюць куды больш строгія правілы і патрабаванні: кожны чарговы санет павінен пачынацца апошнім радком папярэдняга, а завяршальны санет, 15-ы па ліку, убірае ў сябе першыя радкі 14 санетаў. Адпаведны падыход да вянка вянкоў: 15-ы вянок складаецца з першых радкоў санетаў усіх папярэдніх вянкоў.

Ды ў дадзеным выпадку, як у самім жыцці, да месца выслоўе: па апратцы сустракаюць, а па розуму праводзяць. Як бы дасканала ні валодаў аўтар законамі вершатворчасці, напісанае ім не ўсхвалюе па-сапраўднаму, калі ў строгую форму пачне штучна "ўціскацца" той ці іншы змест, напоўнены кволымі, не вартымі ўвагі думкамі. У рэшце рэшт не знойдзецца месца самой плоці, а яна ў духоўнай напоўненасці радка, у важкасці агульначалавечага зместу, у значнасці пачуццяў і перажыванняў лірычнага героя (ці, як у вянку вянкоў санетаў С. Шах, лірычнай гераіні). У тым узнёслым, акрыленым, што і нараджае паэзію. Выхоплівае яе з будзённых з'яў паўсядзённасці, робіць рэальна асязальнай. А ўсё гэта пачынае адклікацца ў чытацкай душы тое непаўторнае, што можа нарадзіць талент.

Яно ж у "Адухаўленні" С. Шах ёсць. І пачынаецца з усведамлення значнасці вытокаў, з неабходнасці часцей далучыцца да іх, каб, судакрануўшыся з гаючым і жыццятворным, адчуць сябе чысцейшым, дабрэйшым, напоўніцца прагавітым жаданнем разабрацца ў самім сабе, задумацца, а ці так, як трэба, жыў дагэтуль, адпрэчыць выпадковае, наноснае, каб засталося асноватворнае.

Лірычная гераіня паэтэсы спавядаецца аб набалелым. Спавядаецца, каб і ў іншых падобнае жаданне з'явілася. І няхай у іх свой шлях, верставыя слупы, што стаяць на ім, часта падобныя і на дарожныя знакі чужога лёсу. Бо ўсе мы з маленства. І ўсе праходзім перыяды, з якіх і складаецца ланцуг жыцця: маленства, любоў да маці, каханне да блізкага чалавека, якога пачынаеш лічыць адзіным на зямлі. А ўжо як выходнае ад гэтага — памылкі, страты,



**ЧАСАПІС**

## *“Навстречу разлукам”*

**У адным з нумароў “ЛіМа” я папрасіў аўтараў дасылаць свае кнігі, выдадзеныя не ў сталіцы на адрас штотыднёвіка, каб можна пра іх было расказаць. Просьба не засталася непачутай: першай адгукнулася Валянціна Осіпава з горада Бярозы і даслала свой першы паэтычны зборнік “Навстречу разлукам”, які выйшаў у Брэсце ў Выдавецтве С. Лаўрова. Родам**




**В. Осіпава з вёскі Абакумы, што на Гомельшчыне. Скончыла Пінскі тэхнікум мясной і малочнай прамысловасці. Была размеркавана на Бярозаўскі сыраробчы камбінат. Працавала майстрам, пасля інжынерам-мікрабіёлагам. І не толькі працавала, і вучылася завочна ў Магілёўскім тэхналагічным інстытуце. А затым чатыры гады служыла ў войску. Цяпер з'яўляецца дзяжурным адміністратарам у інтэрнаце ТАА “Бярозаўскі сыраробчы камбінат”. Дарэчы, кіраўніцтва яго на чале з дырэктарам В. Папенем і дырэктар ДВП “Бярозабудматэрыялы” В. Басалай парупіліся, каб першая кніга В. Осіпавай пабачыла свет. Папярэднічалі ж гэтаму зборніку вершы, якія друкаваліся з 1995 года. У 1998 годзе В. Осіпава стала лаўрэатам конкурсу “Наш дом — Беларусь”, у 1999-ым — літаратурнага конкурсу, прысвечанага 60-годдзю Брэсцкай вобласці, а сёлета пераможцам конкурсу газеты “Женский калейдоскоп”, у якой рэгулярна друкуецца. А яшчэ выступала ў газетах “Беларусачка”, “Рэспубліка”, у “Народнай газеце”, у “Двое-дайджест”. Аб чым кніга “Навстречу разлукам”, відаць з верша, які стаіць у ёй першым:**

*Не дневник...*  
*Это трепет ранимой*  
*женской души!*  
*Песни надежды, отчаянья, веры*  
*Под ласковый взгляд уходящей тиши*  
*Тебе я доверю.*

**А жаночая душа — не можа не кахаць і заўсёды хоча, каб прысутнічала шчасце, узаемаразуменне, панавала суладдзе, якое магчыма толькі тады, калі сустракаюцца двое, маючы шмат агульнага. Аднак тое, што жыве ў марах, не заўсёды спраўджваецца, а адсюль боль, душэўныя пакуты. І няўмольная спроба разабрацца і ў сабе, і ў іншых людзях:**

*Рана в груди*  
*Свежа,*  
*Но это не след*  
*Ножа —*  
*Любви невидимый*  
*След,*  
*Любви, которой уж*  
*Нет.*  
*Тупой пустоты*  
*Смоль.*  
*Немой маяты*  
*Боль...*

**А яшчэ жаданне забыцца пра крыўды, дараваць боль ростаняў:**

*Возвращаться — не лучшая из примет...*  
*Ты вернулся — рада.*  
*И готова идти за дальний свет,*  
*Лишь бы рядом.*

*Я готова с тобой и в холод, и в жар,*  
*Делить невзгоды!*  
*Я готова любовь, словно хрупкий шар,*  
*Нести сквозь годы.*

**І зноў жыць спадзяваннем шчасця, упэўненасцю, што гэтым разам яно не будзе мімалётным. Толькі пасля знікнення яго зноў застаецца пакута душы:**

**“С завистью смотрит на тяжкий сноп Пустой неналитый колос. Знал бы кто, как выбивает озноб Чужого ребенка голос”.**

**Але ёсць у кнізе і вершы пра нашу складаную рэальнасць. У падобных творах В. Осіпава асуджае амаральнасць, не прымае прыстасаванства. Што да пажаданняў аўтару, дык яны такія: упэўненней шукаць свой голас, бо паэзія, як вядома, не толькі рыфмы, а аб'ёмны вобразны свет са сваімі законамі.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

**ВІНШУЕМ!**

***Ніна Галіноўская адданая дзіцячай літаратуры. Яе паэзія прываблівае нестандартнасцю сюжэтаў, жанравай разнастайнасцю, гумарам, гульнявымі элементамі, актывізуе самастойнасць дзяцей, дае адказы на іх многія пытанні, выхоўвае патрыятычныя пачуцці, цікавасць і любоў да роднай мовы.***

***Творы паэтэсы прадстаўлены ў школьных чытанках, у хрэстаматыях і анталогіях беларускай дзіцячай літаратуры, выкарыстоўваюцца ў вучэбна-метадычных дапаможніках, гучаць па радыё. Іх з цікавасцю вучаць на памяць і дэкламуюць дзеці ў школах і дзіцячых садках. Многія вершы пакладзены на музыку, уваходзяць у рэпертуарныя зборнікі песень для дзяцей.***

***Дашкольнікам і малодшым школьнікам прызначана больш дзесяці кніг Н. Галіноўскай, апошняя з іх “Клубок і Калабок” (1999 г.) вылучана на атрыманне Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра.***

***Мы сустрэліся з Нінай Васільеўнай напярэдадні яе хоць і не круглай, ды ўсё ж юбілейнай даты.***

# Тчэцца радок з праменняў...

## Ніне ГАЛІНОЎСКАЙ — 65

**— Паважаная Ніна Васільеўна, паэтэса Людміла Забалоцкая, на маю думку, трапна вызначыла важную асаблівасць вашай творчасці: “Піша прачула і сонечна”. Адкуль у вас гэтая сонечнасць?**

— Ад маці, ад хаты, дзе я нарадзілася і расла, ад роднай прыроды, ад дзіцячых вачэй. Наша старэнькая хата ў вёсцы Вялікія Лазіцы, што на Магілёўшчыне, здавалася мне ў маленстве казачнай. У ёй заўсёды было сонечна, бо вокнамі яна стаяла да сонца. Чарадзейнае святло несла ў душы мая маці, якая добра спявала, любіла паэзію, шмат твораў ведала на памяць, з ахвотай і прыгожа чытала нам Коласа і Купалу.

Гаспадарлівым чалавекам быў мой бацька. Ён не толькі працаваў на зямлі, але і любіў цяслярыць, свае вырабы заўсёды аздабляў арыгінальнымі дэталямі; узімку, калі было менш працы, шыў кажухі. На ўсё наваколле славіўся ігрой на гармоніку. Маці казала, што ён хацеў узяць гармонік нават з сабой на вайну. З вайны не вярнуўся. Загінуў у 1943-м.

**— Ваша пакаленне — дзеці вайны. Ці памятаеце вайну?**

— Дзіцячая памяць чэпкая, эмацыянальная, яркая. Хоць мне ішоў шосты гадок, калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, але я ўсё помню. Як ратаваліся ад карнікаў, як адны — толькі я і мае браты — начавалі ў зямлянцы, як ледзь не загінула ад рук фашысцкіх нелюдзяў мама. Памятаю жудасць варожай аблавы: вярбоўшчыкі хапалі дзяўчат і хлопцаў, нават падлеткаў, для прымусовай адпраўкі ў Германію. Маладыя хаваліся як маглі. Сем дзяўчат так схаваліся, што фашысцкія паслугачы ніяк не маглі прымусіць іх выйсці. Тады яны ў тую яму пусцілі газ. Атручаныя дзяўчаты яшчэ выйшлі са сваёй хованкі, але не выжылі. У страшэнных пакутах памерлі на вачах аднавяскоўцаў. Гэты жах, як і іншыя жахі вайны, — мой боль на ўсё жыццё.

Пра тое, што перажыла ў вайну, я расказала ў паэме “Была вайна”.

**— Ці была ў вас, Ніна Васільеўна, дзіцячая мара?**

— Марыла стаць доктаркай, каб заўсёды дапамагаць людзям. Вельмі шкадавала ўсіх, асабліва хворых і нямоглых, і зараз шкадую і не толькі людзей.

**— Гэта ведаю: вы заўсёды некаму дапамагаеце, некага ратуеце, кормiце, лечыце. Добра памятаю тую прыгожую сароку з перабітым крылом, якую вы цярпліва даглядалі, лячылі; сабаку Жучка, якога знайшлі ледзь жывога, уратавалі, далі яму прытулак у сваёй хаце. А нядаўна пашкадавалі і ўзялі да сябе кінутага некім ката з хворым вокам і яго лечыце. А колькім людзям дапамаглі, дапамагаеце! У вас чулае сэрца, былі б цудоўнай доктаркай. Не шкадуеце, што не сталі ёю?**

— Ніколі не шкадавала, што паступіла на дашкольнае аддзяленне Магілёўскага педвучылішча. У час вучобы і асабліва тады, калі пачала працаваць выхавацелькай у дзіцячым садзе, зразумела: любоў да дзяцей для мяне даражэй за ўсё. З імі знаходзіла найвялікшую асалоду і радасць. Мае маленькія сябры, можа, дзіўна гучыць гэта, спрыялі станаўленню маёй асобы, стымулявалі творчую актыўнасць. Каб зацікавіць, забавіць іх, прыдумвала гульні, нескладаныя вершаваныя радкі, лічылкі, загадкі. Рэакцыя дзяцей, іх жаданне запомніць гэтыя прыдумкі, паўтарыць іх разам са мной яшчэ больш заахвочвалі да творчасці.



**— Ці не было так: каб не педвучылішча і не праца выхавацелькай у дзіцячым садзе, дык, можа, і не рэалізавалі б вы свае паэтычныя здольнасці?**

— Не ведаю, але яшчэ ў час вучобы ў школе спрабавала складаць песні. Лісткі з іх тэкстамі старанна хавала, спявала тыя песенькі толькі для самой сябе. Гэта было нешта накшталт гульні. А вось сапраўднае натхненне, патрэбу ў творчасці адчула толькі ў працы з дзецьмі, лепш сказаць у супрацоўніцтве з імі. Яны стваралі такую атмасферу, што неяк вельмі лёгка, як бы самі па сабе прыходзілі патрэбныя словы, рыфмы, прыдумваліся вершы. Каб зачараваць, звярнуць увагу малых на імклівы вясновы ручай, на

**КНІГАРНЯ**

# Вянок вянкоў цудоўных

Памыляюцца тыя, хто гатовы дзяліць паэтаў (а калі шырэй — пісьменнікаў увогуле) на “сталічных” і “перыферыйных”, бо паэзія, як вядома, гэта асаблівы стан душы, а сапраўдны талент — ён і ў Афрыцы талент. Тым не менш аўтары, якія знаходзяцца далей ад сталічнага тлуму, не могуць не выклікаць да сябе павышанай увагі. Асабліва, калі пішуць хораша, таленавіта, захоплена, знаходзячы ў літаратуры прызванне. А наконт прызнання, дык гэта ад нас залежыць — і крытыкаў, і проста чытачоў. Будзем часцей гаварыць пра тых, хто гэтага заслугоўвае, глядзіш і стануць іх імёны на слыху, а то і прымусяць пацясніцца некаторых з тых, хто, стаўшы ў позу мэтра, даўно лічыць сябе жывым класікам.

Соф'я Шах якраз і здатна даць фору шмат каму са сталічных паэтаў. Іншая справа, што яна друкуецца не так часта, як таго б хацелася. Рэдка сустрэнеш яе імя ў рэспубліканскай перыёдыцы. Ды і кнігамі асабліва пахваліцца не можа. У 1989 годзе ў С. Шах выйшаў паэтычны зборнік “І не пакіне спадзяванне”, які стаў чарговай кнігай “Бібліятэкі часопіса “Маладосць”. Між іншым блаславёны ў друк незабыўнай Яўгеніяй Янішчыц, а ёй нельга адмовіць і ў высокім мастацкім гусце, і ў строгай патрабавальнасці. У 1995-ым у С. Шах з'явілася кніга “Пад высокай лагодай нябёс”, гэтым разам у “Мастацкай літаратуры”. І вось, нарэшце, трэцяя — “Адухаўленне”, жыццё якой даў “Беларускі кнігазбор”.

І папярэднія добра засведчылі, што талент С. Шах — з тых, пра які кажуць — зямны. Паэтэса, пішучы ў традыцыйнай манеры, умее быць адкрытай, яе лірычная гераіня прытрымліваецца цвёрдых маральных прынцыпаў, па-сапраўднаму улюбёная ў родны край і, канечне ж, у той куток Бацькаўшчыны, дзе С. Шах нарадзілася, а гэта — Гомельшчына: пасёлак Азарычы Калінкавіцкага раёна, дзе прайшлі яе дзіцячыя і юнацкія гады і дзе некаторы час настаўнічала. Гэта і горад Светлагорск, у якім жыве і працуе лагапедам у школе-інтэрнаце.

Аднак у С. Шах ёсць асаблівая творчая схільнасць, што вылучае яе з шэрагу іншых паэтаў. Гэта — улюбёнасць у жанр санета. Як можна даведацца з уступнага артыкула да кнігі “Адухаўленне” (“Санет — яе стыхія”), напісанага Ізяславам Катляровым, ні ў кога іншага няма столькі твораў гэтага жанру: “Соф'я Шах мае ў рукапісах 136 вянкоў санетаў. Думаю, што гэта больш, чым ёсць на сённяшні дзень ва ўсёй беларускай паэзіі”. Акрамя таго, С. Шах піша і вянкі вянкоў санетаў, адзін з якіх і даў назву кнізе “Адухаўленне”, а яшчэ чатыры чакаюць свайго часу, каб быць надрукаванымі.

Прачытаўшы гэта, знойдуцца ахвочыя кпліва ўсміхнуцца, падумаўшы штосьці накшталт таго, што ці лепш такую энергію накіраваць на нешта больш істотнае, чым на рэанімацыю жанру, да якога і ў час яго маладосці стаўленне было неадназначнае. Між іншым, на падобным аспекце засяроджвае ўвагу і І. Катляроў, калі ставіць поруч два рэзка супрацьлеглыя выказванні вялікіх: “Поэму в сотни строк затмит сонет прекрасный”, — упэўнена абвяшчаў заканадаўца класіцызму Нікала Руало. А рамантык Байран лічыў санет “педантычным і сумным”. І. Катляроў называе і не адзін дзесятак прозвішчаў тых, хто ў розныя эпохі сцвярджаў сябе (прытым паспяхова) у жанры санета. Згадвае і беларускіх паэтаў.

У адным нельга сумнявацца — санет арэшак цвёрды і ён па зубах далёка не кожнаму. А яшчэ куды цяжэй напісаць вянок санетаў, бо тут існуюць куды больш строгія правілы і патрабаванні: кожны чарговы санет павінен пачынацца апошнім радком папярэдняга, а завяршальны санет, 15-ы па ліку, убірае ў сябе першыя радкі 14 санетаў. Адпаведны падыход да вянка вянкоў: 15-ы вянок складаецца з першых радкоў санетаў усіх папярэдніх вянкоў.

Ды ў дадзеным выпадку, як у самім жыцці, да месца выслоўе: па апратцы сустракаюць, а па розуму праводзяць. Як бы дасканала ні валодаў аўтар законамі вершатворчасці, напісанае ім не ўсхвалюе па-сапраўднаму, калі ў строгую форму пачне штучна “ўціскаць” той ці іншы змест, напоўнены кволымі, не вартымі ўвагі думкамі. У рэшце рэшт не знойдзецца месца самой плоці, а яна ў духоўнай напоўненасці радка, у важкасці агульначалавечага зместу, у значнасці пачуццяў і перажыванняў лірычнага героя (ці, як у вянку вянкоў санетаў С. Шах, лірычнай гераіні). У тым узнёслым, акрыленым, што і нараджае паэзію. Выхоплівае яе з будзённых з'яў паўсядзённасці, робіць рэальна асязальнай. А ўсё гэта пачынае адклікацца ў чытацкай душы тое непаўторнае, што можа нарадзіць талент.

Яно ж у “Адухаўленні” С. Шах ёсць. І пачынаецца з усведамлення значнасці вытокаў, з неабходнасці часцей далучыцца да іх, каб, судакрануўшыся з гаючым і жыццятворным, адчуць сябе чысцейшым, дабрэйшым, напоўніцца прагавітым жаданнем разабрацца ў самім сабе, задумацца, а ці так, як трэба, жыў дагэтуль, адпрэчыць выпадковае, наноснае, каб засталося асноватворнае.

Лірычная гераіня паэтэсы спавядаецца аб набалелым. Спавядаецца, каб і ў іншых падобнае жаданне з'явілася. І няхай у іх свой шлях, верставых слупы, што стаяць на ім, часта падобныя і на дарожныя знакі чужога лёсу. Бо ўсе мы з маленства. І ўсе праходзім перыяды, з якіх і складаецца ланцуг жыцця: маленства, любоў да маці, каханне да блізкага чалавека, якога пачынаеш лічыць адзіным на зямлі. А ўжо як выходнае ад гэтага — памылкі, страты,

птушку-пяюшку, першыя лісточкі на дрэвах, зімой на елачку, абсыпаную сняжком, фантазіравала, прыдумвала дыялогі, складала вершыкі, падключала да гэтага саміх малых. Каб з'явы, словы знайшлі эмацыянальны водгук у іх сэрцах.

**— У вас шмат вершаў, прысвечаных роднай прыродзе. Яны розныя па малюнку, настроях, гучанні. Напісаны не проста з замілаванасцю, але і з адчуваннем прыроды як жывой істоты, да якой належыць адносіцца з удзячнасцю, вельмі беражліва. У змесце вершаў, у іх падтэксце чуецца вельмі мяккае, далікатнае сяброўскае папярэджанне: "Не нашкодзь", "Беражы". Прыгадваюцца такія вашы вершы, як "Хто жыве ў траве", "На прагулцы", "Лета", "Фарбы восені", "Арабінка" і інш. Іх напісаць можна было толькі сапраўды "з прыродай зліўшыся душой". Калі адчулі вы гэтую паяднанасць з прыродай?**

— Здаецца, што ўсё жыццё адчуваю знітаванасць з прыродай і, калі бачу, як бяздумна топчуць газоны, ломяць галінкі і нават дрэўцы, здаецца, нешта адрываюць ад майго сэрца.

Зусім маленькай любіла слухаць, як шэпчуцца за акном пасаджаныя бацькам ліпка, чаромха, арабінка. Невыказнае хваляванне выклікаў у мяне пяшчотны дотык да акенца галінкі, якая быццам хацела мне нешта сказаць. А ранішні спеў птушак, якім так утульна жылося ў шыкоўных, зробленых братам, шпакоўнях. Гэты спеў зачароўваў, вабіў, клікаў мяне ў дзівосны, казачны свет.

Здаецца, дрэвы і птушкі разумеюць мяне. Хочацца абараніць кожную жывую істоту, кожную кветку, казюрку і вершамі сваімі стараюся выклікаць у дзяцей такое пачуццё.

У жыцці зараз шмат жорсткасці, на жаль, нават дзеці здольны здзекавацца са слабейшага, чыняць нярэдка бязлітасную расправу над сваімі аднагодкамі, над жывёламі і птушкамі. А пра іх адносіны да дрэў, кветак і гаварыць няма чаго... А ўсё з-за таго, што ў свой час не прыслухаліся яны да шэпту дрэў і траў, не пачулі гоману рэк і азёр, голасу лесу, і таму не адкрылася ім хараство пачуццяў дабрыні, спагады.

**— Трывога за дзяцей усё больш выразна адчуваецца ў вашай паэзіі. Вы нават выйшлі за межы дзіцячай літаратуры, звярнуліся да публіцыстычнага верша, адрасаванага даросламу чытачу. Маю на ўвазе такія творы, як "У чаканні мамы", "Словы-стрэлы". Што асабліва трывожыць вас сёння?**

— Наш час бурлівы і супярэчлівы. На паверхню ўсплыла "пена", рэзка акрэслілася зло і дабро, сумленне і нахабнасць, праўдзівасць і мана. Многае б'е па сэрцы, выклікае абурэнне, а часам і гнеў. Сумленнаму чалавеку цяжка ўсвядоміць і зразумець негатыўныя з'явы ў нашым жыцці, бездухоўнасць, страту некаторымі людзьмі мэты ў жыцці, чалавечага аблічча. Нямала маладых людзей спусціліся па брудных прыступках нікчэмнасці...

Трывожна на душы ад таго, што бачыш, у якіх умовах жывуць і растуць зараз многія дзеткі. П'янства, разбэшчанасць, брыдкаслоўе дарослых раняць кволую псіхіку малых. Непакоіць абыякавасць многіх бацькоў да інтарэсаў і жаданняў сваіх дзяцей; тое, што ўсё больш сірот пры жывых бацьках. Эгаізм, прагматызм, прага грошай, матэрыяльных выгод, жорсткасць праграмуюцца змалку крывавымі бойнямі ў тэлевізійных фільмах, рамантызацыяй раскошы і танных забаў.

Настаўнікі расказваюць, што прыкметна пачасціліся выпадкі крадзяжу вучнямі кашалькоў не толькі ў сваіх аднакласнікаў, а і ў настаўнікаў.

Сорамна за бацькоў, якія не хочуць, каб іх дзеці вывучалі і карысталіся нацыянальнай мовай.

**— Пра ўсё гэта вы гаворыце і з дзецьмі, безумоўна, з улікам іх узросту, праз займальныя сюжэты, сітуацыі. Пабуджаеце дзяцей да роздуму над актуальным: адносінамі да маці, увогуле да бацькоў, сям'і, брата, сястрычкі, да людзей. Дапамагаеце зразумець сваім чытачам, што чалавек павінен быць добрым, спагадлівым, сумленным, праўдзівым (вершы "Па-сяброўску", "Мая сястра", "З мамай", "Мой незабыўны дзед" і інш.). Ваша любоў да дзяцей пяшчотная і вельмі патрабавальная ("Не хваліце Андрэя", "Шыварат-навыварат", "Тры рукі", "Ветлівы свавольнік" і інш.). Аднак вы ніколі не сказалі крыўднага слова, не пакрыўдзілі ні годнасці дзіцяці. Усё робіцца вельмі тактоўна, добразычліва...**

— Так, і ў размове з дзецьмі ніколі не павысіла голасу. Ведаю, што толькі добразычлівым словам можна кранууць дзіцячае сэрца. Яно такое: як да яго дакранешся — так яно і адзавецца.

**— Дарэчы, вас вельмі часта запрашаюць на сустрэчы з дзецьмі ў школы, садкі, бібліятэкі. Вы ніколі не адмаўляецеся, ідзяце на такія сустрэчы, як на свята. Што даюць яны вам?**

— Сустрэчам з дзецьмі заўсёды рада. Непасрэднасць, чысціня, святая наіўнасць і давер дзяцей ствараюць своеасаблівы свет, апынуўшыся ў якім, сам робішся іншым — святлейшым і дабрэйшым. І яшчэ: ты бачыш, як успрымаецца твой верш, казка, смяшынка...

**— Самыя шчаслівыя моманты ў вашым жыцці?**

— Самыя светлыя пачуцці ахаплівалі мяне, калі я вярталася з дарог у родную хату і маці са слязьмі радасці сустракала мяне. Нібы на крылах, я ляцела праз луг і агарод. Якая лёгкасць была на сэрцы, яно злівалася ў адзіны рытм, адзінае дыханне з зямлёю любаю, з небам, паветрам. Хацелася спяваць, тут жа прыдумваліся словы і мелодыя, і я паўтарала іх, паўтарала... Хацелася зрабіць нешта добрае і прыемнае родным і знаёмым, усім людзям.

Незабыўны, цікавы і непаўторны для мяне час, калі я працавала ў дзіцячым садку. Мінула шмат гадоў, а і зараз калі-нікалі прыходзяць у сон "мае дзеці".

**— Хацелася б пачуць вашу думку пра сучасную беларускую дзіцячую літаратуру.**

— Сучасная дзіцячая паэзія (скажу пра яе) шматтэмная, цесна звязаная з многімі аспектамі сучаснага жыцця. Яна ўзбагацілася жанрава, інтэлектуальна. Знікае ў ёй заігрыванне, сюсюканне, побач з казачнымі сюжэтамі вядзецца шчырая і зацікаўленая размова з дзецьмі пра сур'ёзныя рэчы, пра навакольны свет. Многім аўтарам удаецца без надакучлівай дыдактыкі займальна весці з дзецьмі даверлівы дыялог аб усім і пра ўсё.

**— Якім бачыцца вам будучае беларускай дзіцячай кнігі?**

— Хочацца бачыць нашу дзіцячую кнігу, асабліва для дашкольнікаў, яркай, прывабнай, надрукаванай на добрай паперы, каб дзіця само магло па малюнках фантазіраваць, прыдумваць новыя, свае сюжэты. Каб выдаваліся для самых маленькіх беларускія кніжкі-малюнкі, кніжкі-раскладанкі, кніжкі-расфарбоўкі. І яшчэ: каб кніжкі і часопісы былі даступныя дзецям.

**— Вашы творчыя планы і сённяшняя запаветная мара?**

— Незадаволена сабой: шмат часу і душэўнай энергіі аддавала і аддаю жыццёвым дробязям. Ёсць тэмы і задумы. Толькі б нішто не перашкодзіла іх ажыццявіць.

Вельмі хачу, каб наша Беларусь стала дзяржавай з нацыянальным абліччам, нацыянальнай душой, культурай, каб кожны яе жыхар з гонарам гаварыў, што ён беларус — па крыві, па духу, па нораву.

**— У вас шмат нястомнасці, энергіі, жыццялюбства. Што трымае на хвалі аптымізму?**

— Вера ў разумнае будучае, у праўду, сумленнасць, справядлівасць, у наш таленавіты народ.

**Гутарыла**
**Маргарыта ЯФІМАВА**

---

расчараванні, нярэдка неабходнасць пачынаць усё з "чыстага аркуша".

Вянок вянкоў С. Шах — вянок думак, пачуццяў, сатканых з улюбёнасці ва ўсё роднае, беларускае. Паэтэса ўмее быць надзіва пераканаўчай, калі вуснамі лірычнай гераіні выказвае замілаванасць зямлёй, якая дае ёй натхненне. А абуджэнне пачынаецца з вясны. Вясна — зыходны момант гаворкі ў "Адухаўленні" пра час і сябе ў гэтым часе. Менавіта з гэтага моманту і пачынае класціся вянок да вянка, каб з цягам часу ператварыцца ў квяцісты дыван сюжэтна завершанай (не здзіўляйцеся, сюжэт у вянку вянкоў прысутнічае, праўда, ён не падзейны, а эмацыянальна-пачуццёвы, але тое, пра што расказвае С. Шах, звязана між сабой, паступова ператвараецца ў паэтычную аповесць, І. Катляроў называе яе "санетнай аповесцю") кампазіцыі з 15-ці вянкоў санетаў.

Малюнак жа вясны ў С. Шах запамінальны:

*Ужо зусім і цені веснавыя:*
*не проста адасоблена ляглі, —*
*яны прыпалі мякка да зямлі,*
*ей-божачку, затоена жывыя.*

*Сачыць за імі лёгка і цікава,*
*такія сталі цёплыя вачам.*
*Яны між светлавых, зіхоткіх плям —*
*бы нейкая загадкавая з'ява.*

*Уздрыгваюць, калышуцца, шырэюць,*
*напружваюцца, праз хвіліну млеюць,*
*і прама ападаюць, і наўскос...*

*Кару і дол казычуць трапятліва,*
*цякуць шаўковым, зменлівым разлівам*
*ад светлых ліп, таполяў і бяроз.*

А колькі назіральнасці, якая чуйнасць у гэтых радках?! — "Парой здаецца, камяні і тыя // ужо нашто старыя ды глухія, // а пах праменіць здольныя-такі...".

Вядзе дарога жыццёвая паэтэсу ў Азарычы, каб ажылі знаёмыя панядці і з'явы, каб усплылі ў памяці звыклыя сэрцу малюнкі і воблікі дарагіх людзей. Тым самым таксама адбываецца маральнае ачышчэнне і неабходнасць яго ўзмацняецца па меры таго, калі ўваходзіць у душу блізкае і дарагое. Лірычная гераіня С. Шах шукае сябе ў тым колішнім, ранейшым, гледзячы на яго інакшымі вачыма, чым у гады маладосці. А позірк сталага чалавека — не толькі больш праніклівы і засяроджаны, а шмат у чым і крытычнастрогі. Таму з'яўляюцца і радкі самакрытычныя, найперш адрасаваныя маці:

*Даруй мне, у жыцці і тут спазнелай...*
*Не хутка дойдзе да цябе вянок*
*па цеснаце парог,*
*скрозь тло і змрок,*
*каб, прачытаўшы,*
*ўсё ты зразумела.*

Адбываецца і пераацэнка адносін з бацькам:

*А бацьку татам*
*так і не змагла я*
*з тых пор,*
*шчэ неўсвядомленых, назваць,*
*хоць быў ён родным... А,*
*ды што казаць, —*
*яму была як быццам я чужая.*

У споведзі гэтай — звычайны стан чалавека, які нямала зведаў і пабачыў. Гэта звычайная неабходнасць лепш зразумець сябе самую. У тым жа часе, сярод людзей. І зразумець, што, нягледзячы на перажытае, сапраўднае шчасце не абмінула цябе. Няхай і запознена прыйшло, але гэта такое шчасце, якому застаецца пазайздросціць:

*За што мне так шануе у жыцці?*
*Што я такога дзіўнага зрабіла,*
*што выбрала мяне святая сіла*
*спазнаць вышыні ў вечным пачуцці?*

*Злучыла з чалавекам, за якім*
*не толькі высі, а і далячыні*
*у колерах зялёных, жоўтых, сініх*
*яго працягам паўстаюць жывым.*

*Ну як жа тут не падзівіцца зноў:*
*ці то нас выпадак найрэдкі звёў,*
*ці то найсветлае наканаванне:*
*што скрозь памылкі цяжкія вяло*
*і для сустрэчы позняй зберагло, —*
*не ведаю яму і параўнання.*

Чытаць вянок вянкоў, нязменна атрымліваць сапраўдную асалоду і для душы, і для сэрца. С. Шах добра валодае словам, вобразная напоўненасць радка натуральная, а таму ўспрымаецца без той патугі, калі некаторыя паэты, імкнучыся падацца як мага больш сучаснымі, страчваюць пачуццё меры. Разам з тым нельга і адмаўляць цяжкасцяў, бо "Адухаўленне" — не проста паэтычныя творы, санеты. Часам, хоча таго аўтар ці не, ён вымушаны як бы "падганяць" словы ў "каркас-форму". Да гонару С. Шах, яна лёгка пераадольвае гэтыя жанравыя цяжкасці. І толькі ў адзінкавых выпадках бы спатыкаешся без "цяжкаватай" моўнай канструкцыі: "Звычайны, як і ўсе тады, раён, // а ў пажыццёвы захапіў палон // якімсьці невытлумачальным чынам".

Думаецца, пры дапрацоўцы, гэтага можна лёгка пазбавіцца. Пры дапрацоўцы, бо цешу сябе спадзяваннем, што калі-небудзь можна будзе пазнаёміцца не толькі з неапублікаванымі яшчэ вянкамі вянкоў санетаў С. Шах, а і з усімі імі, сабранымі пад адной вокладкай. Усё ж вянкі вянкоў санетаў — яшчэ адно пацвярджэнне сталасці нашай літаратуры. Тым больш, што, як вядома, яны ёсць у Змітрака Марозава, Мікалая Віняцкага. І. Катляроў нават схільны сцвярджаць, што С. Шах стала першапраходцам, паколькі "Адухаўленне" напісала яшчэ ў 1989 годзе, а вянок вянкоў З. Марозава "Апакаліпсіс душы" пабачыў свет пазней. Але трэба пагадзіцца з І. Катляровым у наступным: "Зрэшты, літаратура — не спорт. Тут важна, не хто першы... Аднак сапраўдны паэт міжволі спаборнічае сваімі творамі, сваім талентам не толькі з сучаснікамі, але і з папярэднікамі, і з наступнікамі ва ўсіх стагоддзях".

Што да С. Шах, дык, як пераканаў яе вянок вянкоў санетаў "Адухаўленне", спаборнічае яна ўпэўнена. Застаецца пачакаць з'яўленне ў друку яе іншых твораў у гэтым жанры.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

# Кожнаму прыхільніку беларушчыны

***Любоўю і карпатлівай працай нашых даследчыкаў шмат ужо зроблена па зборы і апісанні народнай фразеалогіі, але гэтыя моўныя набыткі трэба павялічваць, што будзе садзейнічаць далейшаму развіццю беларускай нацыянальнай культуры. Прыкладам таму служыць і выдадзены Гродзенскім дзяржаўным універсітэтам імя Я. Купалы "Слоўнік дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны" М. Даніловіча, дзе аўтарам сабрана звыш дзвюх тысяч фразеалагізмаў з сучасных народных гаворак пераважна Гродзенскай вобласці. Гэта праца будзе карысна студэнтам, навукоўцам, настаўнікам, кожнаму прыхільніку беларускай мовы.***

Слоўнік з'яўляецца дыферэнцыйным, у яго ўвайшлі ўстойлівыя звышслоўныя адзінкі, не зафіксаваныя ў фразеалагічным слоўніку літаратурнай мовы і рэгіянальных слоўніках І. Лепешава, Е. Мяцельскай і Я. Камароўскага, Т. Сцяшковіч, Г. Юрчанкі, Ф. Янкоўскага і інш. Пададзеныя фразеалагізмы ў слоўніку ўяўляюць навуковы інтарэс найперш з пункту гледжання іх семантыкі, да прыкладу: **укінуць як зязюлька яйка** 'зрабіць вельмі мала, для адчэпнага',**сесці на голы камень** 'пачаць самастойнае, сямейнае ці новае жыццё, не маючы ніякай матэрыяльнай асновы', **скура ды арматура** 'вельмі худы хто-н.' і інш., а таксама варыянтнасці, прадстаўленыя заменай аднаго ці некалькіх слоў-кампанентаў:**клыкі прадаваць — прадаваць зубы, і пары з губы (з губою, з зубоў) не пусціць (не выпусціць) — і (ні) пары з рота не пусціць (не выпусціць), кільчак на язык — ціпун на язык** і інш.; асобных гукаў, іх колькасці і парадку размяшчэння: **бімбікі біць — бібікі біць, бронь божа — барані божа** і інш.; словаўтваральна-марфемнай будовы кампанентаў: **лезці смаліцай у вочы — лезці смалой у вочы, з ветру вяроўкі саўе — з ветру вяроўкі віць, замарока галавы — замарочванне галавы** і інш.; граматычных форм кампанентаў: **мех і торбу — мех з торбай, на вярбе груша расце — на вярбе грушы растуць, дурным папом хрышчаны — дурны поп хрысціў** і інш.; колькасці кампанентаў і ў выніку гэтага — сінтаксічнай структуры:**мяшком прыпылены — як пыльным мяшком удараны, вочы пазычыць — у сабакі вачэй пазычыць** і інш.

Пашпартызаваныя ілюстрацыі паказваюць, у якім раёне ці раёнах пераважна Гродзенскай вобласці занатаваны той ці іншы выраз, што дае чытачу ўяўленне аб функцыянаванні фраземы ў канкрэтнай гаворцы.

Удалымі можна назваць даведкі, што суправаджаюць некаторыя слоўнікавыя артыкулы, дзе аўтар не толькі прыводзіць кароткія этымалогіі пра адпаведныя ўстойлівыя выразы, але і тлумачыць сэнс ці спосаб утварэння і састарэлых, і дыялектных, і аказіянальных слоў, якія ўваходзяць у склад фразеалагізмаў.

Пэўныя нараканні ў працы можа выклікаць адсутнасць фанетычнай транскрыпцыі, якая звычайна выкарыстоўваецца ў дыялекталогіі пры падачы ілюстрацыйнага матэрыялу, а таксама націску ў многіх загаловачных фразеалагізмаў, што не дае правільнага ўяўлення аб акцэнталагічнай асаблівасці даследаваных гаворак.

Гэтай працай засведчана, што беларуская мова, нягледзячы на самыя неспрыяльныя варункі свайго функцыянавання, працягвае жыць і развіваецца па сваіх унутраных законах у асобе як непасрэдных носьбітаў пэўных гаворак і літаратурнай мовы, так і ў асобе рупліўцаў беларускага слова, якія захоўваюць і пашыраюць прастору беларускай мовы, уводзяць яе ў культурны абыходак народа.

**Влаянціна ТРАЙКОЎСКАЯ**

## "Мікітавы прыгоды"

Колькі разоў апошнім часам даводзілася з ухвалой пісаць аб тым, што ў раённым цэнтры Горкі, які на Магілёўшчыне, выходзяць цікавыя кнігі. І вось зноў з'явілася такая нагода. Дзякуючы аддзелу культуры Горацкага райвыканкама пабачыла свет аповесць у вершах (можна гаварыць і інакш: вершаваныя апавяданні, бо сам аўтар жанр не вызначае) "Мікітавы прыгоды", напісаная Алесем Клокам. Праўда, гэтае імя пакуль не шмат гаворыць, ды і Клок — не прозвішча, а літаратурны псеўданім Аляксандра Віктаравіча Клачкова — доктара тэхнічных навук,




прафесара, аўтара больш за 200 навуковых прац. А. Клачкоў чытае лекцыі не толькі студэнтам Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, а і выязджае дзеля гэтага за мяжу, дзе яго курсы па сельскагаспадарчых машынах (дарэчы, пададзеныя на англійскай мове) карыстаюцца вялікай папулярнасцю, бо Аляксандр Віктаравіч дасканала ведае сваю справу. А яшчэ А. Клачкоў, як па-сапраўднаму інтэлігентны чалавек, не цураецца роднай беларускай мовы, якую добра ведае з маленства. А да ўсяго спрабуе пісаць. І не проста па-беларуску, а на народна-гутарковай, усходнемагілёўскай гаворцы. На ёй напісаны і "Мікітавы прыгоды", героем якіх з'яўляецца звычайны вясковы працаўнік:

*Хто такі ён, наш Мікіта?*
*І які з яго герой?*
*Аніякі. Сеяў жыта.*
*Пасвіў коней пад гарой.*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Ён жыццё пражыў ў вёсцы*
*І за працай бавіў час:*
*То араў, то правіў коскі,*
*Бачыў, можа, менш за вас.*

І ўсё ж Мікіта — не такі, як усе. Бо не пазбаўлены досціпу, за словам у кішэню не лезе, у меру разважлівы, у меру — мудры. А з такімі часта адбываюцца розныя гісторыі. Якія — можна даведацца, пазнаёміўшыся з кнігай А. Клока. Адразу трэба сказаць, што хоць Мікіта і з'яўляецца жыхаром беларускай вёскі 60-х гадоў нашага, адыходзячага стагоддзя, а менавіта ў гэты час адбываецца дзеянне, ён шмат у чым блізкі і палясоўшчыку Тарасу, і Несцерку. Дый, пры жаданні, лёгка правесці паралель з паэмай Анатоля Астрэйкі "Прыгоды дзеда Міхеда". Разам з тым — гэта персанаж глыбока індывідуальны і яго ніколі не зблытаеш з вядомымі папярэднікамі. Падабенства ж толькі ў тым, што і Мікіта з гонарам выходзіць з розных выпрабаванняў, з нечаканых сітуацый, а калі патрэбна, любога, як кажуць, за пояс заткне.

Кожная з гісторый, пададзеных А. Клокам, сюжэтна завершаная. Сярод іх вылучаецца раздзел "Лось". Такой думкі, дарэчы, прытрымліваецца і аўтар прадмовы "Пасмяёмся і... падумаем" лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова Алесь Пісьмянкоў. У гэтым раздзеле А. Клок асабліва тонка спасцігае душу свайго героя, які, калі з'яўляецца неабходнасць, здатны на тое, да чаго дадумацца можа чалавек разважлівы ды і ад прыроды не пазбаўлены гумару. А адбылося гэта тады, калі паступіла партыйная дырэктыва не трымаць у асабістай гаспадарцы коней. Мікіта месца не знаходзіць, бо мае кабылку. Выйсце са становішча дапамог знайсці сусед Савося — "паляўнічы-прайдзісвет". Ён і параіў: "Перахрысцім яе ў лося, — // Кажа, — З лося спросу нет". А да ўсяго прычапілі кабылцы ласіныя рогі. Калі ж прыехаў правяраючы, гаспадар гэтага "каня-ласяˮ трымаўся належным чынам:

*А Мікіта ўжо навучан,*
*Кажа: "З'еў кабылку воўк.*
*Ну, а лось — дык ён прыручан".*

Цікавыя здарэнні пакладзены і ў аснову раздзелаў "Бульба", "Самалёт", "Самагонка", "Вяселле", "Старшыня" і іншыя. Сапраўды ўжо: чытач і пасмяецца разам з аўтарам ды і шмат аб чым падумае над жыццём-быццём. Ды і над тым, што яго святлейшым і больш аптымістычным робяць людзі, падобныя Мікіту.

Юрась ВАЙСЁНАК

ПАЭЗІЯ

Віктар ГАРДЗЕЙ



# Я жыву на сваім чарнагор'і...

## За даль-мярэжай

*Наблукаўся я даволі*
*І прыйшоў сюды здалёк:*
*Не хістайся ў чыстым полі,*
*Друг жаданы — васілёк.*

*Бачыш: там, за даль-мярэжай,*
*Б'е чырвоная раса.*
*Хай, аднак, цябе не зрэжа*
*Вельмі ржавая каса.*

*Пінжачок мой наапашкі.*
*Вока лашчыць сінявет.*
*Звон бруска і спеў мянташкі —*
*Вечны чэрвеньскі дуэт.*

*Над раскошай палявою,*
*Свежы ветрык, падурэй!*
*Лепш упасці пад касою,*
*Што за боль душы вастрэй.*

*Хай на полі, хай у высях —*
*Сінявы аж цераз край.*
*Не хістайся, не журыся,*
*Як пайду — не дакарай.*

*Сумна точацца хвіліны*
*Спаміж пальцаў на пясок.*
*Што ж, бывай, мой друг адзіны:*
*Шлях далёк, а дзень высок!*

## Чарнагор'е

*Я жыву на сваім чарнагор'і,*
*Хай не князь, хай не пан, але мне*
*Узыходзяць начамі сузор'і*
*І паўзе цень жыцця па сцяне.*

*То дажджы, то віхура засвішча,*
*То сумётамі шлях пералёг.*
*Зарастае маё гарадзішча:*
*Вербалоззе, алешнік, быльнёг.*

*У глушы развітацца гаркотна*
*З маладосцю, напэўна, другой.*
*Цішыня перад бурай грымотнай*
*На адгор'ях, прыкрытых смугой.*

*Спавядацца ў пакутах не кіну.*
*Час ляціць, нібы конь, наўзгалоп.*
*І кудой ні спускайся ў даліну —*
*Чарнабыл, чарналес, чарнатроп.*

## Ноты

*Ластаўкі на дроце — быццам ноты.*
*ДОбра бачна: вылет малады.*
*РЭквіем жыццю пасля спякоты*
*МІласэрна стогнуць правады.*

*ФАрбы смутку развядуць слязамі.*
*СОЛЬ зямлі адгрузяць за даўгі.*
*ЛЯ крыніц, напоеных дажджамі,*
*СІтны хлеб смачней за пірагі.*

*ДОсыць жыту слухаць спеў хвалебны.*
*Многа жыць, напэўна, хтосьці рад.*
*Паяднае гімны і малебны*
*Ластавак журлівы гукарад.*

●

*То павароты, то загібы*
*Дарог і сцежак, а яны*
*Бягуць ваколіцай сялібы*
*На ўсе чатыры стараны.*

*Ісці да рысы немінучай,*
*Дзе шлях шыпшынаю парос,*
*Скуль не відаць, што ў свеце буча*
*І калатнеча, і хаос.*

*Сусед смяшлівы і высокі.*
*Сусед маўклівы і худы.*
*Яшчэ чутны іх блізка крокі,*
*А ўжо засыпаны сляды.*

*Іду сюды — лаза ў балоце,*
*Дрот на слупах паела ржа,*
*І на чарговым павароце*
*Няма ні лаўкі, ні крыжа.*

*Іду ў жудзе — нідзе нікога,*
*Яшчэ ж праз даль убачыць змог:*
*Няма ў балоце нават стога,*
*Няма сялібы і дарог.*

●

*Сабе пакланюся — быламу,*
*Як бег басаног па расе,*
*І лесу, дзе вырас, і дому,*
*І саду, што бурай трасе.*

*Там добра — не ўежна, ды ўлежна,*
*Там чыста, і я — не ізгой*
*З натурай сваёй незалежнай*
*І з першай — раптоўнай — тугой.*

*Яшчэ не баліць там нічога,*
*Ні ран, ні стыгматаў Хрыста.*
*Каб ведаць: пакутліва-ўбогай*
*Жыццёвая лучыць вярста.*

*Забудзецца вобраз сірочы*
*І час, што мільгнуў паміж траў.*
*Успомніць бы матчыны вочы.*
*Згадаць бы, хто хлеба даваў.*

●

*З белага воблака выйдзеш ты ў белым.*
*Воблака сядзе на луг ранічой.*
*Там я блукаю, душой агрубелы,*
*Там я, матуля, іду за табой.*

*Голас твой чую і плачу не ўпотай.*
*Голас твой чую — самой жа няма.*
*Бачу: зжаўцелая кружыць лістота.*
*Бачу: шляхі замятае зіма.*

*З белай завеі ты горкай часінай*
*Выйдзеш у белым, і мне ласкавей*
*Свет усміхнецца ў самоце адзінай*
*Воблакаў снежных і шумных завей.*

## Кагор

*Меціць Бог пусталобых*
*Да сівой галавы.*
*Лі кагор у вантробы,*
*І — ні шум баравы.*

*Захацеў! Губы — насцеж!*
*Знай: па кроплі, па дзве*
*Той кагор на прычасце*
*Падаюць у царкве.*

*Суцяшай, Усявышні;*
*Хай прыходзіць настрой.*
*Колер выспелай вішні*
*Мае боскі напой.*

*Як душа заспявае,*
*Думай: годна жывеш.*
*Галава ж не сівая,*
*Толькі шырыцца плеш.*

*Грэх даруецца зуху,*
*Але ведама мне:*
*Не ўтапіць сваю скруху*
*І ў царкоўным віне.*

●

*Прыходзіць ноччу мроя, ці міраж,*
*Калі душа знябытная ў трывозе:*
*Ляціць, ляціць заблудны экіпаж,*
*Відаць, з вайны на ржавым бамбавозе.*

*Мяне заўважыць — у піке нырне,*
*А выбухі грымяць па ўсёй Еўропе,*
*І сканануцца шыбіны ў акне,*
*І галаву пасыпле свежы попел.*

*Гарыць зямля і часу рвецца ніць,*
*Але, на шчасце, засвітае скора.*
*Расплюшчу вочы: сапраўды трымціць*
*Адчайны гул нябеснага матора.*

●

*Змрок чарнее на зайздрасць асмалку:*
*Дзень гарачы нарэшце патух,*
*Ды чамусьці, як помніца змалку,*
*У жалейку не плача пастух.*

*Тут, за вёскай, на грудзе высокім*
*Віртуальнага зроку падман:*
*Вунь каровы плывуць праз аблокі,*
*Вунь ныркуў маладзік у туман.*

*І падобна ўжо дзея падспудна*
*На біблейскі сюжэт здаляка:*
*Чарадзе, паслухмянай і блуднай,*
*Мілы біч, як і брэх дварняка.*

*Ці чарга, ці — іначай — калейка.*
*Будзе ноч. Будзе сон. Ды спярша*
*З той віны, што не плача жалейка,*
*Затрымціць, зарыдае душа.*

●

*Сцяжынка ўніз і — на грудзы,*
*Ды зноў праз лесапаласу.*
*Калі не я, то хто тады*
*Стрывае боль, які нясу?*

*У плечы сонца прыпячэ*
*І баравік мірґне з імху.*
*Калі не я, то хто яшчэ*
*Мяне заменіць на шляху?*

*Вунь выплываюць з-за смугі*
*Палеткі ў спелай збажыне.*
*Калі не я, то хтосьці другі*
*Сажне прызначанае мне.*



Фота Ул. КАГУЦЕНКІ

ПРОЗА

# МЫЛІЦЫ ЛЯ ЦАГЛЯНАЙ СЦЯНЫ

НАВЕЛА



Алесь ДЗЯТЛАЎ

ДА АДЫХОДУ поезда быў яшчэ час, таму на пероне было пуставата. Ля нізенькай драўлянай агароджы, пафарбаванай у зялёны колер, гаманіла купка вясковых жанчын, ля піўнога ларка тоўпілася некалькі мужчын у рабочай вопратцы. У канцы станцыі па пуцях торгаўся туды-сюды манеўровы, чырвонага колеру цеплавозік; далей пыхкаў чорным дымам паравы кран. Ён спрытна паварочваўся, апускаў свой круглы коўш на вялікую вугальную кучу, потым паціху, важка падымаў яго і нёс да самазвала; над кузавам расшчапляў коўш — вугаль, уздымаючы слуп чорнага пылу, сыпаўся ў машыну.

З невялікага будынка станцыі людзі пакрысе выходзілі на перон. Найбольш гэта былі вясковыя кабеты з кошыкамі, сумкамі, авоськамі, а то і проста са зрэбнымі посцілкамі. Везлі яны з горада свае пакупкі: адны поўны кошык хлеба, селядцы, свежую рыбу, іншыя вярталіся з базара з парожнімі бітонамі, слоікамі, у якіх раніцою прывезлі на продаж малако, смятану, тварог. Многа тут было і рабочых, якія жывуць у вёсках і гэтым прыгарадным цягніком штовечар вяртаюцца дадому.

Да лаўкі, што прытулілася ля чырвонай цаглянай сцяны станцыйнага будынка і якую чамусьці ніхто не заняў, цяжка грукаючы мыліцамі па асфальце, кіраваў інвалід. У яго не было абедзвюх ног: з-пад старога, шэрага колеру плашча тырчала груба выструганая дзеравяшка з жалезным бліскучым наканечнікам. Трымаючыся адной рукой за спінку лаўкі, ён прыставіў да сцяны мыліцы, далоняю выцер з шырокага загарэлага лба пот, расплікнуў плашч, пад ім стаў відзён добра падношаны, але чысты, шэрага колеру картовы пінжак, расхрыстаная на грудзях зялёная каўбойка. На галаве блінцом сядзела лінялая кепачка з маленькім, пераломленым пасярод брылём. На другой куксе штаны былі перагнуты і падвязаны вяровачкай: нагі не было вышэй калена.

Ён цяжка, неяк няўклюдна крутнуўшыся на дзеравяшцы, апаў на лаўку, пасунуўся бліжэй да сярэдзіны. Колькі яму гадоў — дакладна і не вызначыш. Мо трыццаць, а мо і меней. На твары, на шыі, на грудзях чырванелі пісягі ад апёкаў: дзесьці хлопец трапіў у агонь, і ён пакінуў свае жахлівыя сляды. На худых шчоках — рудавата-сівая шчэць.

Ён сядзеў, невідушча глядзеў прама перад сабой, хістаўся туды-сюды, мармытаў нешта падобнае на песню; яго дзеравяшка таксама пагойдвалася.

Ля другога канца лаўкі прыпынілася бабулька. Яна цяжка саштурхнула з плячэй увязаны ў зрэбную посцілку кошык з хлебам, уздыхнула, ражком хусткі выцерла твар і прысела на лаўку. Рукою памацала ў кошыку, адламала паўбатона, акуратна захінула посцілку, пачала няспешна жаваць.

Інвалід скасавурыўся на яе, п'янавата смыкнуў губамі, схіліўся ў яе бок.

— Вып'ем, мамаша, — нечакана выкрыкнуў ён фальцэтам. — Жызня-та — плюнуць раз, — і нет яё.

Ён падміргнуў ёй, расхінуў свой плашч, з кішэні пінжака выцягнуў пачатую паўлітроўку. Зноў скасавурыўся на жанчыну, але нічога не сказаў. Зубамі выцягнуў з бутэлькі папяровую затычку, паклаў яе ля сябе, задраў угору галаву і пачаў піць проста з бутэлькі. Піў прагна, кадык торгаўся на худой, зарослай рэдкай шчэццю шыі; ад натугі твар, шыя, грудзі пачырванелі. Нарэшце, ён адарваўся ад пітва, шумна выдыхнуў і, трымаючы бутэльку левай рукой, правай выцер губы, падбародак.

— Ах, мамаша, харашо. Ха-ра-шо...

— Мо ты б закусіў, сынок. Давай батончыка адламаю. Во якраз ёсцека пачаты. Свежанькі шчэ.

— Не, мамаша, божую слязу грэх псаваць закускай. Смак не той будзе.

— Вой-ёй-ёй, а як жа так? Шчэ спаліш нутранасці, — завойкала старая.

— Не спалю, мамаша. Праверана ўсё і іспытана. Як у сапёрах. Разумееш?

Ён павярнуўся ўсім тулавам, паставіў на лаўку паўлітроўку, сцягнуў з галавы кепку, паклаў яе ля бутэлькі. Злямчаныя чарнявыя, з сівізной валасы, макраватыя ад поту, далоняй прыгладзіў на бок, п'янавата хістануўся наперад і ледзьве не скульнуўся з лаўкі на асфальт.

— Ой, божа ж ты мой, — жахнулася старая. — Галаву разаб'еш аб камяні. Ой, што гэта такое... Ці ж так п'юць?

— Нічога, мамаша. Мы народ крэпкі. Палены, гарэлы...

Ён зноў п'яна захістаўся, нешта ціха замармытаў, як бы запеў. Купачка вясёлых дзяўчатак, глянуўшы на яго, засмяялася, стрымана рагатнулі хлопцы з доўгімі, па модзе, валасамі, якія гаманілі з дзяўчаткамі. А хлопец, упяўшы пагляд некуды міма іх, чырвоны ад гарэлкі, ад духаты, непрыгожы, нягolены, з жахлівымі пісягамі на твары, усё нешта мармытаў, гайдаўся.

Старая паціху бяззубым ротам жавала батон, збоку жаласліва глядзела на яго. Паклала на кошык недаедзены кавалак, адвярнулася да сцяны, палезла за пазуху, доўга там корпалася і нарэшце выцягнула завязаную вузялком насоўку, дастала зматы рубель і паклала інваліду на шапку, датыкнулася да яго рукава:

— Вазьмі, сынок, на білет. Поезд жа во прыходзіць, а табе ж, пэўна, некуды трэба ехаць.

Яна ўздыхнула і зноў сказала:

— Бяры рубельчык. Я ж хачу, каб ты даехаў ды каб добра ўсё было. Вазьмі. А мо табе білет купіць?

Ён толькі цяпер, відаць, уцяміў, што старая гаворыць пра грошы, паглядзеў на сваю кепку, убачыў скамечаны рубель; пісягі ад апёкаў пачырванелі, ён смыкнуў губамі, адмоўна пахітаў галавой:

— Э, мамаша. За дабрату твою — дзякуй. А грошы мне не трэба, вазьмі. У мяне ёсць. Вазьмі, мамаша!

Яна здзівілася, разгублена паглядзела на яго, пачала нешта шамкаць бяззубым ротам, а ён нечакана павысіў голас:

— Вазьмі, мамаша! Я ж сказаў...

Яна здрыганулася, пужліва глянула на яго, хуценька схапіла рубель і гэтак застыла — маленькая, старая, разгубленая. Хлопец, відаць, сцяміў, што пакрыўдзіў старую, яна ж давала рубель ад чыстага сэрца, хацела дапамагчы яму, і ён нахіліўся да яе, мякка сказаў:

— Я разумею цябе, мамаша. Ты харошы чалавек. Толькі грошы я не бяру. Не, не бяру.

Ён адвярнуўся, рукою паправіў дзеравяшку, расплікнуў гузік на каўбойцы, каб, відаць, лягчэй было дыхаць, а потым згроб бутэльку і зноў прыклаўся да яе... Хлопец з доўгімі валасамі хіхікнуў, сярэдніх гадоў мужчына ў чорным капелюшы, у белым плашчы, з шырокім бабскім тварам, які неўпрыкмет падышоў сюды і чуў, відаць, усю размову, нездаволена буркнуў нешта.

— Ай, сынок, — зноў уставілася ў інваліда старая. — Як ты етакі ў поезд сядзеш? Хіба мо хто паможа табе. Навошта ж столькі піць? Во, бач, і хлеба нат на зуб не ўзяў.Канечне, ахмялееш..

Ён пахіснуўся, глянуў на яе:

— Сяду, мамаша, даеду, не хвалюйся. Памогуць людзі добрыя.

— Памогуць. Вось скора тут і ляжаш, — са злосцю сказаў чорны капялюш. — Тут табе і крышка...

Хлопец узняў на яго вочы, цяжка глядзеў колькі хвілін і ціха сказаў:

— Эх, ты нічога не бачыш... Сляпы ты.

— Ну, ну, ты цішэй, — адступіўся ад яго мужчына. — А то міліцыю паклічу. Загрыміш, куды трэба. З такімі там доўга не важдаюцца...

— Заві! — выкрыкнуў бязногі. — Заві, падла...

Мужчына ў капелюшы ажно змяніўся ў твары, падскочыў на месцы, прабег у адзін бок перона, у другі, разгублена шукаў вачамі міліцыянера. Потым знік у будынку станцыі.

— Навошта ты яго так? — уздыхнула жанчына. — Нейкі анцілігентны, пад капялюшам, а ты яго... Вот цяпер пратакол на цябе напішуць.

Бязногі нічога не адказаў, няспешна заплікнуў каўбойку, расхінуў плашч, схаваў у кішэню пінжака недапітую бутэльку.

На перон выйшаў міліцыянер — высокі танклявы хлопец. За ім трухаў чорны капялюш:

— Непарадак, таварыш сяржант. П'яны, людзей абзывае...

Сяржант спыніўся, з робленай строгасцю агледзеў пасажыраў, спыніў позірк на інвалідзе. Не спяшаючыся, падышоў да яго, строга сказаў:

— Грамадзянін, піць тут забаронена. Чуеце?

Бязногі ўзняў на яго вочы, колькі секунд няўцямна глядзеў на высокую фігуру ў міліцэйскай форме, а потым ціха, з вінаватасцю ў голасе сказаў:

— Парадак не парушаю. А гэты во, — тыцнуў рукой у бок мужчыны ў капелюшы, — сам чэпіцца.

— Грамадзянін, вы чулі, піць тут нельга. Падымайцеся і ідзіце адсюль. Ясна?

— Нікуды я не пайду. Поезда чакаю, разумееш?

Сяржанту, відаць, не вельмі хацелася звязвацца з бязногім інвалідам. Але ж парадак павінен быць. І міліцыянер стаяў, моршчыў лоб, шукаючы выйсце. Нарэшце, павысіў голас:

— Грамадзянін, вы чуеце? Ну, прашу вас...

— Судзіць такіх трэба, што з імі важдацца, — падступіўся бліжэй мужчына ў капелюшы. — Даўно пара. А то героямі сябе адчуваюць.

Хлопец грэбліва, прыжмурыўшыся, паглядзеў на яго, ухмыльнуўся, рэзка выгукнуў:

— Судзіць? А дзе ты быў, калі я з кашчавай абнімаўся? Піў і жраў! Морда!

Мужчына сумеўся, але выгляду не падаў, з-за спіны міліцыянера злосна кінуў:

— Ваяваў? Ведаем такіх. Мо вочы гарэлкай заліў ды пад машыну трапіў. А цяпер во герой. Ведаем мы такіх ваяк...

Бязногі з нянавісцю зіркнуў на мужчыну, памкнуўся наперад, злосна, ужо цвяроза, нервова выкрыкнуў:

— Адмарозіў ногі, падла! Поўз п'яны, заснуў... Давольны?

— Грамадзянін, язык распускаць нельга, — строга сказаў міліцыянер. — Не дазволена. Ну што ж, давядзецца скласці пратакол.

— Пратакол, пратакол!.. Усё пужаеце сваімі пратаколамі. А я не баюся, — голас у інваліда сарваўся. — Не баюся, і ўсё тут. Бяры мяне, бяры! Ну, чаго стаіш? Бяры!

Ён рвануў каўнер кашулі, расхрыстаў яе на грудзях.

— Нап'юцца, як свіння, і людзей шчэ абражаюць, — зноў выбрыкнуўся мужчына ў капелюшы. — Цацкацца з такімі не трэба.

— Ты зноў, падла?

Бязногі абярнуўся да сцяны, правай рукой схапіў мыліцу, замахнуўся на яго. І, пэўна, тыцнуў бы таму ў твар, каб не міліцыянер. Ён перахапіў мыліцу, спрытна вывернуў яе і зноў прыставіў да сцяны.

— Ах ты, дурань. Вось забяру ў аддзяленне, штраф дадуць. А плаціць жа трэба з пенсіі. Эх ты, садовая галава твая. Навошта ты было піць; прынёс бы дадому, а там пі на здароўе. А тут, без закускі... Толькі народ смяшыш. Эх, ты...

Відаць, маладому міліцыянеру шкада стала бязногага, якога так цяжка пакалечыла. Ён разгублена глядзеў на мыліцы, на дзеравяшку, на пустую штаніну, падвязаную вяроўчынай, маўчаў. А інваліда крышку астудзілі сур'ёзны тон міліцыянера, напамінак аб аддзяленні, штрафе. Ён слухаў, апусціўшы галаву, потым непаслухмянымі, дрыжачымі пальцамі пачаў зашпільваць кашулю і яму было цяжка рабіць гэтую нескладаную работу. Неяк зашпіліў два гузікі, узяў з лаўкі скамечаную кепку, накінуў на галаву.

— Ты, гэта самае, прабач. Ну выпіў трохі, — загаварыў ён да міліцыянера. — Прабач, браток. Вось, прыехаў у горад, ногі новыя заказаў, трохі падлячыўся тут. На радасцях... ну сам разумееш. Ну, дадому не давёз. Ведаеш, пасля гэтых бальніц... А так не п'ю. Не. Калісьці піў, а цяпер — не. Па святах толькі. Так што, браток, прабач... Поезд прыйдзе, паеду. Вось...

Ён павярнуў галаву, нібы шукаючы некага ў натоўпе, што густа гуў на пероне; паглядзеў у адзін бок, у другі — і ледзь-ледзь прыкметна ўздыхнуў. Міліцыянер стаяў побач, чакаючы, калі прыйдзе поезд...

Аднекуль збоку, з натоўпу, вышмыгнула хударлявая жанчынка, за ёю спяшала дзяўчынка гадоў трынаццаці-чатырнаццаці. Кабета паставіла на лаўку поўны кошык з хлебам, ражком хусцінкі змахнула з твару пот, заклапочана, з трывогай паглядзела на хлопца, перавяла позірк на міліцыянера, потым на мужчыну ў капелюшы, які яшчэ не астыў ад сваркі, стаяў насуплены, сярдзіты; потым азірнулася, убачыла хлопца і дзяўчат. Зноў павярнулася да бязногага:

— Ну што ж ты, Сцяпанка, буяніш? Ета ж вочарадзь у магазіне такую выстаяла. Усе на поезд спяшаюць, купляюць. Трэба ў горадзе браць хлеб, там без вочарадзі. Але ж узяла, а то дома ўвесь выйшаў. Свежанькі, мяккі..

Сказала гэтак, трывожна-мітуслíва агледзелася вакол і зноў да інваліда, які ўжо сядзеў ціха, з вінаватым выразам на твары:

— Зашпіліся, а то вецер свяжэ к вечару. Хутка паедзем, Волька і білеты ўзяла ўжо. Пакажы, хаця б не згубіла.

Дзяўчынка пакорпалася ў кішэні, выцягнула тры білеты.

— Вось і добра. Трымай. Слава богу, ужо даедзем, ужо недалёка да поезда.

— Мамаша, гэта ваш сваяк ці хто? — спытаў міліцыянер. — Парадак парушае, п'е, лаецца.

Яна пужліва павярнулася на голас, знізу ўверх трывожна зіркнула на міліцыянера — маленькая, худая, спалоханая. Угледзела, што звяртаецца чалавек у форме, загаварыла хутка, як бы баючыся, што ёй не дадуць усё сказаць да канца:

— Мой ета ж. Сын мой. Лячыўся тут, вот цяперака едзем дадому, у вёску. З бальніцы сёння выпісалі, адзежу прывезла...

— Глядзіце, каб усё было ціха, — строгім голасам сказаў міліцыянер.

— Лечыцца? Нап'ецца, потым лечыцца, — буркнуў мужчына ў капелюшы. — Ведаем такіх.

Жанчына павярнулася да яго, сказала гучна, як бы звяртаючыся да ўсіх, хто стаяў тут паблізу, каб пачулі ўсе, што сын не п'яніца, што ён гэтакі ж чалавек, як і ўсе:

— У Афганістане яго параніла, у машыне гарэў. Год ляжаў у бальніцах. Але ж ці вылечышся пасля етакіх ран. Вось і стаў нервяным. Ён быў вадзіцелем. І паперы ўсе ёсцека: і што ваяваў, і што параніла...

Яна азірнулася навокал — ці слухаюць яе, ці хаця б пачулі яе словы. І ўжо асмялеўшы, гэтак жа гучна паведаміла:

— Слава богу, пенсію плацяць, але ж ці пражывеш на яе. Раны адкрываюцца часта. Вот і мучыцца, па бальніцах ездзіць.

Дзяўчаткі, якія лузгалі семкі, ураз прыціхлі, слухалі, што гаварыла жанчына. Старая, што частавала батонам, змахнула слязу. Мужчына ў чорным капелюшы пашыўся далей, у натоўп, схаваўся за спіны людзей.

Сцяпан ціха сядзеў, вінавата слухаў, што гаварыла маці. Здаецца, і п'янка ягоная прайшла, і цяпер ён аціхлы, спакойны, вялы. Нечакана ціха сказаў:

— Усё ўжо, маць, сказала. Садзіся. Не трэба так... Хто пойме, хто не... Каму гэта цяпер трэба?

Яна паслухалася яго, ціха прысела на лаўку, уздыхнула, твар яе стаў будзённым і стомленым. Пасядзела трохі, паправіла кошык з хлебам, сказала:

— Разумею, сынок. Усё людзі разумеюць...

Непрыкметна адышоўся ад іх міліцыянер, прыціхлі дзяўчаткі са сваімі кавалерамі.

За пуцямі пыхкаў паравы кран, ляскатаў манеўровы цеплавозік, вішчаў тармазамі, лязгаў жалезам.

На лаўцы, ля чырвонай цаглянай сцяны, абвітай дзікім вінаградам, сядзелі двое — маці і сын. Ён ціха пагойдваўся, глядзеў прама перад сабою, і ў вачах яго стаяў боль; яна, сашчапіўшы худыя, усе ў жылах, рукі, схіліўшыся, нешта сваё думала. Побач, ля сцяны, стаялі мыліцы...

Падышоў поезд. Натоўп хлынуў да вагонаў, збіўся ля адчыненых дзвярэй.

Яны ішлі да вагона ўтраіх — ён пасярод на сваіх скрыпучых мыліцах, маці і дзяўчынка — побач. Яны падтрымлівалі яго за локці. Ля вагона людзі расступіліся, і ён нязграбна, стукаючы мыліцамі аб падножку, аб поручні, чапляючыся за прыступкі дзеравяшкай, палез у тамбур...

Поезд пайшоў. Пусты перон, адзінокая лаўка ля чырвонай станцыйнай сцяны. Вецер нёс, круціў па пероне адзінокія брудна-жоўтыя лісты ды шматкі газет.





## Канцэрт ў Чырвоным касцёле

Адбыўся дабрачынны канцэрт, прысвечаны 90-годдзю з дня адкрыцця ў Мінску касцёла св. Сымона і Алены. Знамянальная для горада падзея не засталася незаўважанай.

Зала Чырвонага касцёла была амаль поўная. Сталічную публіку, відаць, прывабіла выступленне незвычайнага творчага альянсу. Вядомы сімфанічны аркестр "Мінск" іграў пад кіраўніцтвам амерыканскага дырыжора Карэн Міксан-Лэйн (яна ўжо знаёмая нашаму слухачу). У праграму канцэрта была ўключана класіка: П. Чайкоўскі, Г. Берліёз, С. Барбер.

Падчас гучання трапяткога Адажыо для струнных С. Барбера ўсе праблемы і штодзённыя клопаты забываліся самі сабой. Хацелася проста слухаць, слухаць... Кароткую ідылію перапынілі воклічы медзі — пачатак 4-й сімфоніі Чайкоўскага, твор, насычаны яркімі драматычнымі эпізодамі і найтанчэйшай лірыкай. Назваць гэта проста музыкай?.. Хутчэй, гэта была паэзія пачуццяў, перададзеная гукамі.

Слухачы пакідалі касцёл, аб'яднаныя глыбокай удзячнасцю Чырвонаму касцёлу, які згуртаваў усіх нас агульным "гарэннем" да музыкі.

Наталля ЛАТУШКА

## Новая галерэя пачалася з Брэмена



Ці існавалі на самай справе вядомыя нам усім з дзіцячых мульцікаў брэменскія музыкі? У Брэмене кажуць, што на самай справе — не. Але тым не менш гэтая прыгожая казка знайшла ўвасабленне ў помніку легендарнай чацвёрцы. А увогуле — Брэмен лічыцца ў Германіі горадам музыкаў. Ледзь ні штодня на вуліцах гучыць музыка, а на шматлікіх музычных пляцоўках, уваход куды бясплатны, граюць музычныя гурты. А дабрачынныя нямецкія бабулькі ідуць туды, каб паслухаць і абмеркаваць не бытавыя дробязі, а спецыфіку нямецкай музыкі.

Менавіта такім пабачыў Брэмен мінскі мастак Дзяніс Сінюгін. Вярнуўшыся з летняга падарожжа, наладжанага з дапамогай Нямецкага культурнага цэнтра імя Гётэ, ён стварыў цікавую фатаграфічную серыю і сідзі-ром, прысвечаны гораду. На ім — зусім не натурныя краявіды. Мастак пабачыў Брэмен праз старыя дахі, цемру завулкаў, веласіпеды ля брукаваных дарог, шматлікія мастацкія перформансы, якімі насычаны гэтыя месцы. Як адзначыў мастак, прафесар Мюнстэрскай акадэміі мастацтваў Уда Шэль, па фатаработах Дзяніса адразу адчуеш дух гэтага горада, яго спецыфіку і жывое сённяшняе існаванне.

А выстава работ маладога, але ўжо вядомага ў Мінску мастака, адкрылася ў новай галерэі, якая спрэзентавана ў памяшканні Нямецкага культурнага цэнтра імя Гётэ. Галерэя невялікая, размешчана ў доўгім калідоры, але яна цалкам падыходзіць да малафарматных работ. Спадарыня Хайке Э. Мюлер, дырэктар цэнтра, спадзяецца, што тут будзе магчымасць выставіцца ўсім мастакам, што з'яўляюцца сябрамі Нямецкага культурнага цэнтра і цікавяцца жыццём сённяшняй Германіі.

Н. Ш.

## Шырмаўскія чытанні

5 снежня ў малой зале філфака Беларускага дзяржаўнага універсітэта прайшлі першыя міжвузаўскія Шырмаўскія чытанні, у якіх удзельнічалі навукоўцы — Арсен Ліс, Васіль Ліцьвінка, Ірына Казакова, Анатоль Літвіновіч, выкладчык Алена Шырына, студэнты Белдзяржуніверсітэта і Белдзяржуніверсітэта культуры.

У дакладах выступоўцаў асаблівая ўвага надавалася асобе збіральніка беларускай песні Рыгору Шырме, стану фалькларыстычных даследаванняў, спецыфіцы беларускай народнай песні, даследаванню элементаў традыцыйнай культуры Беларусі.

Шырмаўскія чытанні закончыліся справаздачным канцэртам фальклорнага калектыву БДУ "Тутэйшая шляхта", кіраўніком якога з'яўляецца Лявон Махнач, а ўдзельнікі ансамбля — гэта супрацоўнікі ды студэнты БДУ.

Арганізавалі Шырмаўскія чытанні навукова-даследчая лабараторыя беларускага фальклору сумесна з кафедрай беларусазнаўства, а таксама кафедра тэорыі і літаратуры БДУ.

Ларыса ІЎЛІЕВА

ЗГАДКІ

# Неўміручая песня

***Ёсць не проста адметныя песні або, як цяпер гавораць у эстрадным асяроддзі, "шлягерныя хіты", а ўсенародна любімыя песенныя творы, якія трывала ўвайшлі ў штодзённы побыт людзей, зрабіліся спадарожнікамі нашага жыцця. Да такіх твораў у Беларусі належыць шырокавядомая "Песня пра Нёман" Нестара Сакалоўскага, напісаная на вершы Анатоля Астрэйкі яшчэ ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны.***

Гэтую песню я ўпершыню пачуў у пачатку 50-х гадоў, калі вучыўся на вакальным факультэце Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Аднойчы ў яе невялікай зале на плошчы Свабоды, дзе звычайна выступалі студэнты са сваімі справаздачнымі праграмамі, адбыўся канцэрт папулярнага тады саліста нашай оперы, а пазней народнага артыста Беларусі Мікалая Ворвулева. Ён тады працу ў тэатры сумяшчаў з прафесійнай вучобай, якую перапыніла вайна, і рыхтаваўся да абароны кансерваторскага дыплома.

Не магу забыць, з якім натхненнем, па-майстэрску выконваў М. Ворвулеў розныя па тэхнічнай складанасці арыі з класічных опер, рамансы. А пры канцы сольнай праграмы з нейкім асаблівым душэўным парываннем раптам заспяваў:

*Ой, Нёман, ой, бацька мой Нёман,*
*Як сонца, як дзень дарагі!*
*Касцямі звяругаў шалёных*
*Усланы твае берагі.*

Так паўстагоддзя таму адбылася прэм'ера новай беларускай песні, якую дагэтуль ніхто не ведаў і не чуў у Мінску. Яна адразу ўрэзалася ў памяць і падкарыла сэрцы слухачоў музычнай самабытнасцю, пявучасцю і глыбокім эмацыянальным настроем.

Лёс "Песні пра Нёман" даволі цікавы, варты таго, каб пра яго ведалі нашы чытачы. Хрэстаматыйная сёння, не адразу знайшла яна дастойных выканаўцаў і не адразу прабіла сабе дарогу на вялікую эстраду.

Не сакрэт, што першаасновай кожнага вакальнага твора — арыгінальны вершаваны тэкст. На думку слыннага паэта-песенніка Міхаіла Ісакоўскага, "музыка — гэта нібыта душа песні, яе крылы, на якіх яна ляціць". І тут надзвычай важна, якой якасці слоўны матэрыял нясуць гэтыя крылы, бо людзі "успрымаюць кожную песню не толькі як твор музычны, але і як паэтычны".

Верш "Нёман" А. Астрэйка напісаў у 1941 годзе, калі ў складзе дзеючай арміі змагаўся супраць фашысцкіх захопнікаў на Болхаўскім участку Цэнтральнага фронту. Паэтычныя астрэйкаўскія радкі адлюстроўвалі нясцерпны боль і глыбокую крыўду аўтара за пакуты роднай зямлі ад "чужынцаў нязваных" і разам з тым усялялі ўпэўненасць у немінучай перамозе над ворагам.

З успамінаў самога паэта вядома, што праз нейкі час яго выклікалі з фронту ў Маскву і прызначылі адказным сакратаром сатырычнай газеты-плаката "Раздавім фашысцкую гадзіну". Па заданні рэдакцыі і Беларускага штаба партызанскага руху А. Астрэйка шмат разоў накіроўваўся ў варожы тыл за лінію фронту, каб наладзіць выпуск і распаўсюджванне падпольных газет, лістовак. Адначасова ён не спыняў сваёй паэтычнай творчасці, шмат пісаў вершаў на партызанскія тэмы. Слуцкая падпольная газета выдала нават зборнік ягоных вершаў пад назвай "Слуцкі пояс", які карыстаўся значнай папулярнасцю сярод беларускіх партызан.

Вярнуўшыся неяк з чарговай "камандзіроўкі" ў Віцебскую партызанскую зону, паэт нечакана сустрэў у гасцініцы "Масква" Н. Сакалоўскага, якога добра ведаў з даваенных пары як аўтара цікавых харавых апрацовак беларускага фальклору, шэрагу ўласных арыгінальных твораў і аднаго з ініцыятыўных стваральнікаў Дзяржаўнага ансамбля беларускай народнай песні і танца. Узрадаваны такой нечаданай сустрэчай, кампазітар сказаў, што яго дэмабілізавалі з арміі і зацвердзілі на пасадзе мастацкага кіраўніка новага музычна-танцавальнага калектыву.

**— Можа, зойдзем, Нестар Фёдаравіч, да мяне ў гасцінічны нумар: я пазнаёмлю са сваімі ваеннымі творамі? — прапанаваў А. Астрэйка земляку-музыканту.**

Сакалоўскі з задавальненнем згадзіўся. Праслуханы ім сярод іншых твораў верш "Нёман" настолькі ўсхваляваў, крануў за жывое, што ён пачаў тут жа міжволі напяваць першыя такты мелодыі. Перад тым, як развітацца, хутка перапісаў у блакнот вершаваны тэкст, бо ўжо меў цвёрды намер пакласці яго на музыку.

Неўзабаве кампазітар і паэт зноў сустрэліся. Гэтым разам у нумары, дзе стаяла фартэпіяна, каб паслухаць і абмеркаваць гатовую песню за музычным інструментам. Яна была куплетнай формы, задуменна-засяроджаная і адначасова мужная, якая гучала "на фоне фартэпіянных акордаў шырока і паволна ў духу велічных дум, эпічных сказаў". Узрушаны А. Астрэйка і прысутны на той сустрэчы вядомы тэатральны рэжысёр К. Саннікаў выказвалі кампазітару сваё захапленне ад глыбокага раскрыцця паэтычных вобразаў сродкамі музыкі, шчыра дзякавалі і віншавалі яго.

Н. Сакалоўскі і сам быў задаволены: удала падабраная мелодыя цалкам адпавядала вобразнаму зместу і настрою тэксту. Нехта параіў кампазітару паслаць "Песню пра Нёман" на Усесаюзны конкурс на лепшую песню аб Радзіме. Аднак яго твор, на які ўскладаліся вялікія надзеі, конкурснаму журы не спадабаўся.

Рэч у тым, што ў дні вайны песні пісаліся ў асноўным бадзёрыя, маршавыя, прасякнутыя гераічным пафасам. У "Нёмане" ж хаця і чуваць урачыста-велічныя інтанацыі, пераважалі задушэўнасць, "пластыка сялянскай лірыкі", адметная меладычнасць. А больш за ўсё чальцоў журы, відаць, напалохала тое, што ў тэксце ўслаўляўся бацька Нёман як увасабленне Айчыны, а не "вялікі правадыр народаў", чыё імя тады скланялася на ўсялякія лады ледзь не ў кожнай песні.

Стаіўшы ў душы крыўду на маскоўскае журы, Н. Сакалоўскі схаваў ноты сваёй песні ў стол і да канца вайны нікому з выканаўцаў не паказваў. Ён прынцыпова адмовіўся ўключыць гэты твор нават у рэпертуар Палескага ансамбля песні і танца, створанага ім у Мазыры за некалькі месяцаў да Перамогі. З цягам часу ў яго з'явілася сумненне: мо і сапраўды тое, што напісаў, не вартае слухацкай аўдыторыі?

Цяжка сказаць, як склаўся б далейшы лёс "Песні пра Нёман", калі б не шчаслівы выпадак. Неяк адразу пасля вайны да Сакалоўскага звярнуўся кіраўнік хору калгаса імя Леніна Хойніцкага раёна з настойлівай просьбай — дапамагчы новым беларускім рэпертуарам. У той час якраз пачалася падрыхтоўка да першых пасляваенных аглядаў мастацкай самадзейнасці. Сакалоўскі прапанаваў яму шэраг сваіх апрацовак традыцыйнага і сучаснага фальклору. Сельскі хормайстар шчыра падзякаваў і раптам сказаў:

**— А мы чулі, Нестар Фёдаравіч, што ў вас ёсць "Песня пра Нёман", якая нікoлі не гучала ў канцэртах. Можа, дазволіце ўключыць яе ў нашу праграму?**

Кампазітар доўга вагаўся, перш чым згадзіўся перадаць ноты артыстам-аматарам. Ён даўно страціў надзею калі-небудзь пачуць сваю любімую песню ў жывым гучанні са сцэны. І раптам — о, цуд! — песня Сакалоўскага, выкананая калгасным хорам, была на "ўра" сустрэта падчас абласнога і рэспубліканскага аглядаў мастацкай самадзейнасці.

А потым яна трапіла ў надзейныя рукі М. Ворвулева, які зрабіў твор Н. Сакалоўскага і А. Астрэйкі каронным нумарам сваіх канцэртных

ГОСЦІ

# "Мінск дае адчуванне надзейнасці..."

***У Дзяржаўным музычным тэатры Беларусі адбыўся творчы вечар Аляксандра Журбіна — аднаго з самых вядомых расійскіх кампазітараў, які ўжо 10 гадоў жыве ў ЗША. У той вечар на сцэне панаваў своеасаблівы дуэт: кампазітар і раяль. Як напамін пра цудадзейную сілу мастацтва гучалі ўрыўкі з рок-оперы "Арфей і Эўрыдыка"; напоўненыя сакавітым адэскім гумарам, ліліся ў залу гукі "Біндзюжніка і караля"; вядомыя песні ахутвалі воблакам летуценнасці; а мелодыі з кінафільмаў нараджалі ўспаміны. Аляксандр Журбін прадставіў на канцэрце і ўрывак са сваёй "Вясёлай сімфоніі", у час гучання якой дырыжыраваў уяўным аркестрам. Публіка паслухала некаторыя творы з CD "Аўтапартрэт", які выйшаў зусім нядаўна. А яшчэ маэстра адказваў на пытанні з залы і расказваў розныя цікавыя гісторыі са свайго творчага жыцця.***

***З А. Журбіным, чые творы, дарэчы, ставіліся і на мінскай сцэне, пагутарыў няштатны карэспандэнт "ЛіМа".***

**— Аляксандр Барысавіч, каму як не вам лепш ведаць, чым адрозніваюцца амерыканскія тэатры ад тэатраў краін былога СССР...**

— Сапраўды, на гэтую тэму можна пісаць дысертацыю... Увогуле ж, амерыканскі тэатр працуе паводле зусім іншага прынцыпу. У ЗША практычна няма таго, што мы называем "рэпертуарным тэатрам". Там адны і тыя ж артысты іграюць адзін спектакль — пакуль на яго ходзіць публіка. Потым набіраецца трупа для новай пастаноўкі. Увогуле, паняцця "трупа" таксама няма, амерыканскія акцёры пастаянна ў тэатры не працуюць. Яны з'яўляюцца членамі прафсаюза і могуць іграць толькі пэўную колькасць дзён у год. Толькі некаторыя найбольш вядомыя артысты іграюць гадамі. Кожны амерыканскі акцёр ведае, што павінен заўсёды быць у форме. А інакш яму давядзецца мяняць прафесію.

**— Раскажыце пра вашу працу ў Амерыцы.**

— Я адношуся да катэгорыі "вольных мастакоў". Нідзе ніколі не служыў. Але працую заўсёды вельмі многа. Я сам сабе галава. У мяне ёсць некалькі кампаній: музычная, тэатральная, "кіношная". Я раблю гіганцкі кінафестываль і вельмі ганаруся гэтым праектам: праводжу ў Нью-Йорку фестываль расійскіх фільмаў. У мяне ёсць тэатр, які існуе з 1992 года. Назва — "Руска-Амерыканскі Музычны Тэатр "Блукаючыя зоркі". На яго сцэне ішло 9 спектакляў, у тым ліку "Малдаванка, Малдаванка", "Пенелопа", "Шалом, Амерыка!", "Танга ў верасні" і іншыя. Але, каб зацікавіць амерыканцаў, трэба іграць на англійскай мове. Таму я хачу паставіць менавіта такі спектакль.

**— Як вы падбіраеце літаратурныя крыніцы для сваіх твораў?**

— Гэта добрае пытанне, але на яго вельмі складана адказаць. Крыніцы — самыя розныя, ад старажытнагрэчаскіх міфаў (напрыклад, "Арфей і Эўрыдыка") да класічнай літаратуры (Т. Ман, Ю. Трыфанаў, М. Цвятаева, Ф. Дастаеўскі і інш.). Я выкарыстоўваю велізарны літаратурны дыяпазон (у тым ліку і творы сучасных аўтараў). Калі кампазітар чытае розныя творы — артыкул у газеце, п'есу, аповесць, верш і г.д., — у яго заўсёды падсвядома пульсуе думка: а раптам з гэтага можна зрабіць мюзікл, вадэвіль, песню... Калісьці я пісаў многа песень. Быў час — працаваў толькі для музычнага тэатра. Як ні дзіўна, зараз у мяне іншы перыяд. Мне вельмі хочацца пісаць сур'ёзную сімфанічную музыку. Некаторыя слухачы нават не ведаюць, што я гэта ўмею рабіць. Цяпер заканчваю канцэрт для скрыпкі з аркестрам, над якім даўно працую. Гэта будзе вялікі, сур'ёзны твор. Тым не менш, маё галоўнае "фортэ" (як кажуць амерыканцы) — сіла — у навыку сумяшчаць драматычныя сюжэты з музыкай. І гэта вельмі люблю.



**— Ці самакрытычны вы чалавек?**

— Канешне, самакрытычны. Кожны аўтар, на самай справе, цудоўна ведае цану свайму твору: што атрымалася, а што — не. Я на гэтую тэму даволі многа разважаў. Нека-

выступленняў у Беларусі і на прасторах былога Саюза. Менавіта дзякуючы выканальніцкаму таленту выдатнага опернага спевака гэтая глыбока народная, з чыста нацыянальнымі інтанацыямі і ладавымі асаблівасцямі песня атрымала ўсесаюзны рэзананс.

Вось што піша ў сваёй кнізе белетрыстычных нарысаў "Жыццё ў мастацтве" пісьменнік і чытальнік Аляксей Слесарэнка: "Выконвалі яе ("Нёман". — **Г. З.**) многія і на розныя лады, але, бадай, ніхто так велічна і задушэўна, як Мікалай Ворвулеў. Ён ведаў гэта і не баяўся канкурэнтаў. Быў упэўнены, што не надакучыць тым самым слухачам".

Вялікі поспех мела "Песня пра Нёман" падчас другой Дэкады беларускага мастацтва і літаратуры, якая праходзіла ў лютым 1955 г. у Маскве. На вечары майстроў мастацтваў БССР у зале імя Чайкоўскага М. Ворвулеў адкрываў гэтай песняй другое аддзяленне канцэрта. Паводле згадак А. Слесарэнкі, "масквічы пачулі тады "Нёман", напэўна, упершыню". Яны рэагавалі дружнымі воплескамі. З усіх канцоў залы чуліся воклічы "брава!" і просьба паўтарыць песню. З-за гэтага ледзь не затрымаўся працяг святочнай праграмы.

Не меней цікавую гісторыю, звязаную з першым выканаўцам "Нёмана", прыгадаў пры сустрэчы са мной былы галоўны хормайстар Дзяржаўнага народнага хору Беларусі Анатоль Бальцэвіч:

**— Аднойчы наш калектыў гастраляваў па Украіне. Выступалі з канцэртам у Кіеве, на сцэне сталічнай філармоніі. Не паспела вядучая праграмы да канца аб'явіць: "Выконваецца "Песня пра Нёман, саліст...", як з пярэдніх радоў залы раптам пачуўся знаёмы голас: "Саліст Мікалай Ворвулеў!" Ён тады працаваў ужо ў Кіеўскай оперы і, даведаўшыся пра канцэрт беларускіх артыстаў, прыйшоў іх паслухаць. Калі ж аб'явілі яго любімы твор, шпарка падняўся на сцэну і цудоўна выканаў у суправаджэнні народнага хору сваю сольную партыю. У зале доўга не сціхалі апладысменты слухачоў.**

Шкада, што Н. Сакалоўскі не дачакаўся ўсенароднага прызнання адной з лепшых сваіх песень. Ён заўчасна памёр у лістападзе 1950 года, за два гады да асабістага "залатога" юбілею. Не давялося яму быць сведкам і яшчэ адной падзеі — калі яго песня "Мы — беларусы" на словы Міхася Клімковіча зрабілася ў 1955 годзе Дзяржаўным гімнам Беларускай ССР.

Пахаваны наш выдатны кампазітар у Мінску, на Вайсковых (Даўгабродскіх) могілках, недалёка ад цэнтральнай алеі. На месцы, дзе ён спачывае, стаіць скульптура-помнік у выглядзе барадатага бацькі-Нёмана, вобраз якога натхніў А. Астрэйку і Н. Сакалоўскага на стварэнне цудоўнай мілагучнай песні, што стала здабыткам мільёнаў слухачоў і ўвайшла ў залаты фонд нацыянальнай музычнай культуры беларускага народа.

**Георгій ЗАГАРОДНІ**

ДАТЫ

# Музычны сімвал Беларусі

"Завяршаецца XX стагоддзе і II тысячагоддзе ад Нараджэння Хрыстова, што само па сабе заклікае кожнага з нас да справаздачы (і найперш — перад уласным сумленнем) за здзейсненае, аглядаючы пройдзены шлях. Са знакавай падзеяй у гісторыі чалавецтва супаў знамянальны для нашага мастацкага жыцця юбілей: 70-годдзе з дня заснавання Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра Беларусі. Юбілей — таксама нагода для асэнсавання вынікаў дзейнасці, для рэтраспектыўнага погляду на гісторыю калектыву, аналізу яго дасягненняў і пралікаў. А галоўнае — для вызначэння далейшага шляху. Аркестр імя І. Жыновіча, які ведаюць, любяць, цэняць і далёка за межамі нашай краіны, увасабляе сёння лепшыя традыцыі народна-інструментальнага мастацтва Беларусі, праз эталоннае гучанне выказвае дух свайго народа, яго эстэтыку..."

Так пачынаецца артыкул, які прапанаваў рэдакцыі "ЛіМа" заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі прафесар Міхась Солапаў. Яго грунтоўны, кшталту навукова-папулярнай брашуры, рукапіс мы даводзім да фармату газетнага нарыса і з часам апублікуем. А сёння, у дзень, калі шаноўныя і знакамітыя жыновічаўцы святкуюць свой юбілей і разам з прыхільнікамі беларускай народна-інструментальнай творчасці ды сябрамі ладкуюць музычную імпрэзу ў Вялікай зале сталічнай філармоніі, мы прапануем чытачам угледзецца ў гэтыя, ужо гістарычныя, здымкі. Іх знайшоў у сваім хатнім архіве Міхась Рыгоравіч Солапаў.







*На здымках: Яны былі першымі: на калектыўным здымку музыкантаў — вядомыя ў свой час твары К. СУШКЕВІЧА, В. САМСОНАВА, Б. СПЕКТАРА, І. ГЕРМАНА, Л. АЛЕКСАНДРОЎСКАЙ, М. ПЛАШЧЫНСКАГА, Я. ФРЫДМАНА, І. ЛІПНІЦКАГА, І. ЖЫНОВІЧА, М. ШЧЭРБЫ; пачынальнік аркестра, музыкант-віртуоз, педагог, народны артыст СССР Іосіф ЖЫНОВІЧ; у маладыя гады прыняў дырыжорскую эстафету ад самога І. Жыновіча Міхал КАЗІНЕЦ — цяпер таксама прафесар, народны артыст Беларусі, мастацкі кіраўнік калектыву.*

---

торыя аўтары любяць рабіць другія рэдакцыі ваіх твораў. А вось Шастаковіч (я ў яго вучыўся нейкі час) неяк на маё пытанне, ці падправіць твор, адказаў: "Выправіце ў наступным". Увогуле, я веру ў нейкую боскую сутнасць творчасці. Я лічу, што нейкая боская істота, дух праз мяне нешта выказвае. Я веру, што як твор напісаны, так і павінна быць. Калі нешта не вельмі добра атрымалася: другім разам будзе добра. Я ў гэтым сэнсе фаталіст.

**— Якія творы для вас самыя дарагія?**

— "Арфей і Эўрыдыка" — любімы твор, таму што ён прынёс першы сапраўдны поспех, першую славу... Пасля я напісаў рок-оперу "Разбітае люстэрка", яна не мела ні славы, ні поспеху, але гэты твор мне вельмі дарагі. Важна, што ён будзе пастаўлены ў Мінску, у Музычным тэатры. Я лічу "Разбітае люстэрка" адным з самых моцных маіх твораў. З нецярплівасцю чакаю мінскай прэм'еры і спадзяюся, што з вашага горада пачнецца пераможнае шэсце гэтай рок-оперы. Мінск заўсёды быў чулым, калісьці ён з вялікім энтузіязмам прыняў "Арфея і Эўрыдыку", і з гэтага пачаўся мой поспех. Дарэчы, я быў тут гадоў 10 таму. І ў мяне складваецца ўражанне, што тут нічога не змянілася. Мала таго, Мінск нагадвае мне нейкі запаведнік, музей. Масква за гэты час зрабілася зусім іншай, а Мінск застаецца такім жа, як і быў, што, можа, і добра. Гэта дае адчуванне надзейнасці, адчуванне, што тут усё добра. Такія ж цудоўныя чыстыя вуліцы, па якіх ходзяць прыгожыя дзяўчаты. У магазінах ёсць тавары, хацяж, можа, мінчане і не могуць іх купіць — я не ведаю. Але для мяне важна, што ўсё ёсць. Значыць, жыццё працягваецца.

*Маэстра Журбін кажа, што не пакідаў сваёй Радзімы, а проста ад'ехаў у іншую краіну працаваць, што душа яго заўсёды з Расіяй, тым больш, што ён вельмі часта там бывае. А беларускім гледачам кампазітар "прызначае спатканне" на прэм'еры "Разбітага люстэрка" ў Мінску. Пачакаем?*

**Гутарыла**
**Вольга НАВАЖЫЛАВА**

*На здымку: А. ЖУРБІН за кулісамі Дзяржаўнага музычнага тэатра Беларусі.*
*Фота аўтара*

---

ІМПРЭЗЫ

# Вечарына-маналог

Усё адбывалася нібыта ў віртуальным свеце. Сярэдзіна снежня — а надвячорак цёплы ды ціхі, як напрадвесні, а ў паветры — дзіўны дух запозненай восені. Гадзіна "пік" — а ў некалькіх кроках ад скрыжавання тлумных сталічных вуліц маўчаць бязлюдныя прыцемкі ля халоднага люстра соннай ракі. З паўсотні зусім розных людзей, чыннікаў, удзельнікаў, гасцей імпрэзы, юных і "маладых душой", захопленых і нігілістычных, абаяльных і адыёзных, самых блізкіх і між сабой не знаёмых, — а сабраліся разам.

Сабраліся дзеля адной творчай асобы, кампазітара Аляксандра Літвіноўскага, чыя аўтарская вечарына распачала новы цыкл сустрэч з творцамі ў Гасцёўні У. Галубка, наладжаны Беларускай акадэміяй музыкі.

Пошукі, звязаныя з авангарднай стылістыкай XX стагоддзя, стагоддзя знерванага, устрывожанага наступствамі навукова-тэхнічнага прагрэсу, узрушанага інфармацыйным выбухам, — гэтыя пошукі адлюстраваліся праз аўтарскія выказванні ў опусах, якія падрыхтавалі да вечарыны маладыя выканаўцы.



Аляксандр Музыкантаў, пераможца сёлетняга Міжнароднага конкурсу піяністаў "Мінск-2000", іграў фартэпіянны дыпціх А. Літвіноўскага "Перпетуум мобіле і Пасакалля", дарэчы, адну з абавязковых п'ес у праграме гэтага конкурсу. Гітарыстам Паўлам Бельскім была прадстаўлена неабаро-кавая "intavolatura", вядомая ў бліскучай інтэрпрэтацыі яе першага выканаўцы і рэдактара, настаўніка П. Бельскага, — Я. Грыдзюшкі. Адбыліся дзве прэм'еры: "Filix" ды "Фарон".

"Filix" (лацінская назва папараці), напісаная ў серыйнай тэхніцы трохчасткавая п'еса, сваім філасофска-вобразным зместам звязана са старажытным купальскім рытуалам пошуку "кветкі шчасця". Прынамсі, у маім уяўленні яе стылістыка "музычнага стрэсу" выклікае змрочныя, трагічныя радкі вядомага Купалавага верша пра марнасць, безвыніковасць, згубнасць людскога памкнення па "заклятую кветку". Некалькі гадоў таму 1-я частка п'есы А. Літвіноўскага, напісанай, дарэчы, паводле замовы швейцарскіх музыкантаў, гучала ў выкананні флейтыста Бруна Маера ды гітарыста Хана Ёнкерса. На вечарыне "Filix" быў увасоблены цалкам, у гарманічным дуэце-дыялогу Вікторыі Дрыгінай (флейта) ды Яна Скрыгана (гітара).

Не раскрываючы падрабязна паходжанне назову п'есы для кларнета сола "Фарон", створанай леташняй восенню, скажу толькі, што гэтак завецца міфічная істота кшталту вадзяніка. Удзень Фарон дрэмле на дне возера, уначы выходзіць на паверхню, пачынае незлаcлiва сваволіць, часам палохаючы людзей. Гульню гукаў, нюансаў, штрыхоў, гэткі "дыялог у маналогу" імкнуўся стварыць голасам свайго кларнета Аляксей Яскельчык.

Вядучая вечарыны, студэнтка Беларускай акадэміі музыкі Святлана Нямцова, выклікала А. Літвіноўскага на размову перад аўдыторыяй. І кампазітар аказаўся галоўным "салістам" імпрэзы...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

## Што ні жанр — творчае дасягненне

ЭДУАРДУ СКОБЕЛЕВУ — 65



**Эдуард Марцінавіч нарадзіўся ў горадзе Мінску ў сям'і ваеннага інжынера-будаўніка. Пасля заканчэння ў 1959 годзе заходняга факультэта Маскоўскага інстытута міжнародных адносін знаходзіўся на дыпламатычнай службе, а з 1966-га працаваў у апараце ЦК КПБ. Цяпер — у Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У друку выступае з 1964 года. Зарэкамендаваў сябе як паэт, празаік, драматург, публіцыст, дзіцячы пісьменнік. Выдаў кнігі паэзіі "Дорога", "Капли дождя", "Вечерние тени", "Земные долги", "Мой дом", а вершаваныя драматычныя творы ўвайшлі ў зборнікі "Из тьмы светлеющие лики" і "Фигуры". З цікавасцю былі сустрэты чытачамі і крытыкай кнігі аповесцей "Чудо любви", "Выпускники", "Кристина", "Сегодня исповедь моя", раманы "Шаги за твоей стеной", "Маятники надежды", "Мирослав — князь дреговический", "Катастрофа", "Свидетель. Записки капитана Тимкова", "Беглец". Вялікай папулярнасцю карыстаецца кніга для дзяцей "Приключение Арбузика и Бебешки", адзначаная Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь. Па ёй пастаўлены тэлефільм "Пацаны купили остров". На творчым рахунку Э. Скобелева і іншыя кнігі, а гэта сведчыць аб тым, што працуе ён плённа і за які жанр ні возьмецца, дасягае мастакоўскага поспеху. А што гэта і на самай справе так, відаць і па афарызмах, якія з'явіліся ў друку апошнім часам.**

**З 65-годдзем, шаноўны Эдуард Марцінавіч! Новых вам жыццёвых і творчых поспехаў!**

## Памятаюць і ў Маскве

**Толькі што Беларусь адзначыла 70-я ўгодкі Уладзіміра Караткевіча. Не забыліся на яго і ў Маскве. 22 лістапада ў ЦДЛе адбылася вечарына. Пачалася яна з дакументальнага фільма пра Караткевіча. Затым выступілі Адам Мальдзіс, маскоўскі пісьменнік-беларус А. Кажадуб, танцавальны дуэт "Славянка" выканаў беларускі танец, маскоўскі спявак Уладзімір Цвярскі, як нам казалі, паходжаннем з Брэстчыны, праспяваў некалькі беларускіх песень і рускіх рамансаў, да слухачоў ён звяртаўся па-беларуску. Прыемна адзначыць, што ўся вечарына, за маленькім выняткам, прайшла на беларускай мове. Дарэчы, даведалася я пра вечарыну ад Валянціны Шчадрыной, блізкага сябра Караткевіча і перакладчыка ягоных твораў на рускую мову.**

**Валянціне Міканораўне паведамілі з Мінска, што 22-га лістапада ў ЦДЛ адбудзецца вечарына, прысвечаная Караткевічу і на якую прыедзе Мальдзіс. Яна патэлефанавала мне: ці ведаю хто ладзіць гэтую вечарыну. Я выказала меркаванне, што ладзіць, напэўна, ці сам ЦДЛ, ці, можа, Беларускае пасольства. Але Валянціна Міканораўна ўжо ведала, што гэта не ЦДЛаўская імпрэза. Калі б вечарыну Караткевіча раптам вырашылі правесці расійскія пісьменнікі, то абавязкова запрасілі б Шчадрыну, сябра сям'і і перакладчыка твораў. На вечарыну Валянціна Міканораўна пайшла, як некаторыя іншыя сябры Маскоўскага таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны, што таксама выпадкова даведаліся аб імпрэзе.**

**Слова мы там безумоўна не мелі — ні В. Шчадрына, ні А. Каўка, ні А. Улашчык — сын М. Улашчыка (літаратуразнаўцам не трэба тлумачыць, якую ролю адыграў М. Улашчык у жыцці Караткевіча), ні Ганначка Рыжкоўская, былая артыстка Беларускай філармоніі, якая ў студэнцкія гады таксама мела шчасце бачыць і чуць Караткевіча. Але будзем лічыць гэта першым блінам, які заўсёды камяком. Ужо тое добра, што ўся імпрэза трымалася на беларускай мове, за выняткам хлапчука-барда, сына абрусеўшага беларуса — ён спяваў "Пагоню" ў сваім уласным перакладзе на рускую мову.**

**Супрацоўніца пасольства вельмі няблага прачытала верш Караткевіча пра партызанскае каханне. Варта пажадаць плёну ў працы Беларускаму пасольству ў Маскве. Дай Бог, каб гэта беларуская і беларускамоўная імпрэза не сталася адзінай.**

**Таіса МІШЧАНКА**

*Масква*

"ЛіМ"-ФОТА



*Землякі...*

Іван Чыгрынаў і Анатоль Кудравец

*Фота А. КАЛЯДЫ*

# Места Высокае на Пульве

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)*

шафёраў, газаэлектразваршчыкаў, электраманцёраў, кухараў, швачак, жывёлаводаў, плодаагароднікаў. Раён наш чыста сельскагаспадарчы, людзі з усімі гэтымі спецыяльнасцямі патрэбны ўсюды, і не трэба ехаць у далёкія Ляхавічы, Пінск ці ажно ў Горкі, што і для дзяржавы, і для бацькоў нязручна і накладна. Гэта важна і з іншае прычыны. Прыезджага спецыяліста трэба забяспечыць жыллём, а сёння гэта нялёгка. Нашы ж, мясцовыя хлопцы і дзяўчаты сутыкаюцца з праблемай жылля не ў такой вострай ступені. Зрэшты, яны і будуюць сабе жыллё куды больш ахвотна і, скажам так, надзейна, з разуменнем таго, што асядаюць тут, дома, назаўсёды, што будуюць родавы дом, з разлікам на дзяцей і ўнукаў. Карацей кажучы, мы рыхтуем спецыялістаў для свайго рэгіёна. Моладзь, набыўшы рабочую прафесію, цяпер мае магчымасць здаць экзамен і перавесціся на другую ступень навучання — юнакі і дзяўчаты ўжо вучацца, так бы мовіць, у тэхнікуме. Магчымасці і абсягі адукацыі сталі шырэйшыя. Ёсць у нас, скажам, спецыяльнасць — гаспадыня сядзібы, для дзяўчат, натуральна. Яна ўключае веды і навыкі швачкі, кухара, жывёлавода, агародніка. У каледжы дзяўчаткі разам з гэтым набываюць і новую спецыяльнасць, якая мае назву — бухгалтарскі ўлік, аналіз і кантроль. Інакш кажучы, сярэднеспецыяльную адукацыю мы накладваем на прафесійную падрыхтоўку. Гэтыя новыя мажлівасці і гарызонты падрыхтоўкі спецыялістаў змянілі і кантынгент нашых навучэнцаў. Раней хто ішоў у СПТВ? Апошнія недарэкі, троечнікі ды хуліганы-двоечнікі. А сёлета 25 працэнтаў навучэнцаў прыйшлі з базавых школ, сярэдні бал атэстатаў быў ад 4,2 да 4,8, конкурс быў 2 чалавекі на месца. Аддаём перавагу дзецям вёскі — усё-такі спецыяльнасці ў нас аграпрамысловага комплексу, і хоць есці хочуць усе, аднак агуркі на асфальце не вырошчваюцца.

Пасля, калі мы гаварылі пра іншы аспект вучобы і выхавання навучэнцаў каледжа, Ю. Сахарчук распавёў:

— Часам пытаюцца ў мяне: якімі метадамі вы карыстаецеся? А я адказваю: няма ў мяне ніякіх метадаў. Былі б яны, было б надзвычай лёгка працаваць. Выкарыстоўвай і ўсё тут! Куды важней сістэма выхавання. Сістэму ж мы выпрацавалі. Для мяне і для ўсіх выкладчыкаў-педагогаў галоўнае — усведамленне таго, што кожны навучэнец — асоба. Да кожнага трэба знайсці свой ключык, свой падыход. Аднаму дастаткова спакойнага, ласкавага слова, да іншага трэба паставіцца строга, нават часам і жорстка, каб дайсці да душы, да розуму. А гэтых асоб у нас ажно 830. Паспрабуй, знайдзі ключык, прытым — каб нізавошта не абразіць, не прынізіць, не зняважыць як асобу. Па магчымасці далучаем іх да вытокаў культуры, гісторыі, найперш свайго краю, свайго кутка Бацькаўшчыны, змушаем іх задумвацца над тым, хто мы і што мы, што атрымалі ў спадчыну ад продкаў і што перададзім сваім нашчадкам. Аздоба гарадка — Крыжа-Уздвіжанская царква-прыгажуня, пабудаваная ў 1869 годзе, якую наведаў у 1888 годзе сам цар Аляксандр III з царыцай, пра што сведчыць мемарыяльная дошка на храме. Дык вось, настаяцель нашай царквы айцец Уладзімір вядзе ў каледжы факультатыўны курс "Гісторыі рэлігіі". Не для таго, каб зрабіць з навучэнцаў вернікаў праваслаўя, а — адукаваць іх, прасвятліць іх розум, дапамагчы разабрацца ў нялёгкіх пытаннях жыццябыту. Па аналогіі з перадачай БТ "Сёння з вамі" наладжваем у каледжы сустрэчы з цікавымі людзьмі — і з мясцовымі, і з гасцямі, у тым ліку славутасцямі. Літаральна на мінулым тыдні быў у нас спявак Уладзімір Ухцінскі, раней гасцяваў Ігар Лучанок разам са спеваком Іванам Краснадубскім — навучэнцы доўга іх не адпускалі, ніяк не хацелі развітвацца.

На развітанне Юрый Іванавіч сказаў:

— І "ЛіМ" ваш нам не чужы. Сродкаў на ўсё не хапае, у тым ліку на падпіску, таму, сярод іншага, і "ЛіМ" не змаглі выпісаць, аднак жа нашы выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры яго выпісваюць. У нас мова наша шануецца. Толькі што для кабінета беларускай мовы і літаратуры набылі камплект — тэлевізар "Самсунг" і відэамагнітафон, каб настаўнікі маглі выкарыстоўваць усё магчымае для паглыблення ведаў вучняў па роднай мове і літаратуры.

Прыемна, усцешна было ўсё гэта чуць і бачыць. Але й закрадвалася горкая думка: калі не палепшыцца сітуацыя з адносінамі да беларушчыны, дык ці доўга пратрымаецца Юрый Іванавіч разам са сваімі калегамі і калежанкамі, ці не выветрыцца і ў іхнім каледжы беларускі дух, як выветрыўся, прапаў ён шмат дзе?

Вядома ж, не магла я прайсці міма і роднай школы. У тым будынку, дзе я некалі вучылася, зараз вытворчы камбінат, а побач даўно ўжо вырас новы светлы корпус школы. Спаткалася з дырэктаркай Алай Пятроўнай Агаркавай. Яна таксама высокаўская. Мы ўспомнілі адна адну, яна вучылася на адзін клас ніжэй за мяне. Алу Агаркаву нельга было не ўспомніць: красуня, круглая выдатніца, пераможца ўсялякіх конкурсаў і алімпіяд, яна была заўсёды навідавоку, была гордасцю школы. Сёння яна — дырэктарка. Перш-наперш я запытала пра "ЛіМ". Ала Пятроўна адказала: "ЛіМ" выпісваем для школьнай бібліятэкі, а яшчэ два экземпляры, ведаю тое дакладна, выпісваюць, выпісалі на будучы год двое нашых настаўнікаў. — І дадала: — Трэба ж быць у курсе культурнага і літаратурнага жыцця".

А. Агаркава паказала мне школьны музей. Ён мяне надзвычай усхваляваў. І не таму, вядома ж, што ўбачыла там і сваю даўнюю, выцвілую, саматужную фотакартку. Школьны музей — гэта не толькі гісторыя школы, а гісторыя горада Высокага, гісторыя, лёсы людзей, якія вучыліся ў школе. Тут нямала каштоўных, старых, дарэвалюцыйных дакументаў (нават у арыгінале) і кніг, фотаздымкаў, рэчаў і прадметаў. Ёсць тут і копія першага дакумента, які тычыцца гісторыі Высокага, датаваны ён 1494 годам, калі Аляксандр, сын Казіміра, Вялікага князя Літоўскага, дараваў гораду Магдэбургскае права і герб. Найбольш поўна гісторыя Высокага праследжваецца з 1511 года, калі кароль Сігізмунд I Стары падпісаў дакумент, па якім горад быў аддадзены ў пажыццёвае карыстанне мужу Ядвігі Гальшанскай маршалку Літоўскаму Яну Багдану Храптовічу па мянушцы Літаўр. У 1538 годзе Высокае бярэ ў арэнду Лаўрык Вольскі — продак Гераніма Хадкевіча. Потым сярод уладальнікаў Высокага сустракаюцца імёны канцлера Аляксандра Сапегі, яго сына Францыска, які пабраўся з дачкою Патоцкага Палагеяй і перадаў маёнтак ёй. Пасля смерці Францыска Палагея выходзіць замуж за Паўла Сапегу, маёнтак Высокае атрымаў у спадчыну князь Ксаверый Сапега. У 1805 годзе Высокае пераходзіць па спадчыннасці да ўнучкі Паўла Сапегі, дачкі Ксаверыя Марыі Патоцкай. Яна і яе дзеці былі апошнімі ўладальнікамі маёнтка і горада Высокае.

Гэтыя частыя пераходы з рук у рукі не спрыялі росквіту горада. Не міналі яго і войны. У час Паўночнай вайны 1700—1721 гг. была спалена драўляная капліца святой Барбары 1571 года. Пабудаваны на яе месцы касцёл лічыўся адным з лепшых у ваяводстве. У 70-х гадах 20-га стагоддзя касцёл быў пераабсталяваны пад спартыўную залу. У пачатку 90-х гадоў вернуты вернікам, зараз ідзе ягоная рэканструкцыя. Дзіўная, калі папраўдзе, рэканструкцыя. Вядуць яе прыезджыя палякі: прыязджаюць з-за мяжы сваім ходам, са сваімі будматэрыяламі. Трэба думаць, сваіх, мясцовых вернікаў-католікаў, якіх, як і паўсюдна на Беларусі, тут завуць чамусьці палякамі, мала, іх сіл не стае на аднаўленне святыні...

А самае цікавае ў горадзе — гэта Высокаўскі парк і замак у ім, закладзены ў 1678 годзе, узор бастыённай сістэмы ўмацаванняў. З усіх бакоў замак акружала вада. У 1748 годзе ён згарэў, засталіся дагэтуль руіны яго, але і яны ўражваюць. У 1815 годзе Палагея Патоцкая каля старога замка будуе палац. Ён збярогся, і сёння гэта — помнік палацавай архітэктуры перыяду класіцызму. У ім месціцца санаторная школа-інтэрнат для дзяцей-чарнобыльцаў. Парк наўкол палаца лічыцца прыроднай жамчужынай Беларусі. Нарэшце пачата яго рэканструкцыя. Чысцяцца сажалкі, рэчка Пульва, фасадам на пойму якой выходзіць палац. У парку растуць рэдкія дрэвы — сосны (чорная, веймутава), лістоўніцы (еўрапейская, даўрская), ясені, туі, каштаны, бук, пірамідальны дуб (ахоўваемы аб'ект прыроды), іншыя каштоўныя пароды дрэў. Аднак жа рэканструкцыя ідзе марудна — не хапае сродкаў, і ёсць небяспека таго, што вядзецца яна не надта прафесійна, не на належным навуковым узроўні...

Пра наш Высокаўскі парк я магу апавядаць бясконца. З ім звязана нямала ўспамінаў дзяцінства, юнацтва і сталых гадоў. У парку мы гулялі ў хованкі, сюды бегала дзеўчынёхай на танцы, тут ладзіліся колісь раённыя, а пасля гарадскія святы, школьныя і раённыя спартакіяды, розныя іншыя мерапрыемствы. Тут, пад шатамі старых дрэў, на беразе ціхай соннай сажалкі, пакрытай зялёнаю раскаю, добра адпачывалася душою. Я памятаю ўсё, звязанае ў маім жыцці з паркам у родным гарадку. Памятаю, як першы раз прыйшла сюды са сваім мужам, і як ён захапляўся, здзіўляўся, і не ўтойваў добрай зайздрасці ад таго, што Высокаўскі парк ці не лепшы за парк у ягоным куды больш старажытным Лагойску. Памятаю, як упершыню прыходзіла сюды з сынамі — са старэйшым і з малодшым, і як яны таксама захапляліся, а найперш парываліся залезці ў таемныя змрочныя лёхі замкавых падзямелляў, што там-сям зеўралі ў высокіх і крутых схілах земляных валоў. Ды хіба пра ўсё распавядзеш?

Гэтым разам я не пайшла ў парк. Снежаньскі дзень кароткі, як заечы хвост, і хмарнашэры, а ўжо і вечарэла, і там, у парку, было зусім ужо змрочна і вусцішна.

І на гарадок імкліваападаў змрок. Запальваліся сям-там рэдкія ліхтары. Я ішла вузкім тратуарам моста. Сюды святло ліхтароў з пагорка ля школы не даставала, і вада ў Пульве была чорная, як бяздонная. Яна марудна, цяжка плыла ў парослых травою берагах. І разам з ёю, падалося, плыве шырокае старадаўняе рэчышча Пульвы, парк з белым палацам на пакатым схіле, касцёл з дзвюма незавершанымі як след вежамі і ўвесь мой родны з дзяцінства гарадок. Мой і як бы не мой, бо ўжо бачыцца, пабачыўся неяк быццам збоку. Вось як сёння.

Куды плывеш, гарадок, места Высокае на Пульве? У XXI стагоддзе? З чым плывеш?

Ціха было наўкол...

**Марыя МІХАЙЛАВА**

*Высокае — Мінск*

 **ЧАСАПІС**

## Дыялог. Працяг будзе

**7 снежня ў Літаратурным музеі Янкі Купалы адбылася паэтычная вечарына, прысвечаная паспяховай рэалізацыі беларуска-нямецкага культурніцкага праекта. Гэта паэтычны дыялог "Каардынаты сучаснасці". Вынікам працы беларускіх і нямецкіх інтэлектуалаў стаў зборнік "Кропка, кропка, працяжнік" — вершы нямецкіх паэтаў Элькэ Эрб, Норберта Гумэльта і Сары Кірш на мове арыгінала і ў перакладах Алеся Разанава. Друк выдавецтва "Тэхналогія", укладанне Элькэ Эрб, паслугі кансультанта Галіны Скакун. Вёў вечарыну Анатоль Вярцінскі. На жаль, не здолела прыехаць Сара Кірш, таму на пытанні, якія маглі быць зададзены ёй, адказвалі спадарыня Эрб і спадар Гумэльт. Слухачы маглі параўнаць гучанне вершаў па-нямецку і па-беларуску.**

**Алесь Разанаў гаварыў аб праблемах, якія ўзнікалі ў часе перакладу, і пра тое, як яны вырашаліся. Усе, хто браў слова, наўпрост ці ва ўскоснай форме выказвалі задавальненне самім фактам паэтычнага дыялога і той акалічнасці, што пад уплывам культурніцкіх кантактаў у Беларусі сцвярджаецца прывабны вобраз Германіі і немцаў.**

**Праект здзейснены пад эгідай Інстытута імя Гётэ ў Мінску. І хоць наклад зборніка невялікі — усяго 300 асобнікаў, паэтычны дыялог Беларусь—Германія ўжо ўспрымаецца як важная вяха ў культурніцкіх стасунках дзвюх краін. Безумоўна, так удала распачаты дыялог будзе мець працяг.**

**П. В.**

## "Лебядзінае возера" з японскім акцэнтам



**Загалоўныя партыі ў спектаклі "Лебядзінае возера", які прайшоў 1 снежня ў Нацыянальным акадэмічным тэатры балета рэспублікі, выканалі артысты з Японіі, лаўрэаты міжнародных конкурсаў Таку Сайгу і Мягумі Асаеда.**

*На здымку: сцэна са спектакля.*
*Фота Віктара ТАЛОЧКІ*

## "Кантакты і дыялогі", N 11—12

**Гэты здвоены нумар бюлетэня надрукаваны ў павялічаным аб'ёме і разасланы дзякуючы дабрадзейскай дапамозе швейцарскага Фонду "PRO HELVETIA". А пачытаць у ім ёсць што, бо змешчаны шэраг цікавых, пазнавальных матэрыялаў. У першую чаргу гэта тычыцца тых, што друкуюцца ў раздзеле "Беларусы ў свеце", якім нумар і адкрываецца: "Чатыры стагоддзі ўдзелу беларускай дыяспары ў фарміраванні соцыума Сібіры" У. Галузы, "Цюменская "Беларусь": учора, сёння, заўтра" С. Бальшакова, "Іркуцкае таварыства беларускае культуры (ІТБ)" Г. Гедвілы. Да 2000-годдзя Хрысціянства прымеркавана публікацыя артыкула А. Надсона "Працягваючы справу Святых Апосталаў славянаў (Развагі перакладчыка літургічных тэкстаў)". Прадстаўлены раздзелы "Беларускае таварыства дружбы ў дзеянні", "Беларусы ў свеце", "Рэцэнзуем кнігі", "Хроніка беларусазнаўчага жыцця", "З рэдакцыйнай пошты".**

З НАГОДЫ

# Гэй, панове, падтрымаем... Каго?

ЯК НІ ДЗІЎНА, вестка, якая два-тры месяцы назад трапіла мне на слых і насіла на сабе адзнаку няпэўнасці, пацвердзілася: робіцца спроба раскалоць Саюз беларускіх пісьменнікаў і стварыць новае творчае аб'яднанне, новы саюз. Навошта?

Вядома, думалася мне, далёка не ўсіх літаратараў задавальняе дзейнасць існуючага саюза, дый сама грамадская і палітычная актыўнасць пісьменнікаў катастрафічна ўпала, заглухла, як, зрэшты, і творчая рупнасць багата ў каго, чаго граху таіць. Многія з іх рэдка бываюць у сядзібе СП і нават не ведаюць, што там робіцца. У такіх умовах і пры такіх акалічнасцях паспрабуй зрабіць для ўсіх што-небудзь вартаснае.

У думках маіх ішоў, цягнуўся паласой нейкі апраўдальны матыў для цяперашняга кіраўніцтва саюза. Да гаротнага і заняпалага стану пісьменніцкая арганізацыя ішла яшчэ пры папярэднім складзе сакратарыяту, які ўзначальваў Васіль Зуёнак, выдатны паэт, старанны і шчыры чалавек, — арганізатар для роўнага часу.

Ужо пры ім СП садзіўся на мель, ды мала таго — здаў свой адзіны храм — Дом літаратара. І зноў жа тут ёсць апраўдальны матыў. Па маіх назіраннях, "экспрапрыяцыя" будынка стала помстай пісьменнікам: яны асмеліліся сімпатызаваць дэмакратам і жыць, захоўваючы свой духоўны і грамадзянскі статус. І таму разбіваліся ў мокрыя пырскі і белы туман адна за адной спробы Зуёнка і адваката Веры Страмкоўскай абараніць праз органы правасуддзя права СП на свой Дом.

Пры ўсёй шчырай павазе да творчых людзей, якія кіравалі і кіруюць саюзам, я мушу адзначыць іх хібы або, скажам так, няўдачы ў працы. Паэт Уладзімір Някляеў, як, можа, ніхто з яго папярэднікаў, любіў сябе ў становішчы кіраўніка саюза. Але гонар падказваў, што ён павінен выправіць справы, зрабіць тое, чаго не зрабілі яго папярэднікі, вярнуць страчанае, а менавіта Дом літаратара, і абараніць свята святых для пісьменнікаў — родную мову. Эвой! Гэта ўжо звышзадачы, скажа мне нехта, — манілаўшчына... Каб тое пры нашай новай і навейшай рэчаіснасці?. Ці ж не пры ім забралі ў саюза часопіс "Першацвет"? Так. Але ж Някляеў выкарыстоўваў свой дар паэта і палітыка, заводзіў і ўмацоўваў знаёмства ў вярхах, шукаў там сяброўства ў разліку, што пераканае, каго трэба, і вырашыць стратэгічныя і тактычныя задачы для Саюза пісьменнікаў. Не атрымалася. А тут яшчэ непрэліўкі з фінансавымі справаздачамі па "Крыніцы", па часопісе якому ён быў рэдактарам. І паэта Някляева ўзарвала.

Знешне эмацыянальны творчы выбух Уладзіміра Пракопавіча праявіўся ў палкіх публікацыях "Антиподы и эфиопы" і "Я быў і застаюся грамадзянінам сваёй краіны" ("Народная воля" за 8.06.1999 і за 21.07.1999). Сюды ж адносіцца і верш "Народу можна засціць зрок..."

Цяпер можна ўявіць сабе, у якім шоку аказалася кіраўніцтва саюза пасля палітычнага катапультавання за межы рэспублікі У. Някляева. Ён самахоць аказаўся на абочыне грамадзянскага жыцця і палітыкі.

Я не схільны, аднак, вініць у бяздзейнасці сённяшняе кіраўніцтва саюза. А хто не разумее гэтага, таму нічога больш не дакажаш — не ва ўсіх нашых літаратараў выпрацаваны орган, каб гэтакія рэчы ўспрымаць.

Значыцца, нам патрэбен новы саюз?.. Ага. Я пакуль не ведаю, што нам патрэбна. Я не ўцяміў гэтага і з артыкула Э. Скобелева "Вехи литературного процесса в Беларуси XX века и позиция писателя" ("Народная газета" за 30 лістапада — 2 снежня 2000). Таму пачынаю распытваць у прыхільнікаў новага саюза, якімі матывамі яны кіруюцца, што імі рухае. Мушу зазначыць, адны з іх самі мне патэлефанавалі, другіх я знайшоў. Дык вось я слухаю:

ГОЛАС І (зварот да мяне). Васіль, наколькі мне помніцца, ты заўсёды выступаў за справядлівасць. А тут справа такая... Ствараецца новы саюз. У Саюзе пісьменнікаў кіраўніцтва нічога не вартае, не праводзіць ні пленумаў, ні з'езда, нават пасля таго, як Някляеў выкінуў гэты нумар... У саюзе даўно ўсім запраўляюць Бураўкін ды Гілевіч, што яны скажуць, тое і робіцца. А яшчэ там Быкаў за ідала, якому пакланяюцца!

— Няхай... А што ты маеш супраць Быкава? Ён зрабіў сваю справу, якую я назваў бы вялікай.

— Усе робяць, ды не з усімі лічацца. А Быкаў, чуеш, супраць саюза з Расіяй выступае!

— Шэльма, Быкаў, няйначай!.. А ты, калі шчыра, на што пакрыўджаны?.. Цяжка жыць? Не стае грошай на хлеб?

— На хлеб-то хапае больш-менш. У гэтым годзе ў "Школьнай бібліятэцы" выйшла мая кніга, а ў часопісе "Полымя"— аповесць.

— Віншую!.. Што ж ты мне прапануеш?

— Падумай наконт...

— Чакай, а якая арыентацыя ў твайго саюза? Ён будзе падтрымліваць палітыку далучэння?..

— Мяркуецца, што ён увальецца ў Саюз пісьменнікаў Расіі.

— Уга! І хто ж яго стварае?

— Скобелеў, Пашкоў... Нам абяцаюць падтрымку, прынамсі, — новы часопіс.

— Разумею... І Навуменка, мой знаны зямляк, напэўна, у новы саюз запісаўся? Ён і Шамякін...

— Не-е, і Навуменка, і Шамякін адмовіліся. Яны за адзіны Саюз пісьменнікаў.

— Тады якія ж яшчэ творчыя сілы выступаюць за адасабленне ад нацыянальнага Саюза пісьменнікаў?

— Сульянаў, Спрынчан, Спрынчан-малодшы... Усяго каля трыццаці чалавек.

Цікава, думаю, хто ж, апроч улад, можа фінансаваць у Беларусі новы часопіс. А калі так... Калі ўлады?.. Скажам, падтрымку ім дакляруе вертыкаль. І, калі на тое, яна робіць гэта не без карысці; яна зацікаўлена ў новым саюзе. Але, калі глыбей капнуць, дзе тыя сродкі ў вертыкалі? Таму калі яна і стане фінансаваць новы часопіс, які будзе выходзіць, напэўна, на рускай мове, то забярэ іх ад часопіса "Полымя", высахшага ўжо і так у пергамент ад галоднай пайкі, а там якніяк мой вялікі радзецель за новы творчы саюз таксама друкуецца.

"В этом случае, — не пакідае ніякіх сумненняў і аўтар "Вех" Э. Скобелеў, — произойдет определенное перераспределение материальных средств, ныне целиком используемых СБП, ставшего в основном орудием контрпродуктивных сил".

— Не разумею, — кажу свайму прыяцелю, — як можна адцурацца ад свайго роднага берага і стаць літаратурным падданым заімглёнай і рызыкоўнай краіны?

— Ды я ж не супраць роднага. Адно ў савецкія часы ў Маскве друкаваліся толькі нашы літаратурныя свяцілы.

— Гэта не так, — пярэчу. — Я, напрыклад, не быў ні геніем, ні свяцілам, а выдаў у Маскве некалькі кніг.

— Тады і ты меў перавагу...

— А ты цяпер хочаш яе займець? І зробіш гэта, плюнуўшы ў твар тым, хто меў і мае падставы лічыцца нацыянальным сцягам, нацыянальным гонарам?..

— Ды не-е...

— Слухай, мілы чалавек, — я пачаў ускіпаць, — мне хочацца пасласць цябе туды, куды Макар цялят не ганяў! Прабач... У новы саюз я разам з табой не пайду! І, калі ты, чалавеча, безнадзейна сляпы і не бачыш, што сёння робіцца, я не доктар і відушчым цябе не зраблю. На жаль!

Трывога і цікаўнасць да ходу падзей вакол пісьменніцкага саюза ўвесь дзень не пакідалі мяне. Я быў ужо зусім перакананы, што ўтвараецца не што іншае, як прыдворны Саюз пісьменнікаў без усялякай нацыянальнай адметнасці, запалітызаваны і зацыклены на зрашчэнні з вялікай Расіяй.

ГОЛАС 2 (адказвае мне). А ведаеш, Васіль, я, уласна, ніякай арганізуючай ролі ў фарміраванні гэтай новай асацыяцыі або саюза не адыгрываю. А ў прынцыпе... Ну стварылі ж нашы пісьменнікі элітны Пэнклуб! То чаму б не стварыць і новае творчае аб'яднанне. Тым больш, што няма ўжо ні Някляева, ні саюза, які ён узначальваў. Не працуе саюз. Хіба ты не ведаеш, што туды ніхто з пісьменнікаў не ходзіць?

— Прабач, — кажу, — сустракаю я там пісьменнікаў. А ты перакананы, што ў новы саюз усе пісьменнікі пойдуць?

— Паглядзім... Запісваюцца ж... Змітрок Марозаў, напрыклад.

— Адно цябе называюць закапёршчыкам...

— Не-е, я так заняты, што мне не да гэтага! Там, калі шчыра, Бондар разгортвае дзейнасць.

— А хто ж будзе кіраваць новым саюзам?

— Магчыма, не адзін чалавек, а некалькі сустаршынь.

Я дзякую чалавеку за гутарку і адчуваю яшчэ большы непакой ад таго, што чагосьці не разумею. Я не разумею, як нацыянальна адметнай асобе — паэту можна ўдзельнічаць у нейкім аб'яднанні, скіраваным, мякка кажучы, на занядбанне нацыянальнай літаратуры? А калі глыбей — на ліквідаванне нацыянальных каштоўнасцей. Уцяміць варта ход думкі Э. Скобелева, калі ён даводзіць, што "беларуская литература, вобрав в себя всю мощь русской классической литературы и весь размах советской, сразу же поднялась к самым сложнейшим стилям и высшим духовным переживаниям", калі сцвярджае, што "ее социологичность и историзм ожидает широкое признание".

То добра, пане! Аднак Э. Скобелеў удакладняе, што, уласна, для такога прызнання патрэбна... Лічыце, "только одно: чтобы действующая власть, проявляющая столько забот о нашей культуре, не поскупилась бы на мудрый проект **по развитию белорусского литературоведения и белорусской литературной критики** (выделено автором), застывших на пролеткультовских позициях и лелеющих свое невежество как своеобразие".

Пытанне: ці не азначае гэта, што пры такім "адрыве" тэорыі ад практыкі літаратуры трэба мяняць не толькі творчы саюз і ягонае кіраўніцтва, мяняць трэба крытыкаў і аналітыкаў у тэрміновым парадку?! Магчыма-магчыма... Адно застанецца ззяць у вяках, як нятленны скарб, думка Э. Скобелева, ён сам у гэтым перакананы, і адсюль: "...я повторяю, что в идеологических наставниках не нуждаюсь и **национального диктата не принимаю, от кого бы он ни исходил**" (выделено автором). Дзіўна, якія ж дыктатары ў краіне "народнай дэмакратыі", дзе ён жыве сёння, і чым яны ягоную мосць так палохаюць?

ГОЛАС 3 (адказвае мне). На жаль, я не чула аб перспектыве ўваходжання новага творчага саюза ў склад расійскага Саюза пісьменнікаў. Напэўна, гэта нейкая прыхаваная плынь, намаганне асобных запалітызаваных літаратараў. Шчыра, я не стаю ўбаку ад працэсу ўтварэння новага саюза, але думаю, што не варта з гэтым спяшацца. Не ўсе пісьменнікі разумеюць, навошта патрэбны новы саюз, і багата хто, як Іван Чарота, напрыклад, даводзіць, што трэба, маўляў, там, у існуючым Саюзе беларускіх пісьменнікаў пашукаць ладу, абнавіць кіраўніцтва, паспрабаваць актывізаваць ягоную дзейнасць. А я бачу, што там кіраўніцтва не зменіш, бо моцны ўплыў тых, хто ўплываў і на Васіля Зуёнка і хто фарміраваў новы склад праўлення. Мы з ім доўга дыскутавалі, і Чароту я, бадай, пераканала ў неабходнасці новай творчай структуры.

— Так-так... Мяне, — кажу, — радуе твой абнаўленчы імпэт. Але ці не чакае вас, нас, дапусцім, — усіх, хто ўтворыць новы саюз, наперадзе новае расчараванне?.. Нехта ж з ініцыятараў, пэўна, мае свае адмысловыя амбіцыйныя разлікі і, трапіўшы ў кіраўніцтва саюза, пры падтрымцы ўлад зробіць усё, што яму і ўладам пажаданым будзе. Хто плаціць... Такая прымаўка ёсць.

— Вось таму я і кажу, што праект яшчэ раз трэба абдумаць. Не варта спяшацца.

— Ты гэта даводзіш мне з дыпламатычных меркаванняў?

— Не, у душы яшчэ не страціла непакою за лёс дзіцяці, якое пры нашых клопатах можа нарадзіцца.

— А ведаеш, саюз, прычым любы творчы саюз мае шанцы на жыццё ў поўным сэнсе слова толькі пры статусе сваёй незалежнасці! Аднак хто яе сёння мае?.. З творчых аб'яднанняў, бадай, адно БАЖ.

— Падобна на тое...

— Новы Саюз пісьменнікаў, — працягваў я свае дэфініцыі, — калі ён не стане або перастане быць прыдворным — распадзецца. Хіба не? Ён распадзецца хутчэй за наш традыцыйны, даўні, усім знаёмы Саюз беларускіх пісьменнікаў, які, вядома ж, кульгае сёння, як і ўсе, хто дбае пра ўласны гонар і годнасць. Лягчэй за ўсё ад такога "калекі" адмовіцца. Ці не так?

— Што галава — то розум!

— Які б там ні быў кіраўнік сёння, саюз

будзе кульгаць. Таму ці мае рацыю той, хто дакарае кіраўніцтва?

— Пэўна... Нешта муляе і мне. Як бачыш: я за тое, каб добра падумаць.

Цікаўнасць цягнула мяне пагутарыць яшчэ з некаторымі прыхільнікамі новага творчага аб'яднання, але я адчуваў сябе стомленым і ад тых гутарак, што меў, і баяўся, што патану ў шырокім разводдзі і стракатасці думак, пачуццяў, уяўленняў пра новае фарміраванне. Да таго ж, перада мной на пісьмовым стале ляжаў артыкул пісьменніка Э. Скобелева.

Уяўляю, які рэй усчаўся б, каб мы сабраліся на сход!

Але толькі ж на сходзе перш-наперш была б справаздача. Напрыклад, за два з паловай гады... Што зроблена?

І мне чуецца голас Вольгі Іпатавай, на якую лёг асноўны цяжар у кіраўніцтве Саюзам пісьменнікаў.

Так здарылася, што новаму складу праўлення ў спадчыну перайшла запазычанасць па ўтрыманні Дома творчасці на Іслачы, і яна, запазычанасць, складала ладную суму. За яе фінорганы пагражалі забраць катэдж на тэрыторыі Дома творчасці.

Ці справілася новае пісьменніцкае начальства з тым, каб адвесці пагрозу?

Так. Хоць гэта было — о-ё-ёй! — найцяжэйшым выпрабаваннем.

Далей... Праўленне памяняла фінансавыя мінусы на плюсы і ўжо за кошт сродкаў Літфонду ў 2000 годзе пачало выдаваць пісьменнікам пуцёўкі ў Дом творчасці, што пасля доўгай, глухой, даўкай паласы ўспрымалася як цуд. Ці ж гэта не добры знак і не поспех у дзейнасці творчага саюза?

Тым часам апантаныя шалам чыноўнікі, якія раней было спакусіліся на Дом літаратара і забралі яго, зрабілі чарговы накат на саюз, каб забраць кабінет у Іпатавай, пакінуты раней за пісьменнікамі. Чаго варты адны іх лісты, у якіх пісьменнікі разглядаюцца як утрыманцы і прышэльцы ў грамадстве.

Ну і зноў жа: ці адвяло кіраўніцтва саюза ад сваёй сядзібы гэту навалу? Так. Хоць тут і спатрэбілася праявіць нямала вытрымкі, прысутнасці духу, адданасці справе — на справе прэстыжнага творчага аб'яднання, што б пра яго Скобелеў і некаторыя чыноўнікі ні казалі.

Цяпер пяройдзем да іншых пытанняў. Праўленнем саюза праведзена два семінары маладых літаратараў на Іслачы, па 60 чалавек кожны.

У Саюзе пісьменнікаў працуюць творчыя секцыі і праце Камісія па прыёме новых сяброў у саюз. Як ніколі, актыўна і плённа пачало працаваць літаратурнае аб'яднанне. На яго пасяджэнні, якім кіруе А. Масарэнка, часам збіраецца да сотні маладых аматараў прыгожага пісьменства.

А штогадовая падтрымка моладзі — хіба не прыклад? 10 перспектыўных і маючых вострую патрэбу студэнтаў вылучаюцца на стыпендыі Міністэрства культуры.

...Пашыраюцца кантакты з замежнымі літаратарамі. Праведзены семінар перакладчыкаў, і як вынік, у Балгарыі выдадзены тоўсты том "Анталогіі беларускай паэзіі". У Іспаніі рыхтуецца да выдання зборнік "Беларускія апавяданні". Дасягнута дамоўленасць з расійскімі літаратарамі аб выданні зборніка беларускай паэзіі ў Маскве.

...Ладзяцца вечарыны і сустрэчы пісьменнікаў з чытачамі, упохапкі чыняцца прыёмы замежных гасцей, і ўсё гэта пры адсутнасці пэўных фінансаў або пры тым, што крыніцай іх з'яўляюцца ўласныя кішэні. Тут нават пахаванне нябожчыка вырастае ў праблему.

...Стратэгічнай, урэшце, назавём праграму развіцця далейшай рупнасці Літфонду. Пры Літфондзе створана выдавецтва і выдадзена некалькі кніг, у тым ліку зборнік "Беларускія апавяданні" на нямецкай мове.

У палітычным плане, сказала б на сходзе Іпатава, саюз умеркаваны і цвёрда стаіць на сваёй спадчыннай нацыянальнай глебе. Таму, пры належнай увазе і цярпімасці да яго творчага духу і да грамадзянскіх памкненняў, пры спагадзе дзяржавы, ён, былы пакутнік, ён, былы цяжкахворы, ужо сёння можа адкінуць прэч мыліцы і актыўна працаваць на духоўнае адраджэнне і ўзбагачэнне грамадства. Саюз творцаў жыве. Саюз будзе жыць!

Прыкладна так, сказала б Вольга Іпатава. А я думаю пра галасы некаторых асоб, якія гучалі і гучаць дысанансам і спрабуюць стварыць бог ведае што.

"Боже, как все это смешно и наивно! Как все зловеще и пагубно — ради своей побитой молью шкуры играть интересами нации!" — так палымяна, імпэтна, утрапёна сказаў у сваім артыкуле Э. Скобелеў і, напэўна, не ўцяміў, што сказаў пра сябе.

Калі б я не быў беларусам, то, магчыма, гукнуў бы: "Гэй, панове, падтрымаем пачын патрыётаў Расіі". Але ж я такі гонар маю і свае добрыя пачуцці да суседніх народаў і іх літаратараў стрымліваю спадчыннай бацькоўскай вуздэчкай: "Суседа паважай, а перадусім будзь патрыётам сваёй зямлі, сваёй Айчыны!"

**Васіль ЯКАВЕНКА**

УГОДКІ

# Сеяў першае зерне

## ДА 125-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Альберта ПАЎЛОВІЧА

Вуліца Раманаўская Слабада ў сённяшнім Мінску нічым не падобная на колішнюю Нова-Раманаўскую. Дый не так даўно яна была і не Раманаўскай Слабадой, а Рэспубліканскай. А Нова-Раманаўская ў канцы мінулага — пачатку нашага стагоддзя нічым асабліва не вызначалася. Жылі тут гарадскія мяшчане. Пераважная большасць іх добра ведалі адзін аднаго. Таму, калі ў доме нумар 36 пасялілася новая сям'я, хутка на яе звярнулі ўвагу. А неўзабаве ведалі, што гаспадара завуць Альберт, прозвішча — Паўловіч. Праце ва Упраўленні Лібава-Роменскай чыгункі. Аднак Паўловіч звярнуў увагу старажылаў, не столькі месцам сваёй работы, колькі тым, што вельмі ж адрозніваўся ад іншых мужчын: не курыў, не браў у рот чаркі, а да ўсяго не займаўся тымі справамі, без якіх не абыходзіцца, калі хочаш падтрымліваць у доме належны парадак. І дроў неабходна напілаваць, і дрэвы ў садзе паабразаць. Ды мала які занятак можа знайсці мужчына. Але ў А. Паўловіча быў іншы клопат. Цёплай вясной, а тым больш улетку ці ранняй восенню ён спяшаўся ўладкавацца на лавачцы пад грушай, якая ў садзе вылучалася з усіх дрэў. Часам моўчкі сядзеў, а то нешта пісаў. А яшчэ любіў маляваць...

"Дзівак-чалавек" — гаварылі некаторыя пра яго. Аднак так працягвалася да той часіны, калі даведаліся, што адзін з твораў А. Паўловіча апублікаваны ў газеце "Наша Ніва". Яе на Нова-Раманаўскай ніхто не выпісваў і не купляў, але ўсе адшукалі нумар за 14 жніўня 1907 года. Разгарнулі і знайшлі верш "Песня", пра які столькі чулі. Твор спадабаўся, бо быў напісаны проста, ад імя селяніна:

> ***Выбачайце мне, паночкі,***
> ***Што не здатны я спяваць,***
> ***Жыццё ў смутку і ў нядолі***
> ***Прывучыла век маўчаць.***

Пасля гэтага А. Паўловіча на Нова-Раманаўскай пачалі паважаць, а сёй-той спяшаўся прыдбаць і "Нашу Ніву", каб пазнаёміцца з творамі "свайго" паэта. А сам ён, акрылены падтрымкай, якую аказалі супрацоўнікі газеты, пасылаў новыя вершы. Адзін з іх — "Каліва праўды" — прысвяціў Янку Купалу. Гэты верш быў змешчаны 14 сакавіка 1908 года:

> ***Памалу, без спеху, пяхотай па ночы***
> ***Да веку дваццатага ўшлі:***
> ***Дзе вобмацкам трохі,***
> ***заплюшчыўшы вочы,***
> ***Дзе бокам, дзе ракам паўзлі...***

А. Паўловіч ведаў, што Я. Купала жыў у Вільні, працаваў у "Нашай Ніве" і адначасова — у бібліятэцы "Веды". Падумаў: магчыма, Іван Дамінікавіч адгукнецца лістом. Але Я. Купала ў адказ напісаў верш "Песняру Альберту Паў-у", які апублікаваў у нумары за 25 красавіка таго ж 1908 года:

> ***Дам я Вам слоўца, братние слоўца,***
> ***Шчырае слоўца, не знаю другіх, —***
> ***Сейце па роднай, беднай старонцы***
> ***Праўду і ў думках, і ў песнях сваіх.***

Верш Я. Купалы дапамог яшчэ больш паверыць у свае сілы, надаў той упэўненасці, без якой ісці літаратурнай дарогай цяжка. Праз два гады А. Паўловіч прысвяціў Я. Купалу яшчэ адзін верш — "Ноч на Івана Купалу". Было і асабістае знаёмства з песняром.

Яшчэ больш сяброўства А. Паўловіча з Я. Купалам умацавалася пазней, калі Іван Дамінікавіч пераехаў на сталае жыхарства ў Мінск. А ўвогуле для А. Паўловіча, па словах Алега Лойкі, "стаў як бы першым зрубам беларускай літаратуры ў Мінску, які спрыяў згуртаванню сіл беларускай літаратуры, і ўжо ў гэтым ёсць заслуга А. Паўловіча. Але не толькі ў гэтым". Працягваючы думку А. Лойкі, засведчым: заслуга і ў тым, што Альберт Францавіч шмат пісаў. Шкада, што не ўсе гэтыя творы траплялі ў друк, але тое, што змяшчалася, а пасля ўвайшло ў зборнік "Снапок", які пабачыў свет у Вільні ў 1910 годзе, варта ўвагі.

Папулярнасць А. Паўловіча ў тагачаснага чытача была вялікай і ў першую чаргу дзякуючы гумарыстычным вершам. Не праходзіла ніводнага літаратурнага вечара, каб на ім побач з творамі Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа не дэкламавалася напісанае Альбертам Францавічам. Наколькі высока трымаў планку ацэнак Максім Багдановіч, але і ён пісаў: "...Ёсць у Паўловіча колькі вершаў, каторыя сведчаць, што ён мае змогу быць праўдзівым паэтам". Але і М. Багдановіч аддаваў перавагу сатыры і гумару: "Жартаўлівыя вершы А. Паўловіча ...нягледзячы на розныя недахваты, здабылі яму вялікую прыхільнасць паміж беларускіх чытачоў".

На гэтую адметнасць паэзіі А. Паўловіча пазней звярнуў увагу Максім Гарэцкі, калі ў сваёй "Гісторыі беларускай літаратуры" адзначыў: "Арыгінальнае месца ў нашаніўскай паэзіі заняў Паўловіч сваёй гумарыстычнай, жартаўлівымі вершамі, частка якіх змешчана ў "Снапку", а другія й дагэтуль раскіданы па розных часопісах. Апрача вершаў з сваім арыгінальным сюжэтам, Паўловіч мае вершы, сюжэты якіх узяты аўтарам з народных казак, з дзяўных фацэлій і з міжнародных жартаў: аднак усё гэта добра прыбрана ў Паўловіча ў наш нацыянальны тон". М. Гарэцкі працягваў: "Вясёлым смехам змагаецца пясняр з рознымі заганамі жыцця, а часам пераходзіць на с а т ы р ы ч н ы (разбіўка М. Гарэцкага. —**Я. Л.**), піша сатырычныя байкі, якімі навучае, засцерагае людзей не быць такімі, як яго смяхотныя героі".

Хораша пра гэтую своеасаблівасць таленту А. Паўловіча сказаў Гальяш Леўчык (дарэчы, яго меркаванне прыводзіць і М. Гарэцкі):

> ***Смешна часам баеш, дзядзька, —***
> ***Добра пасмяяцца!***
> ***Мо здаровы смех паможа***
> ***Гора не баяцца!***

Смех А. Паўловіча і сапраўды быў здаровым, бо ішоў ад народных, фальклорных традыцый, шмат у чым працягваў традыцыю анекдота. А такія анекдоты найчасцей ствараюцца на бытавой аснове і наўрад ці правамерна папракаць А. Паўловіча, як гэта рабілася ў савецкія часы, за адсутнасць у яго творчасці ярка выражаных сацыяльных матываў. А. Паўловіч меў талент іншага кшталту. Таму для яго было дастаткова высмеяць пэўную загану ці расказаць пра персанажаў, якія нечакана трапілі ў смешную сітуацыю. Што гэта сапраўды так, відаць па гумарыстычных вершах "Няўмекі і лекі", "Поп і цыган", "Пан і акуляры", "Рэцэпт", "З падслуханага" і іншых.

А. Паўловіч стаяў ля вытокаў жанру гумару і сатыры ў беларускай літаратуры XX стагоддзя, працягваючы традыцыі такіх выдатных сваіх папярэднікаў, як Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч... Напісаў А. Паўловіч і п'есу "Васількі", паклаўшы ў аснову бытавую сітуацыю, звязаную з традыцыйным любоўным трохкутнікам. І хоць у творы відавочныя мастакоўскія выдаткі, не будзем забываць: гэта першыя крокі новай беларускай драматургіі, а аўтар "Васількоў" — адзін з пачынальнікаў яе.

Недаацэнена належным чынам і лірыка А. Паўловіча. А яму ўдаваліся прыродаапісальныя творы, а таксама тыя, у якіх заклікаў народ прачнуцца ад векавога сну. Любоў да бацькоўскай зямлі асабліва адчувальна ў вершы "Родны край":

> ***...Дзе звон касы, дзе песня жнеяк,***
> ***Дзе чуцен зычны рык кароў,***
> ***Туды душой нясуся неяк,***
> ***Рой светлых дум ўздымае кроў.***
>
> ***А родных птушак як убачу***
> ***Адлёт, іх шумныя рады,***
> ***Здаецца мне, што з імі трачу***
> ***Спакой і шчасце назусёды!***

Займаўся А. Паўловіч і перакладамі твораў Аляксандра Пушкіна, Тараса Шаўчэнкі, Уладзіслава Сыракомлі, іншых паэтаў. Вось як, для прыкладу, гучыць у яго перастварэнні знакамітае пушкінскае:

> ***Я вас любіў, любоў яшчэ, быць можа,***
> ***У душы маёй пагасла не зусім,***
> ***Няхай яна вас болей не трывожа,***
> ***Я не хачу засмучваць вас нічым.***
> ***Я вас любіў бязмоўна і бязмежна,***
> ***З нясмеласцю і з рэўнасцю пры тым.***
> ***Я вас любіў так шчыра і так нежна.***
> ***Як дай вам бог каханай быць другім.***

Пісаў Альберт Францавіч і для дзяцей. Найчасцей — у шуфляду. Магчыма, і таму, што з другой кнігай "Перавясла" яму не пашанцавала — яна так і не выйшла. Да ўсяго рукапіс згубіўся, а ён складаўся з многіх неапублікаваных твораў. Не асабліва спрыяла творчасці і тое, што ў 1932 годзе пакінуў Беларусь. Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны жыў у Маскве. На радзіму больш не вярнуўся. Ваенные ліхалецце правеў на Урале, а з 1945 года да смерці 17 сакавіка 1951-га жыў у горадзе Курску (Расія), дзе і пахаваны.

Да апошняга часу пісаў вершы, займаўся перакладамі, маляваў алеем карціны. Было ў Альберта Францавіча і яшчэ адно захапленне — вышываў ніткамі дываны з рознымі краявідамі. Між іншым, два з іх дэманстраваліся на выстаўцы яшчэ ў 1914 годзе, а адзін з іх быў удастоены прыза. А яшчэ, як успамінала дачка А. Паўловіча Тамара Альбертаўна, "вельмі любіў займацца калекцыяніраваннем. Ён збіраў манеты, пёры розных марак і памераў, меў вялікую калекцыю паштовак з пейзажамі. І, відаць, са школьных год збіраў маркі. Быў заядлым філатэлістам. Сваю "марачную гаспадарку" (выраз бацькі) вёў надзвычай рупліва. Беражліва захоўваў шматлікія аздобы. Вітрына асабліва каштоўных марак пад шклом вісела на сцяне ў яго кабінеце".

Партрэт А. Паўловіча будзе няпоўным, калі не сказаць, што ў яго бібліятэцы захоўвалася шмат кніг з аўтографамі. Гэта былі ў асноўным надпісы беларускіх літаратараў, але на адной — "Расказы" — стаяў аўтограф Максіма Горкага: "Белорусу от великоросса". Атрымаў яго Альберт Францавіч у дарэвалюцыйны час, будучы ў Пецярбургу. Захоўваў і рукапісы вершаў Янкі Купалы, Змітрака Бядулі, Цёткі. Зберагаў і ноты музыкі Мікалая Чуркіна, напісанай да яго "Нацкюрна". Калі ж здароўе пагоршала, знайшоў новае захапленне: "рабіў шмат копій з карцін Левітана, Шышкіна і іншых рускіх мастакоў".

У сувязі з гэтым Тамара Альбертаўна канстатавала: "Гэтыя яго работы засталіся". А раней мусіла сказаць сумнае: "На вялікі жаль, асноўныя бацькавы рукапісы не захаваліся. Уцалела толькі нязначная колькасць вершаў". Таму і томік "Выбранае" А.Паўловіча, любоўна ўкладзены Сцяпанам Александровічам і выпушчаны "Мастацкай літаратурай" у 1975 годзе, толькі нязначная частка напісанага тым, хто пракладваў шлях беларускай сатыры і гумару і па меры таленту працаваў у іншых жанрах. Прыемна, што ў гэтай кніжцы можна ўбачыць рэпрадукцыі трох карцін Альберта Францавіча: "Пейзаж", "Узбярэжжа" і "Восеньскі пейзаж".

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**

КОНКУРСЫ

# Імя вучаніцы з Вілейкі прагучыць у Парыжы

У адпаведнасці з рэзалюцыяй 30-й Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА "Пра абвяшчэнне 21 сакавіка Сусветным днём паэзіі" ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў былі падведзены вынікі нацыянальнага этапу міжнароднага конкурсу вершаваных твораў сярод навучэнцаў пачатковай і сярэдняй школы. У ім узялі ўдзел вучні з розных гарадоў і вёсак Беларусі. Асаблівай актыўнасцю вызначыліся сярэднія школы N 3 г. Дзятлава, вёскі Ілья Вілейскага раёна, N 3 г. Вілейка. Журы, у склад якога ўваходзілі прадстаўнікі ЮНЕСКА, СБП, часопісаў "Маладосць", "Першацвет", газеты "Літаратура і мастацтва" і выдавецтва "Юнацтва", аднагалосна прызначыла першае месца Голубевай Ірыне, навучэнцы 7 "Г" класа СШ N 3 г. Вілейка за верш "Пазеляненіц патрон...". Другое месца атрымала мінчанка Валерыя Кустава за верш "Не выпадкова жыццё мне дадзена..." Становча была адзначана паэтычная творчасць Кацярыны Варславан (9 "Г", СШ N 3 г. Вілейка), Іллі Чайкоўскага (5 "Г", СШ N 3 г. Вілейка), Міколы Валынца (6 "Г", Вілейская гімназія), Сяргея Скамейкі з Бялынічаў (15 гадоў), Марыны Машко з вёскі Бярозаўка Докшыцкага раёна.

Імя пераможцы Ірыны Голубевай будзе абвешчана 21 сакавіка наступнага года ў Парыжы ў рамках святкавання сусветнага дня паэзіі 2001. У сваю чаргу Саюз беларускіх пісьменнікаў мае намер запрасіць найлепшых юных паэтаў на святочную вечарыну, што будзе зладжана ў 2001 годзе на Сусветны дзень паэзіі ў сталічным Доме літаратара.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

# Энцыклапедыя "Беларуская міфалогія" — міф ці рэальнасць?..

***Вось ужо на працягу некалькіх месяцаў у асяроддзі беларускай творчай інтэлігенцыі ідуць размовы пра стварэнне першай у сваім родзе на Беларусі энцыклапедыі "Беларуская міфалогія". Што гэта за кніга, пра што яна і хто з'яўляецца яе стваральнікам, — на гэтыя пытанні я і папрасіў адказаць аднаго з аўтараў энцыклапедыі, вядомага фалькларыста, кандыдата філалагічных навук, дацэнта кафедры тэорыі і гісторыі культуры БДПУ імя М. Танка Уладзіміра Аляксандравіча ВАСІЛЕВІЧА.***

**— Уладзімір Аляксандравіч, вядома, што энцыклапедыя такога кшталту створаная на Беларусі ўпершыню. Наколькі ўдалася, на вашую думку, атрымалася першая спроба?**

— Гаварыць, што няўдалая, напэўна, не выпадае, бо сапраўды, лепшыя спецыялісты розных галін навукі аб'ядналіся ў адзін калектыў і на чыстым энтузіязме зрабілі даволі вялікі том. Мне хацелася б думаць, што гэта ўдалая спроба яшчэ і таму, што мы ўклалі шмат сваіх ведаў, сіл, часу ў гэтую працу, абагульнілі велізарны факталагічны матэрыял. Канешне, пра якасць энцыклапедыі будзе меркаваць у першую чаргу чытач. Але, падкрэслім: нічога аналагічнага ў беларускай навуцы раней не было.

**— Колькі гадоў вялася праца над энцыклапедыяй і хто прымаў у ёй удзел?**

— Праца над энцыклапедыяй вялася на працягу двух з паловай гадоў. Ініцыятарам гэтай работы выступіла вельмі цікавая жанчына Ірына Клімковіч, якой першай прыйшла ў галаву ідэя стварэння такой энцык-лапедыі. Яна і стала на працягу ўсяго тэрміну напісання каардынатарам нашай работы. Кіраваць нашым калектывам мы даручылі філосафу, этналінгвісту, міфолагу Сяргею Санько. Гэта чалавек надзвычай глыбокіх ведаў. Старэйшая беларуская фалькларыстка Лія Салавей, філосаф Уладзімір Конан, археолагі Эдвард Зайкоўскі і Людміла Дучыц, фалькларысты Таццяна Валодзіна, Іван Крук, мастацтвазнаўца Яўген Сахута, культуролаг Ігар Вуглік, гісторык Андрэй Прохараў і іншыя. Ёсць у нашым імправізаваным калектыве аўтары з розных куткоў Беларусі, з Беласточчыны.

За час працы мы моцна пасябравалі, па-чалавечы адчуваем адзін аднаго. Абсалютна без усялякіх амбіцый успрымаем крытыку сваіх калег, узаемна дапаўняем артыкулы, прымаем гэтыя дапаўненні і заўвагі, бо, згадзіцеся, цяжка быць універсалам.

**— Раскажыце, калі ласка, пра структуру энцыклапедыі.**

— У энцыклапедыі больш за 700 артыкулаў. Мяркуецца, калі не памыляюся, каля 40 друкаваных аркушаў. А пачыналася ўсё вельмі сціпла, і ініцыятары меркавалі, што за 2 месяцы мы зможам выканаць сваю задуму. Але, калі мэтанакіравана пачалі распрацоўваць рэестр магчымых артыкулаў, то ён атрымаўся даволі шырокі. Пасля ўнутранага абмеркавання ён зноў істотна пашырыўся. Мы размеркавалі між сабою артыкулы і ў працэсе напісання дапаўнялі яшчэ, і яшчэ, і яшчэ, уключаючы не толькі міфалагічныя персанажы, але і артыкулы з астральнага кода, расліннага, жывёльнага, лічбавага, колеравага, прадметнага, каляндарнага, ландшафтнага і г. д. У выніку атрымалася вялікая праца.

Нам падалося, што ў гэтай энцыклапедыі мы павінны быць па-добраму кансерватыўнымі. Структура ў нас будзе традыцыйная: алфавітны парадак ад А да Я, і ў межах зместу вызначаецца шмат разнастайных кодаў, некаторыя з якіх я ўжо назваў.

**— Уладзімір Аляксандравіч, пра што можна будзе даведацца з энцыклапедыі "Беларуская міфалогія", якія там ёсць персанажы, вобразы — беларускія ці не толькі?**

— Наша энцыклапедыя напісана выключна на беларускім матэрыяле, хоць, безумоўна, мы не маглі абмежавацца толькі ім і ў якасці параўнанняў, паралеляў, супастаўленняў рабілі спасылкі на міфалогію іншых народаў. Паколькі існуюць салідныя энцыклапедычныя выданні "Мифы народов мира", "Мифологический словарь", якія ахопліваюць міфалагічныя персанажы ці не ўсіх народаў свету (акрамя хіба толькі беларусаў і ўкраінцаў), то нам падалося неабходным падрабязна раскрыць свет менавіта нашай, беларускай міфалогіі, уключыўшы, канешне, і нейкія агульнаславянскія вытокі.

**— Ці можна будзе кабыць энцыклапедыю ў гарадскіх кнігарнях?**

— Увогуле, гэтае пытанне не да мяне, а да выдаўцоў, — я ўсяго толькі адзін з выканаўцаў. Напэўна, калі нашая энцыклапедыя і выйдзе, то хутчэй за ўсё мінімальным накладам. Бо справа ўпіраецца ў сродкі. Думаецца, што ўся гэтая невялікая колькасць кніг разыдзецца ў першую чаргу паміж спецыялістамі, а наколькі акажацца магчымым закінуць на паліцы кнігарань частку накладу, я не ведаю.

**— Дзякуй за размову.**

**Вадзім ШКЛЯРЫК, студэнт БДПУ імя М. Танка**









*Наступны нумар "ЛіМа" выйдзе 5 студзеня 2001 года.*

**Са святамі!**

## ПАРОДЫІ

Павел САКОВІЧ

### Быць альбо не быць?

Не нарадзіцца —
гэта: не памерці...
Што ж — радуйся
бяссмерцю!.. Ды,
аднак, —
Калі разважыць сэнс
па гэтай мерцы:
Калі цябе зусім
няма самога —
Якая ж тут над смерцю
перамога?
**Васіль ЗУЁНАК**

*Мо лепш было б
не нараджацца,
Каб потым з жалем
не канаць?
Аднак тут трэба
разабрацца,
Пытанне спешна не рашаць.*

*Падумаўшы,
хачу прызнацца,
Што тут няма чаго й
гадаць,
Інакш бацькам
не сустракацца,
Мне з жонкай любаю
не знацца
І вершаў нават не пісаць!*

*Калі ж памерці
давядзецца,
І ў тым трагедыі
няма:
Жыць назаўсёды
застанецца
Паэт. Васіль
яго імя!*

### Настальгія па кароне

Я не стану ўжо ні
прынцам дацкім,
Ні — тым больш —
іспанскім каралём.
Мне б за ранг
паэта апраўдацца...
**Генадзь БУРАЎКІН**

*Расла мая кар'ера
вельмі крута:
І ранг паэта ёсць,
і ранг пасла...
Ды ўсё змянілася
ў адну мінуту —
"Невыязным" зрабіўся
я пасля.*

*Агорне смутак,
роспач іншым разам,
Ды пад сядлом заўсёды
мой Пегас:
Ударыць ён падковай,
я — абцасам,
Аж іскры веерам
навокал нас!*

*Куды ні глянь —
наставілі бар'ераў,
Ды ўзяць рэванш я
ўсё ж такі хачу.
Гатоў з Пегасам зноў я
да кар'еры:
Паслом паэзіі
праз межы паскачу!*

Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ

### Пагаварылі...

*Гаварыла жаба мужу:
"Да мяне скачы
ў калюжу".*

*Зіркнуў муж
на жабу прэсна:
"Удваіх нам будзе цесна.
Бач, таўшчэзная якая, —
Мне ўжо месца не хапае".*

*Папракнула жаба мужа:
"Адцураўся ад калюжы!"*

*Квакнуў муж:
"Адна нудота...
Надта хочацца ў балота.
Мошкі, ножкі ды лілеі,
Жабін хор душу сагрэе".*

*Штурханула жаба мужа.
"Лезь, гуляка, у калюжу!"*

*Муж патыліцу
пашкрабаў:
"І нашто мне баба жаба?
Я ў калюжы пабач ранкам
Знаўся
з жабкаю-каханкай".*

*Тут як рэзне! —
жаба мужу, —
Муж скаціўся у калюжу.*

*Дык пра што была
гаворка?
Дробязь...
Хатняя разборка.*

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА ЛіМ ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ** — *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Алесь ГАЎРОН** — *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856
Наклад 2812
Нумар падпісаны ў друк 21.12.2000 г. у 17.30
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 6754

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12